*Г. Г. Грыгаровіч*

# БЕЛАРУСКАЯ ІЕРАРХІЯ





Протоіерей Іоаннъ Григоровичъ.

І. І. Грыгаровіч

# БЕЛАРУСКАЯ ІЕРАРХІЯ

ДА ТЫСЯЧАГОДДЗЯ ХРЫСЦІЯНСТВА НА БЕЛАРУСІ



«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
МІНСК
1992

ББК 86.3 (2Б)
Г 91

Прадмова і пераклад
на беларускую мову
М. Нікалаева

Падрыхтоўка гістарычных дакументаў
С. Жэмайціс

Рэдактар І. Хаўратовіч

Грыгаровіч І.І.
Г 91 Беларуская іерархія / Мн.: БелЭн, 1992. — 102 с.

ISBN 5-85700-141-2

Григорович И.И. Белорусская иерархия

Гэты твор вядомага беларускага гісторыка і археографа протаіерэя І.І. Грыгаровіча напісаны ў 1824 г. і доўгі час лічыўся згубленым. Нядаўна яго рукапіс выяўлены ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу. Знаёмства з ім не толькі прыадчыняе яшчэ адну грань энцыклапедычнай дзейнасці беларускага вучонага і патрыёта, але і ўзбагачае нас новымі фактамі з гісторыі праваслаўнай царквы на Беларусі.

Г $\frac{0403000000 — 021}{М 318 (03) — 92}$ БЗ 237 — 92 ББК 86.3 (2Б)

ISBN 5-85700-141-2

## Прадмова

Кніга, якую Вы трымаеце ў руках, напісана вядомым беларускім гісторыкам і археографам Іванам Іванавічам Грыгаровічам у 1824 г. Гэта была першая навуковая праца, спецыяльна прысвечаная гісторыі праваслаўнай царквы на Беларусі. Але лёс гэтага твора склаўся так, што ён у свой час не быў надрукаваны і больш за 170 гадоў праляжаў у архівах (згодна легендзе — у бездані архіва Свяшчэннага Сінода). Даследчыкі і біёграфы І.І.Грыгаровіча ведалі, што такі твор існаваў, ведалі яго назву, але адшукаць яго не змаглі і зжыліся з думкай, што тэкст твора "Беларуская іерархія" страчаны і, магчыма, назаўсёды. І вось аўтару гэтай прадмовы пашчасціла натрапіць на тэкст гэтай кнігі ў Аддзеле рукапісаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, куды яна трапіла ў 1929 г. разам з падрыхтоўчымі матэрыяламі да работы над слоўнікам беларускай мовы, сямейнымі і інш. дакументамі І.І.Грыгаровіча. І цяпер яна перад Вамі ў перакладзе на беларускую мову.

Кніга "Беларуская іерархія" — адзін з першых твораў І.І.Грыгаровіча, тады яшчэ маладога даследчыка гісторыі рэлігіі на Беларусі. Пра гісторыю праваслаўя на Беларусі пасля І.Грыгаровіча пісалі многія даследчыкі, у тым ліку І.Чыстовіч, М.Каяловіч, А.Сапуноў, А.Мартас. Але знаёмства з невялікай па аб'ёме кнігай "Беларуская іерархія" карысна і сёння новай інфармацыяй і радасцю ад датыкнення да адной з першых цаглінак беларускай гістарыяграфіі.

Гісторыя стварэння гэтай кнігі непарыўна звязана з біяграфіяй яе стваральніка.

Іван Іванавіч Грыгаровіч нарадзіўся 1 верасня 1790 г. ў старажытным беларускім горадзе Прапойску (цяпер Слаўгарад) Магілёўскай губерні. Яго бацька пасля заканчэння Кіеўскай ду-

хоўнай акадэміі працаваў выкладчыкам рыторыкі ў Магілёўскай семінарыі, пазней прызначаны святаром у рагачоўскую крэпасць, адтуль пераведзены ў Прапойск і, нарэшце, у Гомель, у маёнтак графа М. П. Румянцава, дзе і служыў да канца жыцця. Яго маці, Марыя Раманаўна, была пляменніцай беларускага архіепіскапа Георгія Каніскага (1717—1795). У сям'і Грыгаровічаў было пяцёра дзяцей (3 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі), і яна ніколі не ведала вялікага дастатку. Вось толькі адзін факт з побыту Грыгаровічаў у Рагачове: камендант рагачоўскай крэпасці К.К.Таўпрэін з мэтаю дапамагчы мнагадзетнаму святару, запісаў двух старэйшых яго сыноў — Васіля і Рыгора — у свой батальён сяржантамі, каб яны, застаючыся "па малалецтву" пры бацьках, мелі права на армейскі паёк. Да дзесяці гадоў Іван Грыгаровіч жыў у Прапойску. Першапачатковую адукацыю атрымаў ад бацькі, які асаблівую ўвагу звяртаў на грунтоўнае засваенне сынам грэчаскай і лацінскай моў. У 1802 г. ён паступіў у Магілёўскую семінарыю. Захаваліся ўспаміны І.І.Грыгаровіча пра семінарскае жыццё, калі ён кватэраваў разам з братам Васілём у доме магілёўскай мяшчанкі па прозвішчы Грум: "Доўга не мог я прызвычаіцца ні да жыцця семінарыстаў- нахлебнікаў, ні да кашы, якой шчырая гаспадыня частавала нас ледзь не кожны дзень, запраўляючы яе для смаку не маслам, а "чарніламі". Пасля дамашніх ватрушак, галушак і іншых рэчаў, "чарнільная" каша (звычайная каша, але запраўленая маслам самага ніжэйшага гатунку — атопінай, ад якой пэцкаліся вусны і твар) страшна мне не падабалася. На наступны дзень прадставілі мяне начальству семінарыі, дзе бацька і пакінуў мяне, даўшы пятак медзі і неабходнае бацькоўскае благаслаўленне".[1]

Пры заканчэнні курса семінарыі І.І.Грыгаровіч быў атэставаны як адзін з лепшых вучняў. Асаблівыя яго поспехі былі ў мовах— ён так добра засвоіў грэчаскую і лацінскую мовы, што мог на іх свабодна размаўляць. У 1811 г. І.І.Грыгаровіч атрымаў месца выкладчыка грэчаскай і лацінскай моў у Магілёўскім духоўным павятовым вучылішчы. Жывучы ў Магілёве, ён прыязджаў на

---

1 Григорович Н. Сочинения духовного содержания протоиерея Иоанна Иоановича Григоровича. СПб., 1862. С.6.

канікулы да бацькоў у Гомель. Тут бацька прадставіў юнака графу М.П.Румянцаву. Дзяржаўны канцлер Расійскай Імперыі Мікалай Пятровіч Румянцаў, які быў лідэрам "французскай" партыі пры двары Аляксандра I, пасля вайны з Напалеонам адышоў ад палітычнай дзейнасці і перанёс сваю велізарную энергію і здольнасці (падмацаваныя незлічоным капіталам) на арганізацыю і падтрымку навуковай дзейнасці, збіранне рукапісных і старадрукаваных кніг, мецэнацтва. Каб зрабіць ласку свайму гомельскаму святару, М.П.Румянцаў згадзіўся пасляць здольнага да навукі яго сына Івана для атрымання далейшай адукацыі на свой кошт. Так І.І.Грыгаровіч аказаўся ў 1815 г. сярод студэнтаў Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі. На яго ўтрыманне граф Румянцаў штогод пералічваў 350 рублёў асігнацыямі.

За гады вучобы Іван Грыгаровіч найлепшым чынам асвоіў любімыя прадметы — гісторыю і філалогію, затое ахвяраваў матэматыкай, якую таксама выкладалі ў акадэміі. Захавалася яго заява, з просьбай дазволіць яму замест матэматыкі слухаць курс усеагульнай гісторыі: "Испытав многократно, что занятия по предмету математики служат мне немалым препятствием к занятию по другим учебным предметам, равно и то, что, будучи близорук, не могу я в точности примечать многосложных ея чертежей, принимаю смелость утруждать академическое правленіе дозволить мне вместо математики слушать курс всеобщей истории, и в сем не лишить милостивого решения"[1]. Будучы студэнтам акадэміі, І.І.Грыгаровіч выконваў і даручэнні М.П.Румянцава, адшукваючы патрэбныя для яго звесткі ў рукапісах. Часта яго запрашалі ў дом графа, дзе сустракаліся лепшыя знаўцы і аматары расійскай старасвеччыны, славутыя вучоныя — П.І.Кепен, А.Х.Вастокаў, К.Ф.Калайдовіч, П.М.Строеў, А.П.Ярмолаў і інш. Захаваная перапіска І.І.Грыгаровіча-студэнта і яго апекуна дае даволі поўнае ўяўленне пра характар іх кантактаў. Так, Грыгаровіч паведамляў графу пра неабходнасць перакладу на рускую мову сачынення Г.Папроцкага "Herby Rycerstwa Polskiego", пра свой намер працаваць

---

1 Григорович Н. Сочинения духовного содержания протоиерея Иоанна Иоанновича Григоровича. СПб., 1862.

над кандыдацкай дысертацыяй аб наўгародскіх пасадніках, пра складанне гістарычных даведак аб Васілю Яраславічу, князю Бароўскім, аб св. Зміцры Салунскім, Наўгарод-Северскім Праабражэнскім манастыры і інш.; ён перакладаў з лацінскай мовы лісты да Румянцава вядомага кракаўскага бібліяфіла Георгія-Самуэля Бандке і інш.

Пасля заканчэння ў 1819 г. акадэміі са ступенню кандыдата багаслоўя І.І.Грыгаровіч пытаўся згоды былога канцлера вярнуцца ў Гомель, каб заняць месца бацькі — протаіерэя гомельскага кафедральнага сабора. Граф паставіўся станоўча да такой прапановы, хаця і з пэўным шкадаваннем: "Вы маеце права кіраваць сваім лёсам, а я спагадліва стаўлюся да духоўнага звання і не суддзя, што Вы яму аддалі перавагу перад іншымі. Я Вас за тое хваліць павінен, што шчырая любоў да бацькоў цягне Вас у Гомель, аднак нельга ж мне зноў не заўважыць, як неаднойчы ў Пецярбургу заўважаў я ў размовах, што абодва гэтыя станоўчыя Вашыя імкненні зусім адсякаюць Вас ад маіх намераў. Вам вядома, што ўбачыўшы ў Вашай асобе дакладныя здольнасці да даследавання і тлумачэння нашых летапісаў, я б хацеў, каб Вы сябе прысвяцілі гэтай рабоце і засталіся б у прастольным горадзе сярод так шматлікіх крыніц, карыстаючыся так шматлікімі бібліятэкамі..."

28 студзеня 1820 г. І.І.Грыгаровіч быў пасвечаны ў святары магілёўскім архіепіскапам Даніілам. Праз некалькі дзён ён ужо быў уведзены ў протаіерэі гомельскай царквы, адначасова прызначаны рэктарам гомельскіх павятовага і прыходскага вучылішчаў, а таксама цэнзарам пропаведзяў бліжэйшага да Гомеля духоўнага праўлення.

Не перашкаджаючы маладому Грыгаровічу ісці сваім шляхам, Румянцаў, тым не менш, працягвае трымаць яго ў сферы сваіх навуковых інтарэсаў. Вясной 1820 г. І.Грыгаровіч атрымаў ад яго ліст, у якім паведамлялася, што граф гатовы надрукаваць яго кандыдацкую работу асобнай кніжкай, аднак просіць зрабіць удакладненні ў храналогіі і персаналіях наўгародскіх пасаднікаў. Для неабходных паправак Грыгаровічу двойчы пасылаліся ў Гомель каштоўныя рукапісы са збораў Румянцава. Нарэшце выпраўленая і дапоўненая дысертацыя І.Грыгаровіча пад назвай "Исторический

и хронологический опыт о Посадниках Новгородских. Из древних Русских летописей" была выдадзена ў Маскве ў 1821 г. тыражом 600 экземпляраў; 200 з іх граф аддаваў аўтару як узнагароду за працу.

Гомельскі перыяд (1820—1829) быў надзвычай плённы ў дзейнасці І.І.Грыгаровіча. Працуючы над "Беларускай іерархіяй", ён папутна шукаў і капіраваў датычныя беларускай гісторыі акты і граматы ў архівах Магілёўскага магістрату, у Архірэйскім архіве, у архівах Магілёўскай духоўнай кансісторыі, Магілёўскай семінарыі і ў манастырскіх (мсціслаўскіх, аршанскіх, магілёўскіх) архівах. Аддаючы належнае царкоўнай гісторыі, у сваіх пошуках ён не абмяжоўваўся чыста канфесійнымі пытаннямі, а ў падабраных і скапіраваных дакументах адлюстроўваў палітычнае і сацыяльна-эканамічнае жыццё Беларусі. З такіх матэрыялаў і склаўся першы ў беларускай навуцы археаграфічны зборнік "Беларускі архіў".

Спрыяльным фактарам сталася тое, што валоданне маёнткамі на Беларусі, змушала графа Румянцава лічыць сябе мецэнатам беларускай гісторыі. Сабраныя Грыгаровічам дакументы, такім чынам, мелі зацікаўленага выдаўца. 6 красавіка 1824 г., акурат на Пасху, М.П.Румянцаў пісаў з Масквы І.І.Грыгаровічу: "Прыміце замест чырвонага яйка, першы надрукаваны аркуш Архіва Беларускіх грамат..."[1]. У прадмове да "Беларускага архіва" І.І.Грыгаровіч шчыра дзякаваў мецэнату, адначасова і не менш шчыра падкрэсліваў свой беларускі патрыятызм: "Праўда, не ўсе гэтыя граматы датычаць непасрэдна гісторыі Расійскай дзяржавы і таму не ўсе аднолькава важныя, не ўсе роўна могуць быць цікавыя; аднак яны з'яўляюцца крыніцай да гісторыі Беларусі, царкоўнай і грамадзянскай, і ў гэтых адносінах змяшчаюць у сабе шмат вартага і цікавага"[2]. Застаўшыся задаволеным першым томам "Беларускага архіва", граф Румянцаў у красавіку 1824 г. выказаў І.І.Грыгаровічу наступнае пажаданне: "Я не хаваю ад Вас... што надзвычай жадаю... каб Вы да Беларускіх грамат далучылі слоўнік

1 "Чтения в обществе истории и древностей Российских" (ЧОИДР), 1864, кн.2. С.49.

2 Белорусскій архивъ древнихъ грамотъ, Ч.1,М., 1824. С.VII.

беларускіх слоў, для нас не зразумелых, і пастараліся б іх патлумачыць. Няма сумнення, што гэты слоўнік надаў бы большую вартасць таму выданню, над якім Вы зараз працуеце, і паставіў бы Ваша імя ў вялікую павагу сярод тых, хто сапраўднай асветай займаецца"[1]. Аднак прыступіць да здзяйснення гэтага пажадання І.І.Грыгаровіч змог толькі праз 20 гадоў.

Акрамя працы над дзвюма вялікімі работамі — "Беларускі архіў" і "Беларуская іерархія" — у Гомелі І.І.Грыгаровіч зрабіў некалькі навуковых апісанняў рукапісных кніг з бібліятэкі Румянцава (зараз гэтыя рукапісныя кнігі захоўваюцца ў Расійскай бібліятэцы ў Маскве): гэта Дабрылава евангелле 1164 г., якое Румянцаў прыдбаў у архімандрыта полацкага Барысаглебскага манастыра Шулякевіча[2]; пергаментная Кормчая кніга[3] пергаментны Служэбнік 14 ст., які належаў наглядчыку Полацкага павятовага вучылішча Г.Дарашкевічу[4]. Ён склаў таксама навуковае апісанне Лаўрышаўскага евангелля 13 ст. — аднаго з найцікавейшых помнікаў старажытнай беларускай кніжнасці, які на той час знаходзіўся ў Вільні. Граф Румянцаў рабіў захады, каб набыць гэтую кнігу. Па яго просьбе прафесар віленскага універсітэта І.Лабойка зрабіў дакладныя факсіміле прыпісак Лаўрышаўскага евангелля і выпіскі з тэксту, па якіх і склаў свае навуковыя заўвагі І.Грыгаровіч. Нечакана рукапіс Лаўрышаўскага евангелля знік з гарызонту даследчыкаў і калекцыянераў: А.Х.Вастокаў падаў інфармацыю, што ён знаходзіцца ў Імператарскай Публічнай бібліятэцы (гэта павінна было спыніць намер графа Румянцава), а тым часам гэтае евангелле аказалася вывезеным у Пулавы, у бібліятэку Чартарыйскіх.[5] Акрамя навуковай працы, І.І.Грыгаровіч выконваў у Гомелі і звычайныя абавязкі саборнага протаіерэя:

---

1 ЧОИДР, 1864, кн. 2. С.50.

2 Записки Отдела рукописей ГБЛ, т.27. С.121.
Козлов В.П. Колумбы российских древностей, М., 1985. С.73.

3 Срезневский И. Переписка А.Х.Востокова в повременном порядке. СПб., 1873. С.229.

4 Срезневский И. Op.cit. С. 79—81.

5 Востоков А.Х. Описание русских и словянских рукописей румянцевского музея. СПб., 1842. С. 124.

вянчаў маладых, адпяваў нябожчыкаў, вучыў дзяцей у школах, назіраў за пабудовай царквы, абмяркоўваў з гаспадаром Гомеля месца пабудовы, убор, рэліквіі, якія граф Румянцаў ахвяраваў храму. У студзені 1826 г. гомельскі протаіерэй Іаан апошні раз выканаў свой святарскі абавязак перад сваім апекуном, адпяваючы гаспадара Гомеля М.П.Румянцава. Сказаўшы апошняе Слова па нябожчыку, ён не мог не прадчуваць, што спыніліся многія навуковыя праграмы, душой і натхніцелем якіх быў граф. Праз год у студзені 1827 г. І.І.Грыгаровіч за добрую службу ўзнагароджаны аксамітнай фіялетавай скуф'яй (другая ўзнагарода праваслаўнага святара пасля набедраніка). У 1829 г. ён пераведзены з правінцыяльнага Гомеля ў губернскі горад Віцебск і прызначаны рэктарам віцебскіх павятовага і прыходскага вучылішчаў, цэнзарам казанняў, а пасля і настаўнікам (законавучыцелем) у віцебскую гімназію.

Пра навуковую работу І.І.Грыгаровіча ў Віцебску звестак не захавалася. Аднак знаёмства з архівамі горада, наведванне старажытнага Полацка напэўна замацавалі жаданне прысвяціць сябе гісторыі.

Яшчэ чакае свайго даследчыка сюжэт Іаан Грыгаровіч — прапаведнік; 17 ягоных казанняў, сярод якіх некалькі створаных у Віцебску, даюць добрыя для гэтага падставы. Філасофскі роздум над праблемай часу, над суадносінамі мінуўшчыны і сённяшняга ўласцівы І.І.Грыгаровічу на працягу ўсяго жыцця. Вынікі сваіх разважанняў над часам Грыгаровіч увасобіў у казаннях на Новы год. Захавалася такое казанне ад 1826 г., напісанае на словы 76-га псалма.

"І ў чым найбольш асляпленне наша? У тым, менавіта ў тым, што мы не хочам і падумаць, што час кароткі і цячэ з незвычайнай хуткасцю, і для нас ужо незваротны... І калі кожная хвіліна жыцця працякае адзін раз, і ўжо не вернецца да нас, значыць кожная хвіліна робіцца абавязковай, дакладнай у вечнасці; яна ўсю вечнасць будзе аднолькавая..."[1]

---

1 Григорович Н. Сочинения духовного содержания протоиерея Иоанна Иоановича Григоровича.

У 1830 г. Віцебск наведаў расійскі імператар Мікалай I. Яго суправаджаў духоўнік, протапрэсвітэр Музоўскі, які тут захварэў і вымушаны быў некаторы час застававацца ў доме І.І.Грыгаровіча. На царскага духоўніка ён зрабіў моцнае ўражанне, і той, вярнуўшыся ў сталіцу, паспрыяў пераводу Грыгаровіча ў Пецярбург.

За добрасумленную працу па вучылішчнаму ведамству ў Віцебску І.І.Грыгаровіч узнагароджаны аксамітнай фіялетавай камілаўкай, а праз кароткі час пераведзены ў Санкт-Пецярбург протаіерэем у лейб-гвардыі фінляндскі полк.

Пасля пераезду і ўладкавання ў сталіцы Грыгаровіч змясціў артыкулы ў часопісе "Странник". Першы "Известия о древнем храме Христа Спасителя, построенном в XII веке, преподобною Ефросиньею близ Полоцка" напэўна напісаны на матэрыялах, сабраных падчас знаходжання ў Віцебску. Гэта адна з першых спроб навуковага апісання Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. Другі артыкул "Историческое сведение о жизни Митрофана, первого воронежского епископа" пасля змяшчэння ў названым часопісе адразу ж у 1832 г. выйшаў асобнай кніжкай, хоць імя аўтара на вокладцы кнігі не пазначана. У канцы кніжкі змешчаны гістарычныя акты, якія маюць дачыненне да жыцця епіскапа Мітрафана.

З пераездам у Пецярбург Грыгаровіч акрыяў надзеяй выдаць 2-ю частку "Беларускага архіва". Каб зрушыць з месца гэтую справу, ён выбраў дакументы знешнепалітычнага характару, якія нябожчык Румянцаў аддаў яму для падрыхтоўкі 2-га тома, і выдаў іх асобнай кнігай пад назвай: "Переписка пап с российскими государями по рукописям римской барбериниевой библиотеки" (СПб, 1834). У гэтай кнізе змешчаны булы папаў Леона X і Клімента VII да вялікага князя маскоўскага Васіля Іванавіча, 2 лісты вялікага князя Васіля да Клімента VII, ліст кардынала Марона да вялікага князя Івана Васілевіча (Івана Грознага), наказ паслу папы Грыгорыя XIII Рудольфу Кленхену пры ад'ездзе яго ў Маскву і була папы Клімента VIII да цара Фёдара Іванавіча. Спісы з арыгіналаў дакументаў па просьбе Румянцава зрабіў рымскі вучоны Штрандман. І.І.Грыгаровіч пераклаў іх, зрабіў навуковыя каментарыі да іх, у якіх акрамя адсылак да шматлікіх друкаваных і рукапісных гістарычных крыніц, даводзіў і сваё стаўленне да рыма-ка-

таліцызму: "Стаўлю за абавязак папярэдзіць некаторых чытачоў, асабліва праваслаўных, што, чытаючы папскія граматы, яны сустрэнуць у іх палажэнні рымскай царквы, супрацьўныя чысціні праваслаўнай нашай веры. Канечне і папы і паслы іх у разважаннях пра дагматы і абрады рэлігіі тлумачыліся не іначай, як на ўзор свайго веравання. Аднак іхнія мудрстваванія для нас павінны быць чужыя..."[1]

Выданне дыпламатычнай перапіскі было разлічана на чытачоў самага высокага грамадскага рангу: вышэйшую царкоўную іерархію (і праваслаўную, і каталіцкую), дыпламатычны корпус, нарэшце, імператарскі двор. Усведамляючы гэта, Грыгаровіч уключыў у прадмову зварот да магчымых мецэнатаў-спонсараў сваёй работы: "...спадзяюся, пры Божай дапамозе, прадставіць аматарам Айчыннай гісторыі і другую частку "Беларускага Архіва старажытных грамат", і застаюся ў спакусе пераканаsuccessful, што яны дапамогуць мне дакончыць і тое пачынанне. Тады буду ўсцешаны тым, што хаця позна, але я паспеў выканаць абавязак, свяшчэнны для майго сэрца...[2] Спадзяванні айца Івана так і засталіся спакусай — 2-я частка "Архіва беларускіх грамат" не знайшла свайго мецэната. Тым не менш публікацыю "Перапіскі папаў..." заўважылі: вялікі князь Міхаіл Паўлавіч паслаў яму рэскрыпт-падзяку, а 14 ліпеня 1834 г. І.І.Грыгаровіч прадстаўлены да ордэна Св. Ганны 2-й ступені.

У 1835 г. выйшлі з друку сачыненні беларускага архіепіскапа Георгія Каніскага, падрыхтаваныя Грыгаровічам і з яго прадмовай.[3] Гэта выданне было спрыяльна прынята пры двары. Імператар за паднесены яму экземпляр падараваў аўтару залаты гадзіннік. А.С.Пушкін у 1-й за 1836 г. кніжцы свайго часопіса "Современник" пісаў: "... протаіерэй І.Грыгаровіч выдаў збор сачыненняў Георгія

---

1 Переписка пап с российскими государями по рукописям римской барбериниевой библиотеки. СПб., 1834.

2 Переписка пап с российскими государями... СПб, 1834.

3 Собрание сочинений Георгия Конисского, архиепископа белорусского. Ч. I—II. СПб., 1835.

Каніскага, дадаўшы да кнігі сваёй цікавы і цудоўна выкладзены жыццяпіс Георгія Каніскага". І далей Пушкін заўважае: "... І.Грыгаровіч, выдаўшы сачыненні вялікага архіепіскапа Беларусі, аказаў грамадству важную паслугу".[1] Пачала здзяйсняцца мара Грыгаровіча пра выданне гістарычных дакументаў, датычных Беларусі. Праўда, у Пецярбурзе не вельмі цікавіліся Беларуссю, але І.Грыгаровіча як знаўцу беларускіх старажытнасцяў, у 1837 г. прынялі ў члены археаграфічнай камісіі, а ў 1838 яго прызначылі галоўным рэдактарам актаў камісіі. Практычна гэта значыла, што ён сам мог цяпер вызначаць выдавецкую палітыку. Вынікам гэтага сталі 4 тамы "Актов Западной России". Грыгаровіч рыхтаваў усё сам, падбіраў дакументы, пісаў прадмовы. Каб дазволіць актыўнаму археографу прысвячаць болей часу навуковай рабоце, яго перавялі ў прыдворнае ведамства, прызначыўшы святаром царквы Анічкавага палаца. За службу ў археаграфічнай камісіі І.Грыгаровіч быў узнагароджаны ордэнам Св. Ганны з Імператарскай каронай, за службу ў дварцовай царкве — ордэнам св. Уладзіміра 4-й ступені і наперсным крыжам з дыяментам.

Нарэшце надышоў час звярнуцца і да Слоўніка беларускай мовы, прапанаванага яшчэ М.П.Румянцавым. У 1847 г. князь Шырынскі-Шахматаў — на той час міністр народнай асветы — прапанаваў І.І.Грыгаровічу скласці "Словарь белорусских наречий". Прапанова была прынята, і распачалася праца над слоўнікам. Захаваліся архіўныя дакументы, якія сведчаць пра шырыню падыхода І.Грыгаровіча да работы. Свой падыход да гэтай працы ён фармуляваў наступным чынам: "Складальнік Слоўніка, як праўдзівы летапісец, павінен запісваць усе словы, якія ўжывае народ у сваім хатнім побыце, у служэнні і ў свайх малітвах да Бога і ў сваіх законах. Слоўнік ёсць летапіс мовы, і ў гэты летапіс павінны быць унесены ўсе факты, якія былі і ёсць"[2]. На жаль закончыць працу над Слоўнікам І.І.Грыгаровічу не ўдалося — у лістападзе 1852 г. ён памёр. Пахаванне адбылося на Волкавых могілках, каля

---

1 Пушкин А.С. Полное собрание сочинений. М., 1949.Т.XII. С.14—24

2 Журнал министерства народного просвещения. 1852. X, части LXVI, отдел VII. С. 101.

новай мураванай царквы. На адпяванні, якое 4 лістапада рабіў рэвельскі епіскап Хрыстафор, прысутнічала ці не ўсё прыдворнае духавенства.

Эпітафіяй усёй навуковай дзейнасці І.І.Грыгаровіча могуць быць яго ж словы, з ліста брату Васілю: "... і наша Беларусь не зусім знікне з твару Зямлі, але хай ведае свет, што былі часы, калі яна была больш слаўная і дабрачынная чым зараз"[1]. Дзеці ж напісалі на надмагіллі на лацінскай мове, якую добра ведаў і любіў іх бацька: "Ne frustra Videar vixisse" ("Мне здаецца, што не дарэмна пражыў").

* * *

"Предуведомление" да 3-томнай "Гісторыі расійскай іерархіі" іераманаха Амвросія, надрукаванай у Маскве ў 1807—11 гадах, пачыналася так: "Гісторыя іерархіі, альбо пераемнасці свяшчэнаначальнікаў, -- ёсць істотная частка гісторыі царквы, нават можа лічыцца для яе такой самай падставай, якой з'яўляецца храналагічны парадак дынастый і ўладароў для грамадзянскай гісторыі. Самыя эпохі і перыяды, альбо падзел царкоўных падзей, натуральна могуць быць вылучаны па іерархічных пераменах. Таму што стан царквы заўсёды цесна звязаны са станам кіруючых свяшчэнаслужыцеляў і першае найчасцей залежала ад апошняга. З гэтага відаць, наколькі патрэбна гісторыя іерархіі для тлумачэння самой царкоўнай гісторыі". Гэтае адмысловае грунтоўнае выданне стала падручнікам і практычным дапаможнікам усім, каго цікавілі пытанні гісторыі царквы. Штудыраваў у свой час гэтую кнігу і студэнт Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі Іван Грыгаровіч. Прыехаўшы ў 1820 г. на месца службы ў Гомель, І.І.Грыгаровіч пачаў збіраць матэрыялы па гісторыі мясцовай царквы. Адразу ж заўважылася няпоўнасць, в часам і недакладнасць звестак, што датычыліся Беларусі ў "Гісторыі расійскай іерархіі". Гаспадар Гомеля, граф М.П.Румянцаў, заахвочваў маладога святара да

---

1 Цыт.па: Козлов В.П. Колумбы российских древностей. М. 1985. С.105—106.

гісторыка-краязнаўчай працы і падтрымаў ідэю скласці дапаўненні да гэтай працы. 27 красавіка 1823 г. ён пісаў Грыгаровічу: "Ліст, якім мяне ўзнагародзілі Вашай воляй ад 17 красавіка, мяне ўзрадаваў... што з прычыны Сінадальнага Загаду, пяршасвяшчэнны Вам загадвае збіраць усё, што можа ў яго епархіі быць дадаткам да "Гісторыі расійскай іерархіі". Значыць мэта наша збываецца, і, нягледзячы на тое, што Вам прапанавана паездка ад начальства, вельмі ахвотна для яе дам тыя ж сродкі, якія даваў Вам на мінулае падарожжа..."[1] "Дадаткі" да гэтай працы ператварыліся ў асобны твор, які Грыгаровіч назваў "Беларуская іерархія". Ён быў закончаны да лета 1824 г.

"Беларуская іерархія" напісана на ўзор працы Амвросія: напачатку даецца пералік Магілёўскіх і Віцебскіх, потым Полацкіх праваслаўных і, асобным радам, уніяцкіх архірэяў. Падаючы гэтыя спісы, Грыгаровіч імкнуўся прасачыць храналагічныя змены ў іх тытулатуры, часам змяшчаў звесткі пра месца пахавання архірэяў, часам дыпламатычна замоўчвае прычыны выгнання архірэяў (прыкмеці Варлаама Шышацкага). Потым змяшчаецца кароценькі нарыс "Аб Магілёўскай семінарыі" са спісам рэктараў і прэфектаў гэтай навучальнай установы і, нарэшце, апісанне праваслаўных і стараабрадчых беларускіх манастыроў у алфавітным парадку назваў. У цэлым работа Грыгаровіча, асабліва яе апошняя частка, выходзіць за межы "дадаткаў" да "Гісторыі расійскай іерархіі" як вялікай колькасцю новых пазіцый, так і больш шырокай і грунтоўнай інфармацыяй.

У якасці крыніц для напісання "Беларускай іерархіі" ім выкарыстаны гістарычныя дакументы, сабраныя для 1-га тома "Беларускага архіва", а таксама іншыя акты з манастырскіх архіваў, пераважна ўсходняй Беларусі. З друкаваных гістарычных работ Грыгаровіч цытуе наступныя: Н.Бантыш-Каменскі "Историческое известие о возникшей в Польше унии с показанием начала и важнейших, в продолжение оной через два века, приключений, паче же о бывшем от римлян и униатов на благочестивых та-

---

1 Переписка протоиерея Иоанна Григоровича с графом Н.П.Румянцевым. ЧОИДР. 1864, кн.2. С.36

мощных жителей гонений" (1805); М.Платон "Краткая церковная российская история" (Т.1—2.М., 1805); Сопікаў В. "Опыт российской библиографии или полный словарь сочинений и переводов" (Т. 1—5. СПб., 1813— 1821); Каспар Нясецкі "Herby i familie rycerskie jak w Korone taky w W.X.Litewskim" (Т. 1—2, Львоў. 1728); Ігнат Стэбельскі "Dwa wielkie swiatła na horyzoncie polockim, czyli zywoty panien y matek Ewfrozyny y Parascewii" (Т. 1—3. Вільня. 1781—1783); а таксама "Гісторыю" Карамзіна.

У верасні 1824 г. Грыгаровіч паслаў рукапіс "Беларускай іерархіі" ў Кіеў архіепіскапу Яўгенію Балхавіцінаву для азнаямлення. Я.Балхавіцінаў, да таго часу ўжо вядомы сваімі працамі вучоны ў галіне гісторыі, багаслоўя і мовазнаўства, у лісце ад 5 лістапада 1824 г. прыслаў падрабязныя заўвагі на рукапіс кнігі: "Аб іерархічнай кнізе Вашай... прапаную... наступныя заўвагі: 1. Што вера праваслаўная на Беларусі захавалася нязменна. Вы ніжэй самі супярэчыце гэтаму; 2. Беларуская епархія здаўна была пад апекай кіеўскага мітрапаліта, а ўжо ў 1654 г. перайшла пад ведамства маскоўскае патрыяркіі, як і ў Вас сказана; 3. У Кіеўскай акадэміі амаль да пачатку XVIII стагоддзя не было прэфектаў, а Сільвестр Косаў у Апалогіі Кіеўскай акадэміі 1635 г. называў сябе толькі прафесарам; 4. Мефодзі, здаецца, быў не Філімановіч, блюсціцель Кіеўскай мітраполіі. Бо Філімановіч быў мсціслаўскі і, па маіх запісах, пасвечаны ў 1661 г. ў Маскве; 5. Арсень Бярло абраны з Межыгорскіх архімандрытаў і пасвечаны ў Кіеве 8 ліпеня 1779 г., аднак, не будучы зацверджаны каралём, называўся толькі адміністратар; 6. Мялеці Сматрыцкі толькі тры гады вандраваў, як сам піша ў сваёй Апалогіі. Іншыя заўвагі ўбачыце ў кнізе Вашай, якую пры гэтым вяртаю. Яшчэ: раіў бы я Вам, замест дапаўнення Гісторыі расійскай іерархіі, скласці поўную гісторыю Беларускіх манастыроў, змясціўшы ў ёй і тое, што знойдзеце патрэбным у гісторыі іерархіі. Вельмі хачу, каб Вы як мага хутчэй выдалі гэту кнігу, карысную для дапаўнення нашай царкоўнай гісторыі"[1]. У маі 1826 г. мітрапаліт Яўгені (Балхавіцінаў) пытаўся

---

1 ЧОИДР. 1864. кн.2. С.90.

ў Грыгаровіча пра лёс яго "Беларускай іерархіі" і дзе знаходзіцца яе рукапіс. Што адказаў Грыгаровіч, невядома. Сам Балхавіцінаў складаў на той час "Кіеўскую іерархію" і прасіў Грыгаровіча дасылаць яму, калі дзе знойдзе, матэрыял, датычны гэтай тэмы.

У 1853 г. Аляксандр Галакціёнаў, аўтар некралога І.Грыгаровіча, у пераліку вучоных прац нябожчыка піша наступнае: "У 1824 годзе магілёўскае епархіяльнае начальства даручыла яму скласці "Дадаткі да Гісторыі расійскай іерархіі" ў дачыненні гэтай гісторыі да Беларускага краю. У хуткім часе яны, у рукапісе, былі прадстаўлена ў Свяшчэнны Сінод"[1]. У 1862 г. выдавец твораў І.І.Грыгаровіча, яго сын Мікалай Грыгаровіч, у бібліяграфічным нарысе заўважыў, што рукапіс "Беларускай іерархіі" напэўна быў прадстаўлены ў Сінод, і не дазволены да друку, відаць застаўся ў архіве Сінода[2]. У наш час гэтую інфармацыю паўтарыў Мікалай Улашчык.[3] Тым часам, у 1929 г. ў Аддзел рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі ў Ленінградзе (зараз Расійская Нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу) паступілі матэрыялы І.І.Грыгаровіча, з якіх сфарміраваны 5 адзінак захоўвання. Сярод гэтых папераў — падрыхтоўчыя матэрыялы да работы над Слоўнікам беларускай мовы, сямейныя дакументы і рукапіс "Беларускай іерархіі".

Зараз рукапіс "Беларускай іерархіі" захоўваецца ў фондзе 1000 (Асобных паступленняў) Аддзела рукапісаў, вопіс 2, № 358. Ён уяўляе сабой сшытак з 47 аркушаў памерам 21,5×34 см. Філігрань паперы — у авальнай рамцы з каронай адзінарог на пастаменце, з бакоў — літары вББ, на другой палове аркуша — літары МОКФ 182. Гэта папера рускай вытворчасці, верагодна з фабрыкі Е.Ба-

---

1 Галактионов А. Иоан Иоанович Григорович (1790—1852). Москвитянин. 1853. Т. №17, Отд. IV.

2 Сочинения духовного содержания...

3 Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М. 1973.С.17

скакава (хаця С.Клепікаў дакладна такую філігрань не ўпамінае)[1]. Тэкст напісаны на абодвух баках аркуша карычневым чарнілам. Нумарацыя старонак архіўная, на ніжнім краі алоўкам. Пераплёт — картонныя вокладкі злучаныя скураным карашком. На верхняй вокладцы запіс пяром: "Григоровичъ 1842 году" (відавочна, што ў напісанні даты дапушчана памылка; гэта, відаць, рукапіс пераплецены ў 1842 г.)[2]. На адвароце апошняга аркуша — завяраючы запіс бібліятэкара Публічнай бібліятэкі Васіля Геймана. Пісарская копія мае выпраўленні і надпісы, зробленыя, магчыма, рукой аўтара альбо каго з рэцэнзентаў. Тое, што І.І.Грыгаровіч меў асобнік сваёй работы вынікае са спасылак на "рукапіс "Беларуская іерархія", які знаходзіцца ў аўтара" ў прадмове да выдадзеных ім у 1835 г. сачыненняў Георгія Каніскага.

Пры падрыхтоўцы гэтага рукапісу да выдання асноўны яго тэкст перакладзены на сучасную беларускую мову, тэксты актаў і іншых дакументаў падаюцца так, як яны ўпісаны ў рукапіс Грыгаровіча (на славянскай, рускай, польскай, старабеларускай мовах). На заканчэнне мы выказваем шчырую падзяку галоўнаму захавальніку архіўных фондаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу Сяргею Жэмайцісу, а таксама членам беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу Валянціну Грынкевічу і Анатолю Лукоўскаму за спрыянне і дапамогу.

*М. Нікалаеў.*

---

1 Клепиков С.А. Филиграни на бумаге русского производства XVIII — начале XIX века. М., 1978.

2 Дзякуем за кансультацыю па гэтым пытанні супрацоўніцу Аддзела рукапісаў РНБ В.Ф.Пятрову.

## Епархія Магілёўская і Віцебская

На Беларусі, якая складала частку Вялікага княства Літоўскага, пры моцных патрасеннях уніі праваслаўная вера захоўвалася нязменна. Хаця нельга вызначыць дакладны час, калі хрысціянства было ўведзена ў гэтым краі, аднак ужо ў першай палове XIV ст., пры княжанні Альгерда, а потым Казіміра Вялікага, тутэйшыя жыхары не толькі карысталіся свабодай спавядання праваслаўнае веры, але і былі ўраўнаваны ў правах і грамадзянскіх перавагах з каталікамі. Бо шмат якія літоўскія князі, пакінуўшы нявер'е, хрысціліся ў дабрачынную веру і былі заснавальнікамі праваслаўных цэркваў і абіцелей. Да XVII ст. Магілёўская вобласць па духоўных справах залежала ад Полацкага архірэя. Але, нарэшце, калі пасля доўгачасовага прыцяснення праваслаўных на выбарчым сойме польскіх і літоўскіх чыноў, што адбыўся 1 лістапада 1632г., кафедра Полацкага архіепіскапства аддадзена уніятам, то прынята было рашэнне замест яе заснаваць епархію ў Магілёве і залежаць ёй ад Кіеўскага мітрапаліта. Тады ж для пражывання мясцовым праваслаўным епіскапам прызначаны Спаскі манастыр і вызначана мець з каралеўскай казны па 2 тысячы польскіх злотых гадавой рэнты. Архірэі спярша называліся Магілёўскімі, Мсціслаўскімі і Аршанскімі, а з 1675 г. калі-нікалі і Беларускімі. Гэты тытул ужыты як у трактатах аб Вечным міры, што заключаны паміж Расіяй і Польшчай у 1686 г., так і ў многіх каралеўскіх прывілеях; потым з 1795 г. загадана ім называцца Магілёўскімі і Полацкімі, а з 1797 г. — Беларускімі і Магілёўскімі; нарэшце з 1803 г. тытулуюцца яны Магілёўскімі і Віцебскімі. Імянным высачайшым загадам ад 1 лютага 1774 г. гэтая епархія залічана да другарадных з пажалаваннем акладу адпаведна Пскоўскага Архірэйскага дома і, згодна штату 1799 г., стаіць у другім класе дзесятай

Архірэі Магілёўскія, альбо Беларускія, па парадку часу наступныя:

1. **ІОСІФ І БОБРЫКАВІЧ.** З прычыны прымірэння на памянёным сойме паміж дабрачыннымі і уніятамі [ён] абраны свецкімі чынамі праваслаўнай веры з ігумена альбо старэйшага віленскага Святадухава манастыра і прывілеем караля Уладзіслава IV, дадзеным 14 сакавіка 1633 г., зацверджаны ў сане епіскапа. Памёр 9 красавіка 1635 г. і пахаваны Кіеўскім мітрапалітам Пятром Магілаю ў тым жа віленскім манастыры.

2. **СІЛЬВЕСТР І КОСАЎ.** Абраны з прэфектаў Кіеўскай акадэміі і пасвечаны ў 1635 г., а ў 1647 г. пераведзены на Кіеўскую мітраполію, на якую атрымаў прывілей ад караля Яна Казіміра 1649 г. Ён скараціў і выдаў у 1635 г. на польскай мове "Пацярык Пячэрскі", дадаўшы многія гістарычныя заўвагі і каталог праваслаўных кіеўскіх мітрапалітаў. Другое яго сачыненне пад загалоўкам "Дидаскалія албо наука, которая ся первей из уст Священников подавала о седми сакраментах или тайнах на Синоде поместном ва граде Могилёве 1637 г.", надрукаванае ў Куцеінскім манастыры ў 1653 г. ў 4 долю арк., лічыцца за рэдкае. Маскоўскі патрыярх Адрыян у кнізе сваёй "Остэн" спасылаецца на гэтае Сільвестрава сачыненне.

3. **ІГНАТ АКСЁНАВІЧ-СТАРУШЫЧ.** Абраны з рэктараў Кіеўскай акадэміі і ігуменаў Выдубіцкага манастыра, хіратанісан [пасвечаны] на епіскапа 12 ліпеня 1650 г. Аднак, не пачаўшы кіраваць епархіяй, у хуткім часе памёр і з гэтае прычыны ў каталогі паміж архірэямі не ўключаецца.

4. **ІОСІФ ІІ КАНАНОВІЧ-ГАРБАЦКІ.** З ігумена Міхайлаўскага Златаверхага манастыра і рэктара Кіеўскай Акадэміі хіратанісан і 2 мая 1651 г. атрымаў прывілей ад караля Яна Казіміра. Дзе і калі памёр, невядома.

5. **МЕФОДЗІЙ ФІЛІМОНАВІЧ.** Хіратанісан у 1654 г. альбо 1655 г., верагодна, у Маскве, бо ў гэты час Магілёў і Полацк перайшлі пад уладу цара Аляксея Міхайлавіча. Ён прысутнічаў на Маскоўскім саборы пры нізлажэнні патрыярха Нікана, што адбыўся ў 1667 г., і ў дзеяннях сабора названы епіскапам Мсціслаўскім і Аршанскім; тытулуюць яго таксама і блюсціцелем

прастолу Кіеўскай мітраполіі. У 1668 г. ён здрадзіў альбо зрабіў нейкае злачынства супроць цара ў Нежыне, за што быў пад аховай у маскоўскім Наваспаскім манастыры і там сканаў[1].

6. **ІОСІФ III НЕЛЮБОВІЧ-ТУКАЛЬСКІ.** Абраны з архімандрыта Ляшчынскага манастыра і зацверджаны 3 жніўня 1661 г. прывілеем караля Яна Казіміра з тае прычыны, што Магілёў зноў перайшоў пад уладанне палякаў. У 1664 г. ён абраны ў Кіеў мітрапалітам. Аднак не быў там, бо абгавораны перад каралём гетманам маларасійскіх казакаў Паўлам Цяцераю ў благіх задумах, узяты пад ахову разам з былым гетманам Юрыем Хмяльніцкім, які на той час быў ужо манахам (у манастве Гедэон), і абодва сасланы ў Марыенбург, дзе жылі тры гады пад аховай. У 1667 г. пасля дазнання былі прызнаны невінаватымі і вызвалены. Нягледзячы на гэта, палякі зноў імкнуліся іх схапіць і забіць. Іосіф, атрымаўшы сховішча ў гетмана Дарашэнкі, некаторы час жыў у Каневе[2] аднак, змучаны пакутамі, у 1675 г. памёр у Чыгірыне і там пахаваны. Пазней, у 1678 г., цела яго перанесена ў Лубенскі Мгарскі манастыр, дзе і дасёння знаходзіцца ў затворы.

7. **ФЕАДОСІЙ ВАСІЛЕВІЧ.** З архімандрыта Слуцкага манастыра хіратанісан у епіскапы ў 1669 г., аднак зацверджаны прывілеем караля Міхала Карыбута-Вішнявецкага толькі 20 красавіка 1672 г., з захаваннем за ім гэтага манастыра. У лісце караля Яна III Сабескага, дадзеным у 1676 г., ён найперш тытулаваны епіскапам Беларускім. Св.Дзімітрый, мітрапаліт растоўскі ў сваіх "Дневныхъ Запискахъ" успамінае, што Феадосі 14 жніўня 1677 г. рабіў у Навадворскім манастыры перанясенне цудатворнага абраза

---

1 Шчэкатаў (Географич. Словарь Росс. Государства, IV. С.283) лічыць сярод Магілёўскіх архірэяў чацвёртым епіскапам Іаакіма Дзяконовіча, які нібыта падпісаўся на саборным дзеянні аб нізлажэнні патрыярха Нікана. Аднак гэта звестка абвяргаецца тым, што 1) у адзін і той час двум епіскапам на адной кафедры быць не можна; 2) у саборным дзеянні пасля Мяфодзія, епіскапа Мсціслаўскага і Аршанскага, стаіць дакладна Іаакім Дзяковіч, аднак ён названы епіскапам Серба-Славенскім. Гл. Древн. Росс. Вив., VI. С.286.

2 Канеў быў палкавы горад казакоў. Тут Іосіф 25 сакавіка 1669 г. пасвяціў у дзякана Св.Дзімітрыя, які быў потым мітрапалітам растоўскім. Глядзі: Дневныя Запіскі Св.Димитр. у Древ.Росс. Вив., VII. С.2.

Багамацеры[1], а ў наступны годзе, 11 сакавіка, памёр у ваяводскім горадзе Любліне і пахаваны 23 кастрычніка грэчаскім мітрапалітам Макарыем Лігарыдам у Дзятлавіцкім манастыры.

8. **СЕРАПІЁН**, альбо, па некаторых каталогах, **Серафім Пал-хоўскі**. Таксама архімандрыт Слуцкага манастыра, зацверджаны ў сане епіскапа прывілеем караля Аўгуста II, дадзеным 30 верасня 1697 г. Няма сумнення, што да гэтага часу на працягу 20 гадоў Беларуская епіскапія сіротствавала, бо толькі тое і зідаць, што езуіты моцна дамагаліся, адабраўшы галоўную Спаскую царкву, знішчыць і кафедру праваслаўнага епіскапа ў Магілёве, а кароль Сабескі грозна прымушаў тутэйшых жыхароў да прыняцця уніі[2]. Гэты епіскап тытулаваўся намеснікам мітраполіі Кіеўскай і экзаршай Свяцейшага трону Апостальскага Канстанцінопальскага і архімандрытам Слуцкім. Сканаў у лютым 1704 г. і пахаваны ў магілёўскім Спаскім саборы, за правым кліpасам.

9. **СІЛЬВЕСТР II**, альбо **Святаполк князь Чацвярцінскі**. Пастаўлены епіскапам у Кіеве ў 1707 г., але прывілей атрымаў ад караля Аўгуста II ужо ў 1713 г. Ён цярпеў моцныя ганенні ад супраціўнікаў праваслаўя. Памёр у 1727 г. ў Магілёве.

10. **АРСЕНІЙ БЯРЛО**. Абраны і хіратанісан у 1728 г., але не быў ні дапушчаны на епіскапію, ні зацверджаны каралеўскім прывілеем, хаця Імператар Пётр II і імператрыца Ганна Іаанаўна аб гэтым хадайнічалі. Ганіцелі дабрачэсця паспелі зрабіць тое, што кароль Аўгуст II маніфестам 29 ліпеня 1730 г. забараніў называць яго епіскапам. Таму, пражыўшы каля трох гадоў у Магілёве ў пастаянным азлабленні, ад'ехаў нарэшце ў Малую Расію, і ў студзені 1733 г. атрымаў у кіраванне Пераяслаўскую епіскапію, дзе і памёр.

11. **ІОСІФ IV ВАЛЧАНСКІ**. Рэктар Кіеўскай акадэміі, потым ігумен Пустынска-Мікалаеўскага манастыра, хіратанісан у епіскапа і прывілей ад караля Аўгуста III атрымаў 30 снежня 1735 г. Пасвіў беларускую царкву каля сямі гадоў, а 1 верасня 1742 г.

---

1 Гэты манастыр знаходзіўся ў Мінскай губерні ў Пінскім павеце і быў прыпісаны да Віленскага; у смутныя часы адлучаны да уніі. Гл.: Ис. Рос. Іер., V. С. 340, 341.

2 Гл.: Ист. объ Уніи. С. 145 і 146.

пераведзены архіепіскапам у Маскву, дзе сканаў і пахаваны ў Чудавым манастыры.

12. ІЕРАНІМ ВАЛЧАНСКІ. Родны брат папярэдняга; пасвечаны ў епіскапа з ігумена альбо старэйшага Віленскага Святадухаўскага манастыра 2 кастрычніка 1744 г. Кіраваў паствай да 1754 г., у якім 14 кастрычніка ў Магілёве памёр. Пасля яго смерці, праз захады полацкага уніяцкага мітрапаліта Фларыяна Грабніцкага, які хацеў далучыць да сябе праваслаўную Магілёўскую кафедру, папа Бенядзікт XIV нясціплай булай, 7 лютага 1755 г. пераконваў польскага каронннага канцлера Малахоўскага дамагацца адабрання Магілёўскай епархіі да уніі[1].

13. ГЕОРГІЙ КАНІСКІ. Архімандрыт Кіева-Брацкага вучылішчнага манастыра і рэктар Акадэміі. Паходзіў са шляхецкай маларускай фаміліі; абраны пасля ўхвалення Свяцейшым урадавым Сінодам, пасвечаны ў епіскапа 20 жніўня 1755 г. ў Кіеве, і да надання гэтага сану (нягледзячы на супраціўленне папы і Полацкага мітрапаліта Грабніцкага) атрымаў ад караля Аўгуста III пацвярджальны прывілей, які дадзены яму 23 мая 1755 г. У 1783 г., 23 верасня, пажалаваны архіепіскапам і членам Свяцейшага Сінода, а 13 лютага 1795 г. памёр у Магілёве і пахаваны ў царкве Св. Спаса, за правым кліpасам. Пасвіў царкву ў свяцiцельстве 40 гадоў і, як сам на надгробку напісаў, 17 гадоў змагаўся з ваўкамі, а 22 правеў у спакоі з авечкамі. З 1757 г. заснаваў ён у Магілёве Духоўную семінарыю і пры сваім доме — друкарню. Творы яго застаюцца большай часткай у рукапісах, а з надрукаваных вядомы: 1. "Prawa y wolnosci obywatelom Korony Polskiey y W.X.Litewskiego, Religii Greckiey wyznancom sluzace", надрукаванае ў аркуш у Варшаве ў 1767 г., калі Георгі падчас польскай Канфедэрацыі запрошаны быў для складання яе Акта і прызначаны членам шматбаковага суда паміж праваслаўнымі, католікамі і уніятамі. Лічыцца рэдкай кнігай. 2. "О должности Приходскихъ Священниковъ". Гэту кнігу склаў ён разам з Парфеніем, епіскапам Смаленскім, і яна прызнана за класічную. 3. "Историческое известие

[1] Гл.: Истор. объ Уніи, С.343—345. Дзе змешчана і гэтая папская була ў перакладзе на расійскую мову.

о Могилёвской Епархии", надрук. у С.-Пецярбургскім месяцаслове на 1775 г. 4. Некалькі павучальных Слоў і прывітальных Прамоў.

14. АФАНАСІЙ ВАЛЬХОЎСКІ. Кавалер ордэна Св. дабравернага вялікага князя Аляксандра Неўскага, пераведзены з вікарыя Наўгародскай мітраполіі, епіскапа Старарускага 5 сакавіка 1795 г.; аднак пасля двухгадовага кіравання епархіяй, 27 жніўня 1797 г. звольнены на пакой у Лубенскі Мгарскі манастыр, дзе 1 студзеня 1801 г. памёр. Яго акруговая грамата "Да адрынутых уніяй чадаў праваслаўнай царквы" надрукавана ў Гісторыі аб уніі[1]. Тытулаваўся епіскапам Магілёўскім і Полацкім.

15. ІААРЫЁН КАНДРАТКОЎСКІ. З архімандрыта Цвярскога Калядзінскага манастыра хіратанісан 17 ліпеня 1776 г. ў епіскапа Пераяслаўскага. У 1785 г. пераведзены ў Наўгародскую Северскую епархію, а 1 верасня 1797 г. з гэтай — у Магілёўскую, аднак не быў тут на кафедры. У тым самым годзе 24 кастрычніка адхілены ад кіравання і пераведзены ў Наўгародскі Северскі Праабражэнскі манастыр з пенсіяй і прызначэннем настаяцелем, дзе 13 студзеня 1799 г. памёр.

16. АНАСТАСІЙ БРАТАНОЎСКІ. Член Расійскай акадэміі. Будучы архімандрытам Маскоўскага Наваспаскага манастыра, 5 чэрвеня 1796 г. пажалаваны членам Свяцейшага Сінода і прызваны ў С.- Пецярбург на пасаду законавучыцеля Кадзецкага сухапутнага корпуса. 20 снежня 1797 г. хіратанісан у епіскапа і тады ж атрымаў ордэн Св. Ганны 1-га класа. 15 верасня 1801 г. пажалаваны архіепіскапам, а ў 1805 г. пакліканы ў С.-Пецярбург для прысутнасці ў Св.Сінодзе, і ў снежні таго ж года пераведзены ў Астраханскую епархію. Пры ад'ездзе атрымаў ад Гасудара Імператара панагію ўпрыгожаную дыяментамі. 7 снежня 1806 г. яму прадастаўлены тытул члена Св.Сінода, аднак да атрымання весткі пра гэта, 9 дня таго ж месяца, памёр, маючы ад нараджэння 45 гадоў. З сачыненняў яго вядомыя: чатыры кнігі "Поучительныхъ словъ" і класічная кніжка "О расположении проповедей на латинском языке". З перакладаў яго з французкай мовы надрукаваны:

---

1 Стар. 418—420.

1. "Предохраненіе от безверія и нечестія", надрук. у С.- Пецярбурзе ў 1794 г. ў 8 долю аркуша. 2. "Плач пророка Іереміи", паэма "Арвода", 1797 г. ў С.П.Б. у 8 долю аркуша. 3. "Истинный Мессія, албо доказательство о Божественном пришествіи в мир И.Христа и яго Божественность" у Маскве ў 1801 г. ў 8 долю арк. 4. "Опыт о совершенстве" з Формея, у С.-Пецярбурзе, 1805 г.

17. ВАРЛААМ ШЫШАЦКІ. Ордэна Св.Ганны 1-й ступені кавалер. З архімандрыта Дзятлавіцкага манастыра 1795 г. 3 чэрвеня хіратанісан у епіскапа Жытомірскага, вікарыя Мінскай епархіі, а ў 1799 г. 16 кастрычніка прызначаны мясцовым [епіскапам] з найменнем Валынскага і Жытомірскага. Потым 20 снежня 1805 г. пераведзены на Магілёўскую кафедру і тут 23 сакавіка 1808 г. пажалаваны архіепіскапам; але ў 1813 г. імянным высачайшым загадам ад 1 мая пазбаўлены архірэйства і свяшчэнства і сасланы ў Наўгарод-Северскі Праабражэнскі манастыр, дзе памёр у верасні 1821 г.

18. ДАНІІЛ МІДАНСКІ, інакш Натток-Міхайлоўскі. Кавалер ордэна Св.Ганны 1-га класа. Знаходзіўся спачатку ў Віленскім Святадухавым [манастыры], потым пераведзены ў Вялікаусцюжскі Архангельскі і пасля — у Камянецкі, што ў Падольскай епархіі, першакласны Троіцкі манастыр архімандрытам. 2 лютага 1806 г. пасвечаны ў Валынскага епіскапа, а 6 ліпеня 1813 г. пераведзены на Магілёўскую кафедру і 9 сакавіка 1816 г. пажалаваны архіепіскапам. Памёр 31 мая 1821 г. і пераемнікам пахаваны ў Магілёве, у храме Св.Спаса.

19. ІОАСАФ СРЭЦЕНСКІ. Па сканчэнні навук у Цвярской семінарыі і потым Аляксандра-Неўскай акадэміі, пастрыжаны ў манаства ў 1795 г., а 14 мая 1796 г. пастаўлены ігуменам у Старыцкі манастыр, у 1798 жа — у архімандрыты ў Нілаву Асташкаўскую пустынь. У 1800 г. пераведзены ў Растоўскі Аўраамієў манастыр і прызначаны рэктарам Яраслаўскай семінарыі, потым, 24 кастрычніка 1808 г., — у Клязін першакласны, і тамсама рэктарам Цвярской семінарыі. 4 снежня 1809 г. пажалаваны ордэнам Св.Ганны 2-й ступені, а 21 лістапада 1810 г. пасвечаны ў епіскапа Старарускага з тытулам вікарыя мітраполіі Наўгародскай. 20 кастрычніка 1811 г. пажалаваны ордэнам Св.Ганны 1-га класа і 6

ліпеня 1813 г. пераведзены на Смаленскую кафедру, а ў 1821 г. 3 чэрвеня — на Магілёўскую, з узвядзеннем у сан архіепіскапа.

## Полацкая епархія

Заснаванне Полацкай епіскапскай кафедры адбылося ў пачатку, а па некаторых меркаваннях у канцы XI ст. З XV ст., пры ўладаранні Аляксандра-Вітаўта, вялікага князя літоўскага, гэтая епархія мела ступень архіепіскапства і да 1595 г. была кафедрай праваслаўных архірэяў. Але на той час тутэйшыя епіскапы Нафанаіл і яго пераемнік Грыгорый, перайшоўшы самі да уніі, то хітрасцю, то жорсткасцю прыцягвалі да яе клір і народ праваслаўнай веры і паспелі нават, дзеля спакусы іх, атрымаць ад караля Жыгімонта III прывілей на свабоду і недатыкальнасць правоў уніяцкага духавенства і ўраўнаванне яго ў перавагах з духавенствам рымскім. Нарэшце, калі пасля доўгачасовых ганенняў, на выбарчым сойме, што адбыўся ў 1632 г. ў Варшаве, настала некаторае прымірэнне паміж праваслаўнымі і уніятамі, то вызначана было ў гэтай епархіі быць двум архірэям. У выніку гэтага, кафедра праваслаўнага архіепіскапа перанесена з Полацка ў Магілёў.

Архірэі Полацкія па парадку храналогіі наступныя:

1. МІНА. Хіратанісан кіеўскім мітрапалітам Нікіфарам у 1105 г., памёр у 20 дзень чэрвеня 1117 г.

2. КАСМА. У Пацерыку Пячорскім (арк. 190) упамінаецца, што ён у 1147 г. быў у Кіеве на пастаўленні мітрапаліта Клімента.

3. ІЛЛЯ.

4. ДЗІЯНІСІЙ. Абодва гэтыя епіскапы лічацца сучаснікамі Спрападобнай Ефрасінні, заснавальніцы і ігуменні Полацкага Спаскага манастыра, у Жыцці каторай і захаваны іх імёны. Першы, па каталогу Сцябельскага, пасвіў царкву ад 1150 г., а другі — ад 1160 г.

5. МІКАЛАЙ. Упамінаецца ў Пячорскім Пацерыку пад 1182 г. (арк. 206), з выпадку пастрыжэння мітрапалітам Нікіфарам II Васіля, ігумена Кіева-Пячорскай лаўры.

6. БЕЗЫМЕННЫ. Упамінаецца ў 1218 г. Мітрапаліт Платон называе яго Уладзімірам, кажучы, што гэты епіскап прывёз з Цар-

града ва Уладзімір да вялікага князя Канстанціна частку Страсцей Гасподніх і мошчы Св.Логтіна сотніка і Св.Марыі Магдалены[1].

7. **АЛЕКСІЙ.** Яго імя захавалася ў Кірылаўскім сінадальным летапісе з тае прычыны, што 6 красавіка 1231 г. ён быў у Кіеве на пастаўленні мітрапаліта Кірыла, другога з такім імем.

8. **СЫМОН,** альбо **Сімеон.** Наўгародзец, прысутнічаў на Уладзімірскім саборы, што быў у 1274 г. пры старшынстве кіеўскага мітрапаліта Кірылы, аб царкоўных справах і выпраўленні духавества.

9. **ГРЫГОРЫЙ.** Ён у 1331 г. быў ва Уладзіміры Валынскім на пасвячэнні наўгародскага архіепіскапа Васіля Калекі.

10. **ФЕАДОСІЙ.** Хіратанісан маскоўскім мітрапалітам Кіпрыянам у 1392 г. Лічыцца першым полацкім архіепіскапам, якім ён названы ў Дзеянні Наваградскага [Навагрудскага] сабора, які адбыўся ў 1415 г. пры старэйшынстве Грыгорыя Семіўлаха, альбо Цамблака, кіеўскім мітрапалітам для кіравання літоўскімі епархіямі незалежна ад маскоўскага.

11. **ФОЦІЙ.** Упамінаецца таксама ў 1415 г., аднак яго імя адсутнічае ў польскіх каталогах. Верагодна ён, альбо яго папярэднік, у 1417 г. быў адпраўлены з другімі літоўскімі епіскапамі на Канстанцкі сабор.

12. **ЛУКА.** У 1495 г. ён быў на пастаўленні Кіеўскага мітрапаліта Макарыя. Імя яго захавалася ў рукапісе Арх.Кіеўскага летапісу, дзе аднак Лука названы епіскапам[2] (у 1503).

13. **ЯЎФІМІЙ АКУШКОВІЧ БОСКІ.** Ён прысутнічаў на Віленскім саборы праваслаўных літоўскіх архірэяў, які адбыўся 18 студзеня 1509 г. пры старэйшынстве кіеўскага мітрапаліта Іосіфа; у дзеянні тытулаваны епіскапам.

14. **НАФАНАІЛ.** Упамінаецца ў Літ. Метрыцы 1524 г.

15. **ІОСІФ.** Сцябельскі тытулуе яго архіепіскапам, памылкова лічачы папярэднікам Яўфімія. У 1526 г. ён узведзены на Кіеўскую мітраполію, якой кіраваў 12 гадоў.

---

1 Гл. Царк. Истор., I, 113. Параўн. Ист.Гос.Рос.Карамзіна III.С.504.

2 Гл. Ист. Гос.Росс.Карамзіна, VI, прим.403.

16. **СІМЕОН.** Архіепіскап, упамінаецца ў Каронннай Метрыцы 1533—1543 гг.

17 **АРСЕНЬ ШЫШКА.** Упамінаецца ў 1562 г. Стрыйкоўскі[1] піша, што ён пры заняцці рускімі Полацка выведзены ў палон.

18. **ТРЫФАН.** Хіратанісан у 1563 г., але ў польскіх каталогах адсутнічае.

19. **АФАНАСІЙ,** з роду князёў Пялеўскіх. Хіратанісан на кафедру ў 1566 г. Памёр у Кірылавым Белазерскім манастыры і ў ім пахаваны ў паперці Успенскай царквы, каля паўночных дзвярэй.

20. **АНТОНІЙ.** Упамінаецца ў 1572 г. на Маскоўскім саборы аб чацвёртым шлюбе цара Іаана Васілевіча Грознага. Ён тытулаваны архіепіскапам Полацкім і Велікалуцкім. У 1577 г. ўзведзены на Маскоўскую мітраполію.

21. **КІПРЫЯН.** Пасвечаны на архіепіскапства ў Маскве. У 1579 г. кароль Стэфан Баторый, па паведамленні Стрыйкоўскага[2], авалодаўшы Полацкам, узяў яго ў палон.

22. **ГЕРМАН ХРАБТОВІЧ.** Нясецкі не памянуў яго, але Сцябельскі лічыць яго сярод архіепіскапаў, упамінаючы пад 1582 г. (Павінен быць пазней, 1595 г. Уніят Загорскі, гл. ніжэй).

23. **ВАРСАФОНІЙ ВАЛАХ.** Уп. ў 1585 г.

24. **ФЕАФАН БАГДАН РПІНСКІ.** Яго імя захавалася ў лісце караля Жыгімонта, дадзеным 14 чэрвеня 1588 г. магілёўскім грамадзянам, паводле якога Спаскі манастыр, незалежна ад полацкага архірэя, аддадзены ў іх уладанне з усімі яго маёнткамі[3].

## АРХІРЭІ ПОЛАЦКІЯ

Праваслаўныя:

25. **АФАНАСІЙ ЦЯРЛЕЦКІ.** Упамінаецца ў акт. Літ. Метрыкі 1590 г.

Уніяты:

1. **НАФАНАІЛ СЯЛЕЦКІ.** Хіратанісан, паводле паведамлення Сцябельскага, у 1590 г. Імя яго захавалася ў прывілеі

---

1 Кн. XXV. Аддз. I. арк. 759.Нясецкі гаворыць тое ж.

2 Тамсама. Аддз. IV, арк. 773.

3 Гл. Белорусск. арх. древн. грамотъ. Ч.1, № 22. Параўн. Herbar Папроцкага, арк. 675.

**26. МЯЛЕЦІ СМАТРЫЦКІ.** Хіратанісан патрыярхам Іерусалімскім Феафанам у Кіеве ў 1620 г. з архімандрыта Дзярманскага манастыра. Пасля пяцігадовай вандроўкі па ўсходніх землях, у 1627 г., вярнуўшыся на Радзіму і будучы ганімы ворагамі праваслаўя, ён, дзеля сваёй бяспекі, адважыўся прыняць унію. І хаця ў хуткім часе ўрачыста ў гэтым раскаяўся, аднак, запалоханы пагрозамі уніятаў і спакушаны абяцаннем багатага пансіёну, зноў да іх далучыўся. Папа Урбан VIII узнагародзіў яго тытулам архіепіскапа Іерапольскага. Аднак Мялеці, не карыстаючыся гэтым, жыў за архімандрыта ў Дзярманскім манастыры да смерці, якая надышла ў 1633 г.

**27. СІЛЬВЕСТР КОСАЎ**[1]. Паводле прывілея караля Яна Казіміра, дадзенага ў 1649 г., будучы на Кіеўскай мітраполіі, кіраваў Магілёўскай і Полацкай епархіяй і тытулаваўся Полацкім архіепіскапам.

**28. КАЛІСТ РЫТАРАЙСКІ.** 13 сакавіка 1656 г. пастаўлены маскоўскім патрыярхам Ніканам з ігумена Віцебскага Маркараля Жыгімонта III, дадзеным 30 ліпеня 1595 г. аб свабодзе і недатыкальнасці правоў уніяцкага духавенства. Ён тытулаваны архіепіскапам Полацкім, Віцебскім і Мсціслаўскім.

2. **ГРЫГОРЫЙ ГЕРМАН ЗАГОРСКІ.** Падпісаў ліст літоўскіх архірэяў папе Кліменту VIII і на дзеянні Брэсцкага сабора, які адбыўся ў 1596 г. аб далучэнні да рымскай царквы. Памёр у 1600 г.

3. **ГЕДЭОН БРОЛЬНІЦКІ.** Хіратанісан у 1601 г. паводле прывілея караля Жыгімонта III; памёр у 1618 г.

4. **ІААСАФ КУНЦЭВІЧ.** Пасвечаны ў 1618 г. Злосны ганіцель праваслаўных, ад рукі якіх 12 лістапада 1623 г. пакутваў, забіты і кінуты ў раку Дзвіну.

5. **АНТОНІЙ**, альбо (паводле каталога Аллацiя) **Анастасій Сялява**. Хіратанісан у 1624 г., а ў 1642 г. абраны на Кіеўскую мітраполію. Аднак у ліку антымітрапалітаў не паказаны ён, без сумнення таму, што праваслаўны мітрапаліт Пётр Магіла яшчэ ў 1633 г. паспеў адвярнуць Сафійскую кафедру ад уніятаў і тым паслабіць іх

---

1 Гл. Кат. Магілёўскіх архіваў.

кавага манастыра намеснікам епіскапскай кафедры. У чэрвені наступнага года хіратанісан у епіскапа. Ён кіраваў магілёўскай паствай да 1661 г.

уладыцтва сярод кіеўскай паствы.

6. ГАЎРЫІЛ КАЛЯДА. Пасвячоны ў 1655 г., у 1664 г. зрабіўся адміністратарам мітраполіі, а праз два гады прывілеем караля Яна Казіміра пажалаваны на кіеўскага мітрапаліта. Памёр у 1674 г., аднак паміж антымітрапалітамі не лічыцца.

7. КІПРЫЯН ЗАХОЎСКІ. 1674 г., памёр у 1693 г.

8. МАРДЗІЯН БЕЛАЗОР. 1697 г., памёр у 1707 г.

9. СІЛЬВЕСТР ПЯТКЕВІЧ. 1709., памёр у 1719 г.

10. ФЛАРЫЯН ГРАБНІЦКІ. 1719 г., памёр у 1762 г.

11. ІАСАН ЮНОША-СМАГАЖЭЎСКІ. 1762 г.

## А6 Магілёўскай семінарыі

Першапачаткова вучылішча ў Магілёве адкрываецца ў канцы XVI ст. Кароль Стэфан Баторый надаў Магілёву магдэбургскае права сваім лістом ад 28 студзеня 1578 г.[1] Сярод шматлікіх грамадзянскіх прывілеяў, дазволіў адчыніць тут хрысціянскую школу (scholam Christianam). Яна знаходзілася пры тутэйшай Богаяўленскай царкве. Пасля ўпарадкавання і стварэння манастыра ёй далі назву вучылішча. Магілёўскія грамадзяне заснавалі тут цар-

---

1 Гэты і наступныя лісты Жыгімонта 5 снеж. 1602 г. і грамата цара Аляксея Міхайлавіча 15 верасня 1655 г., на якія робяцца тут спасылкі, знаходзяцца ў Беларус. архіве стараж. грамат. Частка 1, пад № 28 і 29.

коўнае брацтва, ці Чалавекалюбівае таварыства, члены якога абавязаны былі ўносіць у брацкую скарбонку адвольныя ўклады на богаслужбовыя выдаткі, дапамогу бедным, нявольнікам, хворым і на пахаванне немаёмых, а таксама ўзялі на сябе ўтрыманне школы і настаўнікаў. У сваёй пастанове, пацверджанай лістом караля Жыгімонта III 5 снежня 1602 г., яны адносна гэтага пытання пастанавілі наступнае: "въ школе брацкой дети братвы уписное и убогихъ сиротъ, языка и письма Словенского, Руского, Греческого, Латинъского и Польского, накладомъ брацкимъ учити повинны, ведлуг застановеня нашого брацкого; такъ же и людей, въ письме учоныхъ, асобъ духовныхъ и свецкихъ, для науки школное, до проповеди слова Божого и до науки детей доскональыхъ въ справе и звыклости своей заховати маемъ". Гэтае дабрачыннае таварыства, ці брацтва, ад імя якога і сама Богаяўленская царква называецца да гэтых часоў Брацкаю, паводле таго ж каралеўскага прывілею знаходзіцца ў падпарадкаванні кіеўскага мітрапаліта і выведзена з падсуднасці свецкіх улад, а будынак яго вызвалены ад усякіх грамадзянскіх павіннасцей. Іерусалімскі патрыярх Феафан граматай 1620 г. благаславіў адкрыццё пры Богаяўленскай царкве манастыра і разам з гэтым пацвердзіў існаванне вучылішчнага брацтва. Пазней кароль Уладзіслаў IV пацвярджальным прывілеям, дадзеным 19 сакавіка 1633 г., дазволіў завесці пры Брацкім манастыры друкарню і ў ёй друкаваць кнігі — не толькі падручнікі для дзяцей, але і для хрысціянскага народу на рускай, грэчаскай, лацінскай і польскай мовах[1]. А цар Аляксей Міхайлавіч з нагоды

---

1 Глядзі Ист.Росс.Иерархіи, III.С.441. Сопікаў у Росс. биб. 1.С.92 і 299 упамінае 1) Служебникъ і 2) Евангеліе учительное воскресное іераманаха Кірыла Транквіліёна, з якіх першы надрукаваны ў Магілёве ў 1616 г. ў 4 долю арк., а апошняе — у 1619 у аркуш. Лічачы гэтыя кнігі першапачатковым вырабам магілёўскага кнігадрукавання, можна зрабіць выснову, што яно тут і раней існавала, г.зн. да каралеўскага прывілея, дадзенага на заснаванне друкарні, якая заведзена амаль у адзін час з Кіева-Пячэрскай, калі толькі не раней за гэтую апошнюю.

далучэння да Расійскай дзяржавы ў сваёй даравальнай грамаце 15 верасня 1655 г., даючы жыхарам гэтага горада асаблівыя правы і вольнасці, зазначыў: "быть в Могилёве училищам православной христианской веры греческого закона, против киевских училищ".

З 1757 г. праасвяшчэнны Георгій ва ўмовах ганенняў з боку католікаў і уніятаў, пачаўшы ствараць семінарыю, у 1768 г. 18 красавіка атрымаў ад караля Станіслава Аўгуста новы і асобы дазвол перавесці праваслаўныя вучылішчы, дзеля зручнага месца, на прадмесце горада Магілёва, да царквы Св.Мікалая[1] і ўтварыць друкарню, з тым, аднак, каб у ёй не друкавалі кніг ерэтычных і поўных атрутнай лаянкі па спрэчных прадметах[2]. Першапачаткова адчынены былі ў семінарыі толькі ніжэйшыя класы, з прычыны недахопу настаўнікаў. Аднак Георгій паклікаў з Кіеўскай акадэміі некалькі студэнтаў і праз гэта скора паспеў адкрыць кафедры не толькі для багаслоўскіх і філасофскіх навук, але і для навучання гэбрэйтскай і грэчаскай мовам.

Яшчэ да далучэння Беларускага краю [да Расіі] на ўтрыманне тутэйшых вучылішчаў давалася ад Расійскага ўрада па загаду 16 красавіка 1758 г. гадавое жалаванне па 400 руб., а з 1780 г., калі была арганізавана семінарыя, пакладзена 2500 руб. разам з Полацкімі школамі. З 1798 г. гэты аклад павялічыўся да 3500 руб., потым да 7 тыс. рублёў. Нарэшце, пасля новага пераўтварэння духоўных вучылішчаў, Магілёўская семінарыя, адпаведна таму як і сама епархія, прылічана да 2-га разраду і да акругі С.-Пецярбургскай акадэміі, і цяпер, адпаведна высачайша зацверджаным 22 мая 1820 г. штатам, атрымлівае аккладнага жалавання 26 650 руб. Паводле Статута семінарыі, ёй кіруюць рэктар і інспектар. Напачатку ўстанова была падначалена прэфектам, хаця ў апошні

---

1 Цяпер тут Дух. Прыходскае вучылішча.

2 Так сказана ў польскім арыгінале каралеўскага прывілея: "żeby w niey [друкарні] heretyckich xiąg nie drukowały, y w punctach controwersiey uszczypliwych convicią y ostroscią stylu napełnionych pilnie unikały" і інш. Гл. Белор. арх. древ. грамотъ. Ч.І, па канцы.

час акрамя іх пачалі яшчэ мець і рэктараў. Падаецца спіс тых і другіх у храналагічнай паслядоўнасці.

Рэктары:

1. Іаасаф. Архімандрыт Магілёўскага Брацкага вучылішчнага манастыра. Кіраваў з 1798 да 1803.

2. **Феафан Рамаскоўскі**. Былы прэфект і ігумен, потым архімандрыт Аршанскага манастыра і выкладчык багаслоўя. Кіраваў да 1807 г., калі пераведзены ў Астрожскі першакласны манастыр са званнем рэктара Валынскай семінарыі, а потым, 22 лютага 1812 г. — у Чарнігаўскі Елецкі, таксама першага класа, дзе і памёр 1 студзеня 1813 г.

3. **Нікадзім**. Віцэ-дырэктар, іераманах. Кіраваў каля двух гадоў.

4. **Юстын**. Архімандрыт Аршанскага Куцеінскага манастыра і выкладчык багаслоўя з 1810 г. да 1812 г.

5. **Іосіф**. Архімандрыт Віцебскага Маркава манастыра, [кіраваў] у 1813 г.

6. **Міхаіл Багуслаўскі**. Протаіерэй Магілёўскага Іосіфскага сабора, [кіраваў] у 1814 г.

7. **Венедыкт Грыгаровіч**. Магістр, архімандрыт Аршанскага манастыра і прафесар багаслоўскіх навук. Кіраваў з

Прэфекты:

1. **Іаан Скольскі**. Протаіерэй. Кіраваў да 1780 г.

2. **Іаан Грыгаровіч**. Свецкі, быў настаўнікам рыторыкі. Кіраваў семінарыяй з 1781 г. да 1784 г. Потым пастаўлены протаіерэем у Гомельскую Праабражэнскую царкву, а пасля адкрыцця духоўных вучылішчаў, на новым пераўтварэнні, быў рэктарам гомельскіх павятовага і прыходскага з 1810 г. да 1820 г.

3. **Міхаіл Багуслаўскі**, протаіерэй Магілёўскага кафедральнага сабора. Кіраваў адзін год. Ён быў потым рэктарам у 1814 г.

4. **Сампсон Цвяткоўскі**. Са свецкіх. [Кіраваў] з 1787 г. Ён першы пачаў выкладаць філасофію і, будучы прэфектам семінарыі, кіраваў адначасова і народным вучылішчам.

5. **Андрэй Прыгароўскі**. Протаіерэй Магілёўскай Уваскрэсенскай царквы. [Кіраваў] з 1795 да 1799, быў таксама выкладчыкам філасофіі.

6. **Феафан Раманоўскі**. Ігумен Аршанскага Куцеінскага манастыра і выкладчык філасофіі з 1800 г., потым рэктар.

верасня 1814 г. да 1821 г., у якім пераведзены ў Бораўскі Пафнуціеў першакласны манастыр са званнем рэктара і прафесара Калужскай семінарыі.

8. Мелеці Леантовіч. Магістр, архімандрыт і прафесар багаслоўя. Быў напачатку інспектарам у Кіеўскай акадэміі. Пасля двухгадовага кіравання, у 1823 г. пераведзены ў Елеазараў манастыр Пскоўскай епархіі са званнем рэктара і прафесара тамашняй семінарыі.

9. Аркадзій. У 1823 г. пераведзены з Уладзімірскага Багалюбава 3-га класа манастыра архімандрытам Аршанскім. Знаходзіцца дасёння.

7. **Феактыст.** Саборны іераманах і настаўнік філасофіі. [Кіраваў] з 1803 г. да 1805 г., у якім выбыў у Вологду.

8. **Нікадзім.** Саборны іераманах. [Кіраваў] з 1806 г., потым быў віцэ-рэктарам.

9. **Герасім Прыгароўскі.** Святар Магілёўскай Успенскай царквы, віцэ-прэфект. [Кіраваў] у 1810 г. (нядоўга).

10. **Канстанцін Кітовіч.** Са свецкіх настаўнікаў. З 1810 г. быў інспектарам, а потым, з 1813 г. да верасня 1814 г., прэфектам. Выбыў у грамадзянскую службу.

## Апісанне беларускіх манастыроў[1]

I. **БАРКАЛАБАЎСКІ УЗНЯСЕНСКІ**[2] дзявочы заштатны манастыр знаходзіцца ў Быхаўскім павеце, бліз мястэчка Баркалабава. Адлегласць ад павятовага горада 12 вёрст. Назву мае ад урочышча Барока, якое ахвяравалі на яго Багдан Вільгельмавіч Стэткевіч і яго жонка Алена ў ліку іншай маёмасці. Пра першапачатковае заснаванне гэтага манастыра нічога невядома ні па запісах, ні з

---

1 У гэтым апісанні манастыры размешчаны ў алфавітным парадку, з пазначэннем месцаў, дзе кожны з іх змешчаны ў мінулым выданні Ист.Росс.Іерар.

2 Гл. Ист.Росс. Іерар. III. С.428.

паданняў; а галоўны храм у імя Узнясення Гасподня названы ў 1641 г. і асвячоны ў наступным [годзе] як відаць з сучаснага надпісу, які знаходзіцца ў царкве, на сцяне: "В лето отъ С.М. 7156, а отъ Р.Х. 1648, мес. Мая 11 д. изволеніемъ и благодатію Святого Животворящаго Духа, збудаванъ сей храм во славу великаго Бога ■ Спаса нашего И.Хріста, въ честь же и пямять славнаго Его вознесенія, во св.абщежительной обітелі Борколабовской девической, въ княжестве Литовскомъ въ повете Оршанскомъ сущей, при державе Государя нашега В. Короля Владислава четвёртаго, при всечестномъ О. Іовле Труцевиче, игумене Кутеинскомъ, Буйницкомъ и Борколабовскомъ, первоначальникъ ■ аснователь монастырей, при Игуменіи Фотиніе Киркоровне, первоначальной, коштомъ благородного и православного, его милости Пана Фёдора Багдана Стеткевича, Каштеляна Новградскаго и при сыне его милости Пане Михаиле-Владиміре Стеткевиче; рукодействіемъ же Господина О. Макарія Лигаридія, Божіею милостію православнаго Митрополита Греческаго, викарія ■ Екзарха Святейшаго фрону, пры Державе нашега В. Короля Іоанна Третіяго и при всечестнамъ отце Господине Гедеоне Климовиче, Игумене Кутеинскихъ монастырей, освятися сей Божественный храмъ при Игуменіи Ксенафонтіи Косиловне, и положены во Св. олтаре его мощи СС. мученикъ Сергія и Вакха, и Св. великомученицы Варвары, въ лето отъ С.Света 7157, от воплощенія же Христова 1649, мес. Маія 29 дня".

Другі храм у імя Св. Іаана Прадцечы, з прэдзелам Св.Мікалая і званіцай, злучанай з гэтым кормусам, пабудаваны, як сведчыць паданне, у адзін час з галоўнай царквой і таксама коштам незабыўнага Багдана Стэцкевіча. У памяць аб ім манастыр захоўвае ў царкве выявы яго і супугі, Алены Багданаўны, княжны Саламярыцкай. У чатырох вяршках ад абіцелі стаіць капліца, у якой народ з бліжэйшых мясцін збіраецца ў дні Св.Мікалая на багамолле.

У галоўнай царкве манастыра маецца цудатворны абраз Боскай Маці, пра яўленне якога знойдзены ў архіве наступны гістарычны запіс: "Тайну Цареву подобаетъ хранити, а дела Божія открывати. Попущеніемъ Божіимъ бывшей брани въ Польше и Литве въ лета

отъ С.М. 7167, а отъ Р.Х. 1659, при державе Польскаго Короля Владислава четвертаго[1] грядуще обратно изъ Польши Князь воевъ русскихъ, прозваніемъ Пожарскій, имея потай съ сабою сию Икону Пресв. Богородицы, егда пріиде на место сіе иде же ныне у вратъ велікихъ; тогдаста Икона неподвижима. Трудясь же князь, и хотя конскою силою и младыми отрокамі своими долгнути, ничтоже успе; и бысть Икона неподвижна. Сіе видя Князь, пайде къ Игуменіи, тогда бывшей Фотиніи Кирковне, и рече: возмите Икону Пресвятая Богородицы; видно бо хощетъ Мати Божія зде пребывати" і інш. Святкаванне гэтае адбываецца штогод ліпеня 11 дня, у дзень Св.вялікапакутніцы Яўфіміі, ў які абраз гэты быў прывезены ў манастыр. А ў капліцы, што стаіць па-за манастыром, знаходзіцца абраз Св.Мікалая, таксама шануемы як цудатворны. З укладаў, акрамя свяшчэнных пасудзін і адзення, вартае ўвагі Евангелле напрастольнае, абкладзенае аксамітам алняковага колеру і ўпрыгожанае срэбнымі з пазалотай выявамі чатырох Евангелістаў і чатырох Свяціцеляў, у сярэдзіне якіх паказана Укрыжаванне Спаса. Па нізе аркушаў знаходзіцца наступны ўкладны запіс: "Лета 7195 (1678) Іюля 18 д. по Указу великаго господина Святейшаго Кіръ Іоакима Московскаго и всея Россіи и свехъ северныхъ странъ Патріарха, дана сія книга изъ его Святейшаго Патріарха домовая казны, области Польскаго Королевскаго величества города Борколабова въ Борколабовскій девичь монастырь, въ церковь Вознесенія Господня безденежно".

Манастыр гэты атрымаў ва ўладанне ад заснавальніка Багдана Стэткевіча паводле граматы 1641 г. чэрвеня 24 урочышча, альбо востраў Барок, шэсць валокаў зямлі для пашні і млын на рацэ Рэкце з рыбнымі ловамі, з такім тэстаментам, каб арганізаваны быў праваслаўны агульнажыцельны дзявочы манастыр. Як у тэстаменце яго напісана: "Прыкладам і правіламі манастыра паненскага Куцеінскага, інакіні тутэйшыя захоўвалі б непарушна на

1 Вядома, што кароль Уладзіслаў IV Жыгімонтавіч памёр у 1648 г. 27 мая (н.с.), а пераемнік яго і брат Ян-Казімір абвешчаны каралём таго ж года 20 лістапада; каранаваны ў наступным 1649 г. 17 студз. Само сабой відаць, што ў гэтым запісе пра яўленне абраза летазлічэнне недакладнае.

вечныя часы веру дабрачынную, зусім не адхіляючыся ад старажытнай веры і паслушэнства свяцейшага патрыярха Канстанцінопальскага да Рымлян і уніятаў". Абіцель гэтая напачатку паводле тэстамэнту была даручана "ва ўладу, справаванне і пільны дазор" ігумену куцеінскаму Іаілю Труцэвічу, з тым, "каб яе, не адрозніваючы ў парадках агульнажыцця ад дзявочага Аршанскага манастыра, забяспечвалі б усё неабходнае да харчавання, а прыбыткі ўласныя з ім бы падзяляла"[1].

У хуткім часе сын і спадчыннік Стэткевіча Міхаіл-Уладзімір ахвяраваў манастыру асобным лістом, дадзеным 1652 г. 12 красавіка, новыя і большыя ўгоддзі: вёску Касцянку, якая раней называлася Сутокі, вёску Халмы і пусташ Сабалёўку, якімі гэты манастыр абавязаны быў карыстацца сумесна з мужчынскім Буйніцкім [манастыром], на той падставе, што абедзве абіцелі атрымалі іх з рук аднаго фундатара. Пасля доўгатэрміновых судовых спрэчак, што адбыліся паміж двума манастырамі, гэтая пастанова прызнана абавязковай і да ўзаемнага іх успакаення зацверджана дэкрэтам кіеўскага мітрапаліта Цімафея ад 3 сакавіка 1752 г.

Цяпер у азначаных паселішчах лічыцца, паводле апошняй рэвізіі, прыпісаных да гэтага манастыра душ мужчынскага полу 90 і жаночага 88. Зямлі ворнай, сенажацяў і ўвогуле прыдатнай і няўдобіцы лічыцца да 1355 дзесяцін.

Пры гэтым манастыры адпраўляюцца тры кірмашы на год: на свята Узнясення Гасподня, 24 чэрвеня на Раство Прадцечы і 29 жніўня, на адсячэнне галавы Іаана Прадцечы. Але найбольшы збор народу і з аддаленых месцаў бывае да цудатворнага абраза Багародзіцы пры святкаванні яго яўлення.

Паводле манастырскіх запісаў настаяцельніцы, альбо ігуменні, вядомы наступныя:

1. Фаціння Кіркораўна, 1648 г.
2. Ксенафонція Касілаўна, 1649 г.

---

[1] Гэта жаданне фундатара тлумачыцца тым, што Багдан Стэткевіч і яго жонка, як вядома, былі заснавальнікамі і фундатарамі таксама і Аршанскага Куцеінскага дзявочага манастыра.

3. Паісія Юхневічава, 1672 г.

4. Севасцяна Адалевічава, 1736 г.

5. Анфіса, 1737 г.

6. Антаніна, 1752 г.

7. Хрыстафора, 1753 г.

8. Апалінарыя Карабанкава, 1760 г.

9. Дзіянісія Фёдаравічава, 1778 г.

10. Маўра Падпораўская, 1781 г.

11. Елізавета Карбінава, з 1795 г. да 1798 г.

12. Сусана Тамашэўская, з 1798 г. да 1820 г.

13. Пятронія Булыева, настаяцельніца і казначэйша; знаходзіцца дасёння.

II. БАРКАЛАБАЎСКІ СВЯТАДУХАЎ мужчынскі праваслаўны манастыр[1] знаходзіўся ў мястэчку Баркалабава паблізу дзявочай абіцелі гэтага імя. Ён быў прыпісаны да Буйніцкага манастыра. Аднак час стварэння яго невядомы, так што ён у ліку беларускіх манастыроў нідзе не ўпамінаецца. Аднак з ліста стольніка літоўскага, графа Станіслава Сапегі, дадзенага 27 лютага 1698 г., відаць, што гэты манастыр існаваў шмат раней таго часу, бо Сапега ў сваім лісце згадзіўся задаволіць жаданне жыхароў добрачасцівай веры, аднавіць у Баркалабаве царкву імя Св.Георгія, даручыўшы і яе ў кіраванне ігумена тутэйшай і Буйніцкай абіцелі Іосіфа Драніка, і зацвердзіў праводзіць, па даўняму звычаю, гадавыя кірмашы, як пры манастыры, так і пры царкве, у дні храмавых святаў. Калі і кім ён знішчаны, невядома. У цяперашняй вёсцы (былым мястэчку) Баркалабава знаходзіцца адна толькі царква, якая з праваслаўнай пераробленa на унію ў 1747 г.[2]; значыць яна ёсць альбо Георгіеўская, альбо рэштка Духава манастыра.

III. БУЙНІЦКІ СВЯТАДУХАЎ[3] Магілёўскай епархіі заштатны мужчынскі манастыр знаходзіцца на адлегласці ад горада Магілёва

1 Пра гэты манастыр у Ист.Росс.Іерархіи не ўпамінаецца.

2 Гл. Истор. объ Уніі. С.445.

3 Гл. Истор. Росс. Іерархіи, III. С.461.

ў пяці вярстах па Быхаўскай дарозе, на правым беразе Дняпра. Пабудаваны ён каля яра Круцева, альбо Глыбокага, недалёка ад мястэчка Буйніч, чаму і названы Буйніцкі. Заснаваў манастыр гэты ў 1593 г. староста Крычаўскі, князь Багдан Саламярыцкі, пажалаваўшы яму дзве валокі зямлі з пажыткамі і бортным дрэвам[1]. Пазнейшым часам, менавіта 1633 г. жніўня 1, Багдан Вільгельмавіч Стэткевіч, падкаморы Мсціслаўскі, і яго жонка, княжна Алена з Саламярыцкіх, дачка памянутага старосты, ахвяравалі яму, як у лісце запісана, "зямлі валокаў сто, вёску Касцянку, ад даўнейшых часоў называную Сутокі, і вёску Слабодку, называную Холм, з людзьмі, зямлёй, грунтамі аселымі і неаселымі, ворнымі і няворнымі, разроскамі і зараслямі, селішчамі, пагноямі, засценкамі, сенажацямі мурожнымі, з рэкамі, ставамі, ставішчамі, сажалкамі, лясамі, пушчамі, гаямі, дубровамі, з дрэвам бортным, пчоламі, з ловамі звярынымі і птушынымі, рыбнымі і з усімі зямнымі, лясными, вадзянымі, якім-небудзь спосабам цяпер і напотым вынайдзенымі і названымі пажыткамі, таксама і з усімі тых вёсак людзьмі падданымі, з платамі, чыншамі, дзякламі і ўсякімі павіннасцямі і прыбыткамі". Гэтымі ўгоддзямі, паводле асобнай пастановы, зробленай 1652 г. красавіка 12 сынам і спадчыннікам Багдана Стэткевіча Міхаілам-Уладзімірам, Буйніцкі манастыр павінен быў карыстацца разам з Баркалабаўскім дзявочым[2] [манастыром] на той падставе, што абедзве гэтыя абіцелі атрымалі іх ад аднаго заснавальніка (фундатара).

Сёння ў гэтым манастыры знаходзяцца наступныя пабудовы: царква ў імя Сашэсця Св.Духа мураваная, пабудаваная на месцы драўлянай, на новы манер, ахвяраю надворнага саветніка Аляксандра Якаўлевіча Яншына, які і пахаваны тут з жонкай; другая царква цёплая, таксама мураваная ў імя Св.Мікалая; келлі і іншыя пабудовы манастырскія драўляныя. Пры ім ніякіх кірмашоў не праводзіцца, толькі ў дзень Св. жонаў міраносіц штогод бывае вялікае сабранне народу.

---

1 Гл. адказную грамату яго ў Белор. архив. древ. грамоть, Ч.1, № 26.
2 Гл. вышэй пра манастыр Баркалабаўскі дзявочы.

Прыпісаных да яго душ лічыцца ў вёсцы Касцянцы і вёсцы Халмах мужчынскага полу 145, жаночага 155. Зямлі ворнай, сенакоснай, пад сядзібамі і лесам — увогуле прыдатнай і непрыдатнай, лічыцца пры самім манастыры 159 дзесяцін і 1976 сажняў; пры вёсцы Касцянцы 319 дзесяцін і 79 сажняў і пры вёсцы Халмах 315 дзесяцін і 343 1/2 сажня.

Настаяцельства ў гэтым манастыры з даўніх часоў было ігуменскае. Па манастырскіх запісах упамінаюцца наступныя ігумены: 1) Іосіф, альбо Іосіф Дранік, 1698 г. Ён быў адначасова і ігуменам Баркалабаўскага Духаўскага манастыра[1]. 2) Вікенцій Барановскі, 1739 г. 3) Іларыён Ляцяга, 1752 г. 4) Пётра Ізмайлавіч, намеснік, тады ж. Паводле ліста караля Станіслава Аўгуста, што дадзены 1768 г. красавіка 18 Беларускаму епіскапу Георгію, гэты манастыр прылічаны быў да Магілёўскага кафедральнага, аднак зараз лічыцца прыпісаным да Магілёўскага Брацкага манастыра. З гэтай прычыны і асобнага настаяцеля не мае.

IV. ВІЦЕБСКІ[2] МАРКАЎ ТРОІЦКІ заштатны мужчынскі манастыр епархіі Магілёўскай знаходзіцца ад горада Віцебска ў дзвюх вярстах, на правым беразе Дзвіны. Пра першапачатковае заснаванне гэтай абіцелі расказваюць, што нехта старац Марка Зымянінік, з выхадцаў, пасяліўся тут і пабудаваў на тым месцы, дзе цяпер стаіць манастыр, драўляную капліцу, і тых, хто прыходзіў да яго, прымаў у агульнае жыццё. Таму і сам манастыр, ад імя заснавальніка, названы Маркавым. Па праппэсці некалькіх гадоў літоўскі князь Леў-Самуіл Багдановіч Агінскі, ціўн троцкі, нашчадак князёў Казельскіх, выхаваны ў праваслаўнай веры, па маленні старца Маркі, збудаваў на месцы капліцы малую драўляную царкву ў імя Жыватачальнай Тройцы, і пры ёй некалькі келляў для інакаў. Разам з тым, на ўтрыманне абіцелі ахвяраваў ён ад імя свайго і жонкі Соф'і граматай 1642 г. жніўня 4 зямлю з фальваркам Шыдлоўшчынай. Пасля гэтага шляхціц Сымон Паналіпскі адпісаў гэтаму манастыру ў вечнае карыстанне на праву, дадзенаму 1644 г. студзеня 27, вёску Плешніна, а ў 1651 г. верасня 22 Еўстафій

1 Гл. вышэй апісанне Баркалабаўскага мужчынскага манастыра.

2 Гл. Истор. Росс. Іерархіи V.C.48.

Піпка духоўным тэстамэнтам сваім прыпісаў на карысць яго ў Суражскім павеце вёску Прысушына з пусташам, называным Усава і некалькімі пляцамі ў самым Віцебску, на ўзгорку за Дзвіной і ўніз па рацэ ляжачых. Сын жа і спадчыннік заснавальніка абіцелі, князь Карл-Сімяон Агінскі, мечнік Вялікага княства Літоўскага, пабудаваў у 1691 г. на месцы малой царквы большую, таксама драўляную, з пяццю галоўкамі, у імя Св.Тройцы, і лістом сваім, дадзеным 28 лютага таго ж года, пацвердзіў уклад бацькі. Нарэшце, у 1713 г. дастаўся яшчэ манастыру ад ваяводы віцебскага пана Аляксандра Пацея кавалак зямлі, што называлася Гаеўшчына, на якой манастырскімі сялянамі населена вёска Загор'е. На ўсе гэтыя ўгоддзі дакументы, што дадзены былі ахвяравальнікамі, згарэлі ў час пажару, што быў 1752 г. жніўня 2 дня. Аднак яны былі ізноў выпісаны з кніг земскіх і трыбунальскіх па хадайніцтву ігумена Іакінфа Пелкінскага, зацверджаны трыма прывілеямі польскіх каралёў, Аўгуста III, 1752 г. кастрычніка 10, і 1756 г., снежня 11, таксама Станіслава Аўгуста 1765 г. студзеня 15, дадзенымі.

Манастыр гэты перацярпеў доўгачасовыя і моцныя ганенні ад супраціўнікаў праваслаўя. У 1722 г. кашталян віцебскі Агінскі, па тайнай змове з полацкім уніяцкім архіепіскапам Фларыянам Грабніцкім, апячатаў у ім усе цэрквы і забараніў віцебскім добрачасцівым жыхарам хадзіць туды для багамолля. У такой крайнасці манастыр павінен быў адкупіцца і для гэтага прызначыў штогадовы плацёж па 30 яфімкаў Агінскаму[1]. А ў 1751 г. 22 снежня дэкан Казімір Лукашэвіч, уварваўшыся сюды, выгнаў праваслаўных манахаў, разрабаваў архіў і маёмасць, пасяліў у абіцелі ксяндзоў базыльянскага ордэна, а ігумена Серафіма Качэпу трымаў у сябе за палоннага. Аднак у наступным 1752 г. па хадайніцтву ігумена Іакінфа Пелкінскага кароль Аўгуст III сваім лістом, дадзеным кастрычніка 10 таго года, вярнуў манастыру старыя правы, свабоду веры і маёмасць. Пасля далучэння Беларускага краю да Расійскай дзяржавы ён застаўся праваслаўным.

---

1 Гл. Истор. объ Унін. С.216.

У ім з 1652 г. настаўніцтва было ігуменскае, а ў 1798 г. зацверджана архімандрыя без штату, на сваім утрыманні. Паводле ліста кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы (1633), гэты манастыр, разам з Полацкім Богаяўленскім, меў выключнае права адпраўляць кожны год, па чарзе, манахаў сваіх у Рыгу, для богаслужэння, адпраўлення хрысціянскіх трэбаў і міласціннага збору. Гэтае права шматразова пацверджана было, а менавіта: 1) епіскапам беларускім Феадосіем Васілевічам, 1675 г.; 2) падчас міжархірэйства намеснікам і адміністратарам Магілёўскай епіскапіі Сільвестрам Валчанскім, 1686 г. ліпеня 8 д.; 3) кіеўскім мітрапалітам Гедэонам-Святаполкам кн. Чацвярцінскім, 1687 г. лютага 17; 4) мітрапалітам Варлаамам Ясінскім, 1690 г. сакавіка 2 д.; 5) усерасійскім патрыярхам Адрыянам, 1697 г. лютага 2; 6) магілёўскім епіскапам Серапіёнам Палхоўскім, 1699 г.; 7) экзархам Стэфанам Яворскім, 1715 г. кастрычніка 7; 8) Свяцейшым урадавым Сінодам, 1723 г. ліпеня 30[1].

Да вартых памяці падзей можна аднесці тое, што Імператар Пётр Вялікі ў 1708 г. стаяў лагерам недалёка ад манастыра, на процілеглым беразе Дзвіны, у мястэчку Лучэжнах, у якім блізка рэчкі Лучосы, што ўпадае ў Дзвіну, знаходзіцца студня, якую і сёння называюць Царскай. У гэтым манастыры пахаваны, варты памяці і павагі муж, генерал-маёр Сяргей Лазаравіч Лашкароў, які заключыў разам з князем М.І.Кутузавым у 1789 г. мірны трактат з Турцыяй.

Будынкі ў гэтым манастыры найбольш выдатныя наступныя: 1) Саборная царква ў імя Жываначальнай Тройцы, драўляная з пяццю главамі, на мураваным падмурку, пабудаваная князем Сімяонам Агінскім, як вышэй сказана, і па благаслаўленні чарнігаўскага епіскапа Лазара Барановіча, пры ігумене Феафане, 1691г. мая 31, у дзень сашэсця Св.Духа асвячона. Храм гэты варты ўвагі па моцы сваёй, бо па прашэсці 132 гадоў, яшчэ моцны і зараз. Унутранасць яго ўся распісана насценным пісаннем кіеўскім. Іканастас праразны, на грэчаскі густ, з пазалотай, месцамі па-

---

1 Некаторыя з гэтых актаў змешчаны ў Бел. Архиве древн. Грамотъ.

фарбаваны, абразы старажытнага грэчаскага пісання. У ліку іх знаходзіцца абраз Казанскай Боскай Маці, якую ахвяраваў манастыру маскоўскі патрыярх Нікан. 2) Другая царква, у імя Мікалая, мураваная з прытворам Св.Апосталаў Пятра і Паўла. Будаўніцтва яе пачата пры ігумене Іакінфе, а закончана і асвячона пры ігумене Сазонце ў 1784 г. 3) Драўляная, у імя свяціцеля Мікалая, царква за манастырскай агароджаю, на могілках; пабудавана ў 1703 г. 4) Таксама драўляная невялікая [царква], у імя Св.Вялікапакутніцы Параскевы, адлегласць ад манастыра каля 1,5 вярсты; пабудавана таксама ў 1703 г. 5) Званіца мураваная ў манастырскай агарожы з паўднёвага боку, асобна ад усіх цэркваў, з уязной брамай; пабудавана пры ігумене Іакінфе каля 1760 г. На ёй сем званоў, з якіх найбольшы важыць да 70 пудоў. 6) Келлі манастырскія і брацкія з гаспадарчымі памяшканнямі. 7) Кругом манастыра агароджа, таксама мураваная.

Прыпісных да яго душ у вёсках Слабодцы, Загоры, Плетніне і Прысушыне лічыцца па апошняй рэвізіі 143. Зямлі ворнай і сенакоснай з невялікіміляснымі зарасцямі ў навакольных межах лічыцца: 1) пры Слабодцы і Шыдлоўшчыне 322 дзесяціны і 424 кв. сажня, 2) пры Загоры 166 дзесяцін, 3) пры Плетніне 59 дзесяцін і 189 саж., 4) каля Прысушына і пусташы Усавай 397 дзесяцін і 1009 саж.

З настаяцеляў манастыра вядомы толькі былыя ў ім у сярэдзіне мінулага стагоддзя ігумены: 1) Серапіон; 2) Каліст Ратарскі ў 1656 г., потым еп. Полацкі; 3) Феафан, пры ім у 1691 г. асвячоны галоўны храм абіцелі; ён упамінаецца таксама ў грамаце патрыярха Адрыяна 1697 г. пра дазвол пасылаць тутэйшых манахаў у Рыгу; 4) Пётра; 5) Сільвестр; 6) Дасіфей; 7) Серафім Качэпа, пры якім манастыр забралі базыльяне; 8) Іакінф Пелкінскі, упамінаецца ў каралеўскіх лістах 1752 і 1756 г.

Па зацверджанні тут архімандрыі першым архімандрытам быў Іосіф, родам маларасіянін, які паступіў з аканома С.-Пецярбургскай Аляксандра-Неўскай лаўры ў 1793 г. і быў да 1798 г. ігуменам; ён памёр у гэтым манастыры 19 снежня 1817 г.; 2) Анатолій, паходжаннем вялікарасіянін, які паступіў у 1818 г. з Калязінскага манастыра Макарыева, кіраваў да 1 лістапада 1820 г.; 3) Іеранім,

вялікарасіянін, быў у Аля :сандра-Неўскай лаўры рызнічым; пасвячоны ў архімандрыта 22 кастрычніка 1821 г. і кіруе дасёння.

З захаваных ад пажару і разрабавання лістоў, дадзеных гэтаму манастыру, якія тычацца яго гісторыі, змяшчаем, для цікаўных, наступныя тры.

### Ліст 1-ы

August III, ż Bożey łaski Król Polski, Wielki Xiąże Litewski, Ruski, Pruski, Mazowiecki, Źmudski, Kijowski, Wolynski, Podolski, Podlaski, Jnflanski, Smoleński, Siewierski, Czernihowski et cet. ▪ dziedeziezny Xiąze Saski y Elector.

Oznaymuiemy tym Listem przywileiem Naszym wczem w obeć y kazdemu z osobna, wszelkiey preeminencyi status et conditionis duchownego y swieckiego stanu, w Koronie Polskiey y w Wielki Xięstwie Litewskim teraz y napotym będącym ludziom, komu o tym wiedzieć należy y będzie należało. Jz suplikował do Tronu Naszego wielebny w Bogu Ociec Hyacynth Pelkinski, swoim y wszystkich Braci swoich Bazylianow ritus Groci nie w Unii będących imieniem, jhumen monasteru pod titulem Troycy Przenayswiętszey Markowskiego, z dawna ufondowanego, abyśmy ten monaster przy protekcyi y łasce Naszey Królewskiey, oraz przy wolnościach rownych innym Monasterom nie w Unij będącym zachowali, konserwowali, y powagą Naszą zmocnić y utwierdzić raczyli. My tedy Kr"ól do tey supliki łaskawie się skloniwszy, za instancyą Panoẃ Rad Naszych przy boku Naszym rezyduiącuch, in integro wszystkie dawne diplomata od Nayiasnieyszych Predecessoroẃ Naszych Kr ólow Polskich dane konserwuiąc, ludzie z pacta conwenta, konstitucye y sansita seymowe in suo valore et robore trzymaiąc, y mieć chcąc nienaruszone prawa juxta antiquum usum et praxim duchownym y swieckym ludziom ritus Groci non uniti służące, tenze monaster pod titulemTroycy Przenayswiętszey Markowski y do niego należące Cerkwie, Protekcyi Nayswiętszey Panny, swiętego Mikolaja, S.Praxedy Męczeniczkj singulari gratia prosequendo circa immunitates et libertates, ritui onych servientes, rowno z innemi teyże samey Religii, przy wszelkich wolnosciach zachowuiemy y utwierdzamy. Wszystkie prerogatiwy y ceremonie: monaster, cierkwie, dobra ich, idque wiosky Słobodkę, Przysuczyno z attinencyą Usowem, Ochocienicze z attinencyą

Lesowikami, Folwark Szydłowszcsyzna, cum attinentia Ke ńkowo nazwane; grunta y jurisdyki w mie. ście Witebsku na uzhorju za Dzwiną y napodzwiniu będące, y Osoby in libero exercitio et securitate, ite prawa y dawne zwyczaie niosą, owo zgołu co kolwiek od Nayiasnieyszych Antecessorow Naszych y rzeczy pospolitey w pospolito ści y słusznosci iest nadano Religii ritus Greci non Uniti, to wszystko in singulari Monasterowi wyzwyrazonemu Markowskiemu, w woiewodstwie Witebskim situowanemu, quantum juris est et usus eorum habetur, nadaiemy y korroboruiemy, daiac moc wyzpomionionemu Jhumenowi y Successorom iego Teyże religii ritus Greci non Uniti będącym, te cerkwie wyż specificowane y monaster drzewem budować ym :órem m órowa :ć, z dobr, wiosek, gruntow y jurisdyk supra namienionych wszelkich profektow wynaydować, y bez żadney ni od kogo przeszkedy, wiecznemy czasy uzywac; co ady wszyztkim do wiadomosci przyisć mogło, Urzędom.

Nszym Ziemskim, Grodskim y innym przykazuiemy, aby te Nasze Prawa do akt przyimowane y z nich per extractum wydawane bylo. Do kt :órego ręką Naszą podpisawszy się pieczęc W(ielkiego) X(iest)wa Litewskiego przycisnąć roskazalismy. Dan w Grodnie roku Panskiego DCCLII miesiąca Pazdiernika X dnia, Panowania Naszego XIX Roku.

*Augustus Rex.*

Аіст 2-і

August III, z Bożey laskj Król Polski, Wielki Xiąze Litewski, Ruski, Pruskj, Mazowiecki, Zmudski, Kijowski, Wołynski, Podolski, Podlaski, Jnfalanski, Smoleński, Siewierski, Czernihowski, et cet. a dziedziezny Xiąze Saski y Elektor.

Oznaymuiemy teraznieyszym listem Przywileiem Naszym, wczem w obećy kazdemu z osobna wszelkey preeminencyi status et conditionis Duchownego y Swieckiego stanu, w koronie Polskiey y W/ielkie/ Xięstwie Litewskim teraz y na potym będącum ludziom, komu o tym wiedzieć należy y będzie nalezało. Doszła Nam guerimonia w Bogu wielebnego Oyca Hyacyntha Pelkinskiego, Jhumena monastera S.Troycy Markowskiego. Greci ritus non-Uniti, w woiewodstwie Witerskim situowanego, z p:zyłączeniem od calego Woiewodstwa temuż monasterowi, tysiącznego siedmsetnego pięćdziesiąt trzeciego roku danego testimonium: Jź pod czas wielkiego pożaru w miescie

Witepsku będącego w roku 1752. Augusta 2 dnia, wszystkie funditus dokumenta onemu nadane y służące pogorżały y in cineres się obruciły; za czym wyięte z xiąg, widimatim Fundusz od w Bogu zeszłych urodzonych Lwa Samuela Bogdanowicza y Zofiey Janowny Bielewiczowny Ogińskich, małżonkow, Ciwunow Trockich 1643 r. Augusta 4 d. dany, eodem anno et mense w Tribunale 7 d. przyznany, Testament w Bogu zeszlego Urodzonego Esta. ego Pipki 1651 r. Septembra 22 d. datowany, eodem anno Octobra w grodzie Witepskim antykowany. Prawo wieczyste od w Bogu zeszlego Urodzonego Symona Panolipskiego 1644 r. Jannuaryi 7 d. dane. eodem anno, mense et die w ziemstwie Witepskim przyznane, przed Nami y PP. Radami Naszemi producendo, suplikował, abysmy succurrendo securitati przerzeczonego Monasteru, audoritate Nostra Regia wyż exprimowane dokumenta, widimatim wyięte ratifikowali, et in omnibus clausulis et punctis stwierdzili. My tedy Król z PP. Radami Naszemi wyż specifikowane oglądawszy dokumenta, aby Christianitas w panstwach Naszych krzewiąc się za maiestat Nasz y całość Rzeczy Pospolitey Maiestat naywyzszego Bóga blagala, succurendo securitati wyż mianowanego Monasteru Markowskiego Greci ritus non-Uniti, dokumenta wyż wyrazone, onemu nadane y słuzące, iako realne nihilque juri publiko nec cuipiam derogantia, owszem piis... onemu necessaria, ratificamus, approbamus et in perpetuam memoriam za nienaruszone bydz wyznaiemy. Co aby wszystkim do wiadomości przyiść mogło. Urzędom Naszym, Ziemskim, Grodskim y innym przykazuiemy, aby te nasze Prawo do akt przyimowane y z nich per extractum wydane było. Do którego ręką Naszą podpisawszy się, pieczęc W.X. Litewskiego przycisnąć roskazaliśmy. Dan w Warszawie roku Panskiego DCCLVI miesiąca Grudnia XI dnia, Panowania Naszego XXIV roku.

*Augustus Rex.*

Гэты прывілей пацверджаны каралём Станіславам Аўгустам 15 студзеня 1765 г. ў Варшаве.

## Ліст 3-і

Божиею милостию Святейший Правительствующий всероссийский Синод. Объявляем сею Его Величества Императора Самодержца всероссийского грамотою всем всякого звания как Духовным, так и Светским, кому о нижеозначенном по должностям

или по случайной потребе ведать надлежит, что генваря 28 да мая 20 числе нынешнего 1723 г. нам, Святейшему Правительствующему Синоду, предложили обычно Свято Троицкого, иже в Витебске Марковского монастыря присланы от игумена с братиею иеромонахи Иларион и Серапион, письменно заручные прошения милостыни с полоцкими Богоявленского монастыря, как преж сего ■ обществе изживали без возбранения, также и ■ Смоленский уезд и в север на Украину, куда они напред сего ездили, но ныне обретающимся тамо инквизиторы непущаемы бывают, дать им о том милостыни прошении позволение; просяще же они о том, предложили нам данные им блаженныя памяти Святейшаго Московского Патриарха Адриана и Преосвященных Киевских Митрополитов жалованные грамоты, которыми они в вышеозначенных их требованиях были удовольствованы и снабжены, понеже живуще они (как ■ тех грамотах видно) между Римляны и Униты, велие терпят утеснение и пропитание себе ниоткуду не имлют. Чего ради и Мы, по Указу Его Величества всепресветлейшаго Державнейшаго Петра Великого, Отца Отечества, Императора и Самодержца всероссийскаго ■ пр. Синодально разсудивше и согласно приговоривше, оным Марковского монастыря монахом, единого с нами благочестия держащихся, с тамошними их купецкими людьми проезд до Риги, с отправлением священных потреб, по прежнему иметь дозволяем, которой да будет ими употребляем, по содержанию оных пожалованных грамот, прежним уставлением, с предоупомянутыми Богоявленского монастыря монахи в обществе благоговейно и безподозрительно. Рижские же духовных дел Управители во оном, что от нас дозволено, препятия и трудности тем монахом чинить да не дерзают, под опасением Синодального нашего наказания. Чего ради, во утвержение, им Марковским монахом, и в достоверность и грамота сия дана, которую мы своеручно подписуем, и Синодальною Его Императорского величества печатью заключаем. Дана в царствующем С.Петербурге, в Святейшем Правительствующем Синоде, лета Господня 1723, Июня 30 дня.

**Подписали: Феодосий, Архиепископ Новгородский, Архимандрит Александро-Невский, Феофан, Архиепископ Псковский, Фе-**

офилакт, Епископ Тверски', Гавриил, Архимандрит Троицы Сергиева монастыря, Иерофей, Архимандрит Новоспасский, иеромонах Феофан Кролик, Иоанн Протопоп Троицкий, Пётр Протопоп Петро-Павловский. Обер-Секретарь Тимофей Палхинъ.

V. ГРЫВЕНСКІ, альбо ГРЫЕЎСКІ[1], мужчынскі манастыр, упамінаецца ў чалабітнай цару Пятру I, што была падана 1718 г. студзеня 20, ад ігуменаў і ігуменняў усіх праваслаўных беларускіх і літоўскіх манастыроў, аб розных прыцясненнях. Хаця каралеўскім лістом, дадзеным у Варшаве 1720 г. 28 лістапада, абіцель гэтая, разам з іншымі, пакінута пры ранейшых правах і свабодзе веры праваслаўнай[2], аднак хуткім часам, верагодна, пры ўзмацненні ганенняў, абкручана ў унію. Аднак пасля пра яе нідзе больш не ўпамінаецца, нават месца, дзе яна была, цяпер у беларускім краі невядомае.

VI. КАСЦЮКОЎСКІ[3] дзявочы манастыр, упамінаецца ў ліку беларускіх манастыроў у чалабітнай цару Пятру I, пададзенай 1718 г. студзеня 20, ад імя ігуменаў і ігуменняў усіх праваслаўных абіцеляў, якія існуюць на Беларусі і Літве[4]. Верагодна, ён існаваў у цяперашнім Клімавіцкім павеце, у мястэчку Касцюковічы, якое саіць на правым беразе ракі Жадункі. І хаця лістом караля Аўгуста II, дадзеным 28 лістапада 1720 г., пакінуты пры ранейшых правах і свабодзе веры праваслаўнай, аднак пры ўзмацненні ганенняў на добрачасцівых, перавернуты ў унію[5]. Цяпер і слядоў гэтае абіцелі не відаць; але знаходзіцца ў Касцюковічах, магчыма на месцы былога манастыра, уніяцкая царква.

VII. ЛАЎРЭНЦІЕЎ[6] стараабрадчы мужчынскі манастыр знаходзіцца ў Магілёўскай губерні ў Бялыніцкім павеце, каля рэчкі Узы, за 12 вёрст ад мястэчка Гомеля і з усіх бакоў акружаны густым гаем, які, пераразаючыся вузкаю запрудаю, падыходзіць да самай манастырскай агарожы. Ён заснаваны, як сведчыць на-

---

1 Гл. Истор. Росс. Іерархіи. III. С.757 і 758.
2 Гл. Истор. объ Уніи. С. 165—168, 189—190.
3 Истор. Росс. Іерархіи. IV. С.788.
4 См. Истор. объ Уніи. С 166.
5 Гл. тамсама. С.191. Параўн. Словар. Щекатова III. С.790.
6 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерархіи не ўпамінаецца.

роднае паданне, падчас першай, так званай выганкі[1], якая была ў 1735 г. З дазволу князя Радзівіла, які валодаў на той час Гомельскім староствам, і для хавання Расійскіх выхадцаў, асабліва заражаных стараабрадчым пустасвяцтвам, з намерам памножыць лік сваіх падданых, дадзена ім для пабудовы абіцелі зямля. Старац Лаўрэн, заснавальнік гэтага манастыра, ад свайго імя даў яму найменне.

У ім цяпер дзве царквы: у імя Срэцення Гасподняга і ў імя Жываначальнай Тройцы, цёплая; абедзве драўляныя. Апрача гэтага ёсць капліца пры агульнай трапезнай. Для жытла брацii маецца 35 келляў. У іх манахаў лічыцца 60 чалавек. Абіцель гэтая ўтрымліваецца падаяннямі і ахвярамі і не валодае ніякімі пастаяннымі ўгоддзямі, акрамя сенажацяў. Настаяцелямі гэтага манастыра былі: 1) Старац **Лаўрэн**, які ад часу заснавання абіцелі, названай ад яго імя, кіраваў ёй да 1752 г. і тут памёр. 2) **Дасіфей**, памёр у 1759 г. 3) **Стэфан**, памёр у 1761 г. 4) **Сергій**, кіраваў да 1769 г. 5) **Феафілакт**, з калужскіх купцоў, кіраваў да 1798 г., у якім тут памёр. 6) **Інак Сіммяон**, пастрыжэнец гэтага манастыра, з 1798 г. знаходзіцца дасёння.

VIII. **ЛУКОМСКІ**[2] мужчынскі манастыр існаваў як праваслаўны ў павеце Аршанскім і быў прыпісаны да тамашняга Куцеінскага. Але ў 1715 г. князь Лукомскі, уварваўшыся ў абіцель са зброяй, ігумена Варлаама і манахаў біў без шкадавання. Дзеля здзеку загадаў ім галовы і бароды пагаліць і напаўжывых вы-

---

1 Пад словам "выганка" беларускія стараабрадцы разумеюць перасяленне на ранейшае месца жыцця тых з іх, якія ўцяклі з Расіі і хаваліся ў пагранічных мясцовасцях Польшчы. Гняздом гэтых выхадцаў была раскольніцкая слабада Ветка, акрамя якой мелі яны яшчэ 14 слабод у Бялыніцкім павеце, ды асобных 17 у губерні Чарнігаўскай, пад найменнем старадубскі . Калі яны не паслухаліся манаршага закліку, які абяцаў усеагульнае дараванне за ўцёкі і злачынствы, то ў 1735 г. загадана было палкоўніку Сыціну вярнуць уцекачоў на айчыну пад стражай. У гэтым выпадку знойдзена іх у Ветцы і па іншых месцах 40 тысяч душ абодвух палоў. Гэта — першая выганка. Такая мера паўторана была потым у 1763 г., у якім наступны генерал Як.Васіл.Маслаў таксама паспеў знайсці ў слабодах расійскіх бадзяг да 20 тысяч, якія і адпраўлены ў Сібір на пасяленне. І гэта называецца другой выганкай.

2 Гл. Истор. Росс. Іерар., VI. С.1022.

цягнуць за манастырскую агароджу. Ад пабояў ігумен скора сканаў. Пасля гэтага князь Лукомскі пасяліў у гэтым манастыры уніятаў і аддаў ім у карыстанне ўвесь манастырскі рыштунак, кнігі, рукапісы і маёмасць[1]. Хаця аб такім прымусе ўпомнена было, між іншым, у чалабітнай цару Пятру І, якую падалі 20 студзеня 1718 г. ад імя ўсіх ігуменаў і ігуменняў, што ёсць на Беларусі і ў Літве праваслаўных манастыроў, і хаця Гасудар хадайнічаў за прыгнечаных адзінаверцаў, у грамаце сваёй да польскага караля Аўгуста ІІ (9 сакавіка) растлумачыў кранаючымі выразамі, што "прымусы ў веры ёсць яўнае парушэнне як пастаноўленай паміж абедзвюма дзяржавамі дамовы аб вечным міры, так і народнага права", аднак усе намаганні засталіся марныя. Нават на грамату Гасудараву не было адказу. Таму пры ўзмацненні ганенняў і Лукомская абіцель асталася ў руках ганіцеляў праваслаўя.

ІХ. МАЗАЛОЎСКІ[2] ПРААБРАЖЭНСКІ заштатны дзявочы манастыр магілёўскай епархіі, знаходзіцца на адлегласці ад павятовага горада Мсціслаўля за 10 вёрст, у вёсцы Мазалоўшчына, ад якой і мае назву. Пабудаваны на ўзвышшы паблізу рэчкі Напоты, што працякае каля самага манастыра. Ён заснаваны ў 1665 г. дачкой мсціслаўскага стольніка Мікалая Сухадольскага Марыянай, якая пабудавала ў абіцелі галоўны храм у імя Праабражэння Гасподня і адпісала на ўтрыманне інакінь тры вёскі: Мазалоўшчыну, Балакараўшчыну і Малахаву (Зубаўшчыну) з сялянамі і зямлёй, таксама млын на рэчцы Напоце. Уклад гэты зацверджаны ў 1678г. на польскім сойме. Аднак пісьмовых доказаў на валоданне гэтымі ўгоддзямі, таксама як і ніякіх іншых актаў, манастыр не мае цяпер, бо ён у 1727 г. альбо 1737 г. быў забраны уніятамі базыльянскага ордэна, якія выгналі ігуменню і манахіняў, самі жылі ў ім доўгі час і многія кнігі і рукапісы знішчылі. Хаця, калі заключаны быў у Варшаве 13 лютага 1768 г. трактат аб вечнай дружбе паміж Расійскай і Польскай дзяржавамі, асобным сепаратным актам, у ліку прывілеяў для праваслаўных пастаноўлена было: "Епіскапа Беларускага захаваць вечна пры ўсходняй веры з усімі цэрквамі, манастырамі і іх фундацыямі", а таксама "ўсе

---

1 Гл. Истор. объ Уніи. С. 167, 424.
2 Гл. Истор. Росс. Іерар., V. С.37 і 38.

дабрачынныя цэрквы і манастыры, што няправільна адабраныя, вярнуць з усёй іх маёмасцю"[1]. На аснове гэтага епіскап Магілёўскі Георгі Каніскі судовым парадкам прымусіў уніятаў пакінуць гэты манастыр, і нарэшце ў 1778 г., асвяціўшы гэты храм, такім чынам аднавіў праваслаўную дзявочую абіцель. Цяпер знаходзяцца ў ёй наступныя пабудовы: 1) галоўная царква ў імя Праабражэння Гасподня, драўляная, на каменным падмурку, узноўленая ў 1799 г. статс-дамай графіняй Ан.Радз.Чарнышовай, якая часта наведвае гэты манастыр і дапамагае яму ў утрыманні; 2) другая царква ў імя Захарыя і Елізаветы, цёплая, размяшчаецца ў адным злучэнні з келлямі; 3) келлі ў колькасці 12, пабудаваныя ў трох злучэннях, таксама на каменным падмурку. Манастыр абнесены кругом земляным валам.

Пры гэтай абіцелі ніякіх штогадовых кірмашоў не адбываецца, аднак нярэдка сыходзяцца ў яе багамольцы да цудатворнага абраз Багародзіцы, які называюць Балыкінскім. Варта памяці, што гэты каштоўны абраз, пры ўступленні ворагаў на Беларусь у незабыўным 1812 г., быў вывезены з манастыра і да выгнання непрыяцеля з гэтага краю знаходзіўся ў Цверы, па дабрачасцівым жаданні нябожчыцы вялікай княгіні Кацярыны Паўлаўны, якая з асаблівае веры да Багародзіцы брала з сабой гэты абраз і ў час падарожжа свайго па Волзе.

Прыпісаных да гэтае абіцелі душ па вёсках, ахвяраваных заснавальніцай Марыянай Сухадольскай, лічыцца 67 па апошняй рэвізіі. Зямлі пад манастыром і сядзібамі, таксама ворнай і сенакоснай і пад лесам лічыцца 53 валокі (па Расійскай мерцы больш тысячы дзесяцін). Звыш гэтага, ён мае ўласны млын, на рэчцы Напоце з двума камянямі. Пра настаяцельніц, якія былі ў гэтым манастыры да адлучэння яго да уніі, нічога не вядома з тае прычыны, што ў той час многія кнігі і рукапісы манастырскія знішчаны, як вышэй было сказана. Упамінаецца ў судовым акце 1687 г.

---

1 Пункты 8 і 14. Насуперак гэтай пастанове, дасёння знаходзіцца ў вёсцы Сухоні, у двух вярстах ад Мазалоўскага манастыра уніяцкая царква, якая, як відаць з Истории объ Уніи (стар. 303), у 1743 г. была яшчэ сярод праваслаўных, дастаяннем Беларускага епіскапа Іераніма Валчанскага; аднак праз два ці тры гады панамі Баяльскім, Шамоўскім і Івіцкім пераведзена ў унію. Гл. Ист. объ Уніи. С. 440.

ігумення Ксенафонція Касілоўна. Пасля пераўтварэння абіцелі ў праваслаўную, кіравала ёй з 1778 па 1803 г. ігумення Тавіфа, якая тут і памерла. Пераемніца яе Варвара, прыняла манаства ў Кіева-Уздвіжанскім фляроўскім манастыры і была спярша ігуменняй у Чарнігаўскай Казелецкай абіцелі, і ў гэтую пераведзена ў 1809 г. і знаходзіцца дасёння.

X. **МАКАРЫЕЎ**[1] стараабрадчы, папоўскага толку, мужчынскі манастыр знаходзіцца ў Магілёўскай губерні ў Бялыніцкім павеце, ад мястэчка Гомеля ў 20 вёрстах, каля рэчкі Драгіціўлі. Ён заснаваны, як сведчыць народнае паданне, падчас першай ці другой выганкі[2] і доўгі час называўся Араф'еўскай пустынню, ад імя нейкага адшэльніка, які першапачаткова тут пасяліўся. Цяпер у ім дзве царквы: у імя Боскай Маці Уладзімірскай і ў імя Свяціцеля Мікалая; абедзве драўляныя. Для пражывання брацііі збудаваны 34 келлі, у іх манахаў лічыцца 52 чалавекі, для якіх агульная трапезная. Абіцель гэтая ўтрымліваецца падаяннямі і ўкладамі, карыстаецца таксама значнай колькасцю ворнай зямлі і сенажацяў.

XI. **МІЁРСКІ**[3] праваслаўны мужчынскі манастыр існаваў блізка Ліфляндыі і Браслаўскай муйшэ, альбо маёнтку. Ён пабудаваны ў 1633 г. земскім браслаўскім суддзёй Севасцянам Міёрскім[4], ад якога і атрымаў назву. Абіцель гэтая была прыпісной да Аршанскага Куцеінскага манастыра. Аднак у 1695 г. езуіты, з дапамогай суседніх шляхцічаў зброяй прагналі з яго дабрачынных манахаў і, пасяліўшы уніяцкіх, такім прымусовым спосабам авалодалі ўсёй манастырскай маёмасцю. Хаця пасля чалабітнай, што была пададзена цару Пятру I 20 студзеня 1718 г. ад імя ігуменаў і ігуменняў усіх праваслаўных абіцеляў, што ёсць на Беларусі і Літве, аб розных уцісках, лістом караля Аўгуста II, дадзеным у Варшаве 28 лістапада 1720 г., загадана было гэты манастыр як прыпісаны да Куцеінскага праваслаўнага [манастыра], разам з іншымі пакінуць

---

1 Пра гэты манатыр у Истор. Росс. Іерар. не ўпамінаецца.

2 Пра выганкі, вядомыя на Беларусі, гл. заўвагу пры апісанні Лаўрэнціевага манастыра.

3 Гл. Истор.Росс.Іерархіи, VI. С.1025.

4 Гл. Истор.объ Уніи. С.116 і 182.

пры мінулых правах і свабодзе веры[1]. Аднак аб здзяйсненні яго нідзе не ўпамінаецца.

XII. **МАГІЛЁЎСКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ**[2] мужчынскі заштатны манастыр знаходзіцца ў горадзе Магілёве, на галоўнай вуліцы, якая называецца Шклоўскай. Да ўтварэння агульнажыцельнай абіцелі, была тут толькі адна царква ў імя Богаяўлення Гасподня і пры ёй — хрысціянская школа, заснаваная паводле граматы, што даў кароль Стэфан Баторый 28 студзеня 1578 г. разам з дараваннем гораду Магілёву магдэбургскага права[3]. Пазнейшым часам магілёўскія грамадзяне заснавалі пры гэтым храме царкоўнае брацтва, члены якога абавязаны былі ўносіць у брацкую, альбо грамадскую, капілку пасільныя ўклады на багаслужбу, дапамогу бедным, няволнікам, хворым і на пахаванне бедных (убогіх). Разам з тым, яны прынялі на сябе ўтрыманне школы і настаўнікаў, служак царквы і прапаведнікаў слова Божага. Такая дабрачынная ўстанова падтрымана была лістом караля Жыгімонта III 5 снежня 1602 г.[4] і паводле таго самага прывілея знаходзілася ў падпарадкаванні кіеўскага мітрапаліта; вызвалена была ад падсуднасці свецкай уладзе, а дом яе — ад усялякіх грамадскіх абавязацельстваў. Заснаванне манастыра пачалося ў 1620 г. на зямлі, якую перад гэтым ахвяраваў князь Іван Багданавіч Агінскі, сын троцкага падкаморага, коштам тутэйшага ўпіснога брацтва[5]. Іерусалімскі патрыярх Феафан, які вяртаўся з Масквы ў Палесціну праз Беларусь, сваёй граматай (мая 9, 1620 г.) блаславіў арганізаваць гэтую абіцель і зацвердзіў існаванне вучылішчнага брацтва. Таму манастыр і дасёння называецца вучылішчным і брацкім.

Кароль Уладзіслаў IV на каранацыйным сойме прысягнуў супакоіць у веравызначэнні падданых сваіх грэчаскага вызнання

---

1 Гл. тамсама. С. 190 і 191.
2 Гл. Истор.Росс.Іерарх., III. С. 440 і 441.
3 Гл. Белорусский архив древних грамот. Ч.1, №12.
4 Гэтая цікавая грамата змешчана ў канцы апісання гэтага манастыра.
5 Яно называлася іначай крыжаносным. У манастыры і цяпер захоўваецца рукапісная кніга Імёнаслоў, заведзеная ў 1664 г., у якую запісваліся члены гэтага брацтва. Сярод іх сустракаюцца імёны славутых асоб, напр., Багдана Стэткевіча, заснавальніка Куцеінскага манастыра, Хадкевіча, Паскевіча, князёў Саламярыцкага, Агінскага і многіх іншых.

(дысідэнтаў, неуніятаў) і захаваць іх пры непарушнасці старажытных правоў і пераваг[1]. Сапраўды, у 1633 г. 19 сакавіка, ён лістом сваім не толькі зацвердзіў заснаванне пры гэтым манастыры праваслаўнага вучылішча, але дазволіў мець пры ім друкарню і друкаваць кнігі як падручныя для дзяцей, так і для ўсяго хрысціянскага народа на рускай, грэчаскай, лацінскай і польскай мовах[2]. Гэтая пастанова прывілеямі пазнейшых польскіх каралёў была пацверджана.

Па старых выданнях мясцовай друкарні відаць, што яна існавала больш стагоддзя, менавіта да 1736 г. Амаль усе выдадзеныя тут кнігі лічацца цяпер за рэдкія[3]. Яна адоўлена была праасвяшчэнным архіепіскапам Георгіем Каніскім у 1758 г. пры архірэйскім доме[4], на што потым, у 1768 г. папрасіў ён у караля Станіслава Аўгуста новы пацвярджальны прывілей[5], хаця пра час знішчэння яе дакладна невядома.

У манастыры гэтым настаяцельства спачатку зацверджана было, па пажаданню брацтва, архімандрыцкае, як відаць з граматы дадзенай ад кіеўскага мітрапаліта і экзарха Пятра Магілы 1634 г. 9 лістапада. Аднак найбольш пастаянна да 1798 г. кіравалі ім ігумены. У 1798 г. 11 кастрычніка заснавана тут сапраўдная

---

1 Гл. Собран. Конституц. III. С. 763, 778 і наступн.

2 Вось дакладна словы прывілея: (дазваляем) "szkoly dla nauk Ruskiego, Greckiego, Łatinskiego y Polskiego ięzyka drzewem y murem budować, ludzi na to godnych, duchownych y swieckich tak do nauki narodu Chrześciańskiego y dziatek malych, jako y do wszelkich posług y ozdobnego bractwa y nabozeństwa swego chować... drukarnią przy tym w Monasterzu mieć, y wszelaki xięzki dla naukj dziatek y wszystkiego narodu Chrześcianskiego pismem Ruskim, Greckim, Łacinskim y Polskim drukować" і інш. Гэты ліст у спісе, захоўваецца ў Архірэйскім архіве пад № 86. Між іншым, ёсць доказы, што друкарня пры брацкім манастыры існавала і да гэтага прывілея. Т.Сопікаў упамінае пра Службоўнік, надрукаваны ў Магілёве ў 1616 г., таксама аб Евангеллі вучыцельным, іераманаха Кірылы Транквіліёна, 1619 у арк. Гл. яго Оп. Росс. Библиогр. 1, С. 92 і 229.

3 Апошнімі выданнямі гэтай друкарні, па бегу часу, трэба лічыць: 1) Іермалой, з фігурамі, 1700 г. ў 12 д.арк.; 2) Псалтыр 1704 г. ў 4 д.арк.; 3) Прывільнік, 1736 г. ў 4 (д.арк.). З друкароў упамінаецца толькі ў пачатку XVIII ст. Максім Вашчанка.

4 Ён надрукаваў у ёй Сабранне павучальных сваіх словаў, 1761 г. у 4 д.арк. Кніга гэта лічыцца рэдкай. Гл. Опыт. Росс. Библиографіи 1, 239 і інш.

5 Гл. Белорусск. Архив древ. грамотъ. Ч.I, №57.

архімандрыя, без штату, ступенню супраць манастыроў 3-га класа. Прычым загадана было архімандрыту насіць мантыю без скрыжаляў, а 2 кастрычніка 1805 г. дазволена яму карыстацца кашлотавай мантыяй з зялёнымі скрыжалямі пры ўмове, што будзе ён рэктарам семінарыі. Такой перавагай карыстаецца зараз [і] настаяцель Аршанскага манастыра.

Будынкі ў манастыры знаходзяцца наступныя: 1) Галоўная царква мураваная, з чатырма прастоламі, з якіх першы, альбо вялікі, у імя Богаяўлення Гасподня; другі на правым баку яго ў імя Сашэсця Святога Духа; трэці на левым баку ў імя Раства Багародзіцы; а чацвёрты ў прыдзеле, на левым таксама баку ў імя прападобнага Феадосія. У ёй іканастас старажытнай разьбы, вызалачаны, а мясцовыя абразы ў сярэбраным абкладзе з пазалотай у прыстойных месцах. У ліку абразоў знаходзіцца цудатворны абраз Багародзіцы ў багатым абкладзе, упрыгожаны перламі і каштоўнымі камянямі, з якім штогод у свята Прапалавення робіцца крэсны ход праз частку горада, што ўключае ў сябе каралеўскую крэпасць. 2) Цёплая царква ў імя ўсіх Святых, таксама мураваная, злучаная з брацкімі келлямі. 3) Царква мураваная ў імя Іаана Багаслова, насупраць настаяцельскіх келляў; пасля пажару, які быў у 1810 г., застаецца неадноўленай. 4) Званіца мураваная, мае ў вышыню 25 сажняў, на ёй сярод званоў адзін вагой 320 пудоў. 5) Настаяцельскія келлі драўляныя, брацкія, злучаныя з цёплай царквой, мураваныя. Манастыр з паўднёва-заходняга боку абнесены мураванай сцяной, усярэдзіне якой зроблены лаўкі купцоў.

Ён валодае зямлёй ворнай з ляснымі дачамі лікам 17 1/2 удзелу, якая знаходзіцца ва ўрочышчы Дубянцы, за 5 вёрст ад горада Магілёва. Паводле генеральнага межавання ў 1785 г. яна ўступлена манастыру па замене. Звыш таго жылыя і агародныя месцы (пляцы) рознай меры, таксама сенакосныя палосы (моргі) пры рэчцы Дняпро, колькасцю 40. Усе ўгоддзі звычайна здаюцца ў арэнду жыхарам. Гэтыя землі большай часткай адпісаны манастыру праваслаўнымі членамі царкоўнага брацтва, а некаторыя дзялкі набыты на яго карысць, што паводле магдэбургскага права як судовымі актамі, так і каралеўскімі лістамі зацверджаны.

Настаяцелі (да фактычнага заснавання архімандрыі — ігумены), што былі ў гэтым манастыры, увогуле невядомыя. У старых актах упамінаецца толькі ігумен Гедэон Савіцкі, што быў у 1686 г. і ў якасці члена кансісторыі падпісаўся на зацвярджальным прывілеі, які прадастаўляў манахам віцебскім і полацкім права ездзіць па чарзе ў Рыгу для адпраўлення хрысціянскіх трэб і збору міласціны[1]. З часу заснавання архімандрыі, архімандрытамі былі: 1) Іоасаф, з 1798 да 1815 г.; 2) Венедзікт, будучы настаяцелем Аршанскага манастыра, правіў ім да 1821 г.; 3) Феакціст, іераманах, настаяцель Шклоўскага манастыра, быў таксама і тут упраўляючым да 1823 г.; 4) Сазонт, ордэна Св. Ганны 2-й ступені кавалер, быў протаіерэем і благачынным ў С.-Пецярбургскім драгунскім палку; пасвечаны ў архімандрыты 22 ліпеня 1823 г. і прызначаны благачынным манастыроў 7 снежня таго ж года; знаходзіцца дасёння.

З 1798 г. да гэтага манастыра пад адно кіраванне прыпісаны Буйніцкі [манастыр], які знаходзіцца ад Магілёва ў 5 вёрстах[2]. Тут змяшчаецца, для цікаўных, спіс ліста караля Жыгімонта III, аб заснаванні пры манастыры брацтва.

Жикгимонт трети, Божою милостю Король Полски, велики Князь Литовски, Руски, Пруски, Жомойтъски, Мазовецки, Инфлянтъски, тоюжъ Божою милостю Король Швецки, Кготски, Вандалски, и великое Княжа Финъляндское.

Озна[й]муем сим листом нашым всим в обец и кождому зособно, кому бы ведати належало, теперешним и напотом будучым людем. Дали Нам справу мещане места нашого Могилевъского, иж они, чинечы порадок в том месте, подаючы людем дорогу ку охотнейшому справованю службы Божые, намовили сами межи собою братство при церкви Руской, заложеня Святого Въеханя Господня, в месте Могилевъском в ринку збудованой, и того брацтва через них намовленого артыкулы списавъши, били нам чолом, абы есмо тое Постановене их на вечные часы листом Нашим потвердили. А так Мы, Государь, прозбу их слушную, и хотечы

1 Гл. Белор. Архив древ. грамотъ. Ч. I, № 45.

2 У гэтым апісанні манастыры размешчаны ў алфавітным парадку, з пазначэннем месцаў, дзе кожны з іх змешчаны ў мінулым выданні Ист. Росс. Іерар.

порадок в том месте Могилевъском, прикладом и иных мест наших учынити, и артыкулы певные через них самых намовленые и списаные, тому Брацтву надать, которые в сесь листъ привилей наш уписуючы, так се в собе маютъ: "Ермолай Алексеевич, Федор Федорович, Гапон а Кондрат Максимовичы, Афанас Яковлевич, Авхим Романович, Афанас а Федор Свиридовичи, Иван Иванович, Мартин а Иван Авхимович, Васили а Степан Леоновичи, Богдан Игнатович, Авхим Хоминич, мѣщане места Государского Могилевъского, имены вышъ помененые и не помененые, чинечы порадок ■ Брацтвѣ у церкви заложеня Господа Бога нашего Иисуса Христа въеханя, маючы на бачени повинностъ нашу Христианскую, и беручы приклад з инших мест ку оздобе помноженя хвалы Божой и порадков слушных захованя, собравшисе межи собою вси згодне постановили есмо Брацтво наше в церкви нашой, заложеня въеханя Господня, на вси потомные часы таким способом. Напервей иж хтобы колвек в тое Брацтво наше Святолюбивое церковное вписатисе ■ братом уписным зостати хотел, тот мает датъ уписного до скринки брацкое то, што сам похочет, водлуг воли ■ преможеня своего, на ялмужну; так же кождого року складка одна в рок, а меновите в недѣлю четвертую по Рождествѣ Христовом, для вспоможеня брацкого, водлуг воли и преможеня нашого быти маетъ, и то, што при скончаню жывота своего, сам з доброе воли своей, на брацтво церковное надаст и отпишет: и с тых всих приходов служба Божия ранняя чрез Попа и Дъякона нашого Брацкого, у олтара брацкого, ва каждым тыдъню (седмиц) четвирикрот, а меновите в неделю, в середу, в пятницу ■ в суботу отправована быти мает, и особливе в кождую пятницу, по службе Божой ранней, свим собором до тое дериви, отправовати богомолны молебен, и за Господара Короля, Его милостъ, нашого милостиваго Пана, за Панов Рад, за Рыцерство и за все Християнство Пана Бога проситъ повинны будем; и за то Попом, Дъяконом и слугам церковным з скринки брацкое с приходов помененым, водлуг порадку брацкого, заплатити маем, и на кождое Свято урочистое, где в которой церкви Праздник будет, також на богомолене по шести грошей давано будет. Черницом так же и церковником в кождом тыднѣ, водлуг преможеня брацкого, давати маем; и по

шпиталех, и по турмах вязнем и убозству по улицам два крот у рок ялмужну давати, з доброй воли, будем, а меновите о Божом Рождеству, и о Великодню. Если бы теж, который колвек брат уписный, з допущеня Божиего, з пригоды на маетность упал; тогды такому, з повинности Християнской, з скринки брацкое, ведле преложеня брацкого, подпоможене чинити будем, так же в хоробе брату уписному убогому, яко и при труности здоровья, так и выживене зась тяжкости его, ведле преможеня брацкого, дадим и вшелякими потребами опатровати будем. А кгды бы теж на котораго брата уписного убогаго Пан Бог смерть допустити рачыл, а не было бы маетности его, чым тело поховать, тогда вся братья Брацтва церковного, накладом скринки брацкое, чынити будем ведлуг звычаю Християнскаго, яко добрая воля и побожность их будет. В школе теж брацкой дети братьи уписное и убогих сирот языка и писма Словенского, Руского, Греческого, Латинского и Полского, накладом брацким дармо учити повинны, ведлуг застоновеня нашого брацкого, так же и людей, в писмѣ учоных, особ Духовных и Свецких, для науки школное, до проповеди Слова Божого и до науки детей доскональых, в справе и звыклости своей заховати маем. Братья Брацтва церковного уписные вси, водлуг шлюбу и рукоданя, повинностем брацким во всем досыто чынити, и схожок, водлуг пора[д]ку брацкого, пилны быти маем. А если бы хто якогож колвек стану з братьи уписное схожок неделных, до порады благочестія и красолепія церковнаго, пилен быти и повинностем брацким досыть чынити не хотел, таковый за выступок и за непослушенство свое вину, в Постановеню нашом брацком в книжках описанную, поносити без всякого окроженя мает; а если бы и теж кому кривда якая колвек из брацтва церковнаго в речах церковных и в справах наших брацких видела, тогды той о тое нигде инде таковаго кождого из нас позывати не маеть, одно до Вряду нашого мейского Могилевского. До пожытков теж наших церковных брацких нихто з Духовногои Свецкого стану ни якого вступу мети не мает.

А так Мы, Государь, за чолобитем тых мещан нашых Могилевски, тое Брацтво церковное, заложене въехане Господня в Могилеве з тыми артыкулами, в том постановеню их описанными,

сим листом нашим во всем ствержаем. Мают мещане наши Могилевские того брацтва уживати на вся тамошные часы, згажаючы во всем ведлуг Вѣры и Закону Руского, будучы под послушенством Митрополита и преложеных Духовных, теперь и на потом будучых. А особливе дом тому брацтву належачы, на плацу церковным при той же церкви збудованы, со всими кгрунтами, от всяких повинностей и податков, так на Нас Государа, як и на место Могилевское...колвек стану Духовного и Свецкого в том дому стояти, и вряд ни которы господы в ним записовати никому не мает, кгдыж в нему учынки побожные братья того брацтва отправовати будут. А до того, если бы и в речах церковных в помененном брацтве кому колвек кривда якая стала, тогды старшие и справцы рочные брацтва того померковати то в дому брацтком мают, чому если бы досыт учынити не могли, албо сторона з розсудку их кривду собе быти разумела, тогды мают такую справу до преложоных Старшых своих отослати, которыи розсужовати мают, незабегаючы в тым справ Свецких, и ни якого умнейшеня владзы Вряду мескому не чинечы. И на то дали есмо Брацтву церковному, заложеня въеханя Господня, в Могилеве сесь наш лист с подписом руки нашое Государское, до которого и печать нашу великого Княжства Литовского привесити есмо велели. Писан у Кракове, лета Божого нароженя тысяча шестьсот второго, месеца Декабря пятого дня.

XIII. МАГІЛЁЎСКІ брацкі дзявочы[1] манастыр, праваслаўны, знаходзіцца ў горадзе Магілёве, паблізу мужчынскай абіцелі гэткага імя. Пра пачатак яго нічога невядома; аднак з граматы кіеўскага мітрапаліта і экзарха Пятра Магілы, што была дадзена 2 ліпеня 1644 г., відаць, што ён існуе ў першай палове XVII ст., і, верагодна, утвораны ў адзін час з мужчынскім Брацкім манастыром. Паводле гэтай граматы, дазволена было тутэйшым інакіням сукаць свечы, пячы прасфоры і прадаваць іх пры мужчынскім манастыры, як сказана ў арыгінале, "без вшелякого никому датъку, и абы того доходу отъ того монастыра паненского нихто не от-

[1] Аб гэтым манастыры ў Ист. Росс. Іерархіи не ўпамінаецца.

далялъ, и ни якой неслушности задавати не смелъ"[1]. Ён валодаў некалькімі валокамі зямлі ворнай і пад ляснымі дачамі. Лістом караля Аўгуста II, дадзеным у Варшаве 28 лістапада 1720 г., разам з усімі іншымі манастырамі беларускімі, пакінуты пры свабодзе праваслаўнай веры і маёмасці[2], аднак у 1796 г. пры епіскапе Афанасіі Валькоўскім ён ліквідаваны. У выніку гэтага рухомая маёмасць яго аддадзена на Архірэйскі дом, а зямля, таксама драўляныя будынкі і мураваная трапезная, па сіле Указаў Свяцейшага Сінода 10 лютага 1799 г., 31 чэрвеня 1815 г. і 8 кастрычніка 1823 г. адышлі на карысць казённых выхаванцаў семінарыі.

XIV. **МАГІЛЁЎСКІ МІКАЛАЕЎСКІ**[3] дзявочы праваслаўны манастыр знаходзіўся ў прадмесці горада Магілёва, паблізу цяперашняй прыходскай царквы Св. Мікалая. Пра першапачатковае заснаванне яго нічога невядома, аднак ёсць сведчанні, што ён існаваў ужо ў пачатку XVII ст. У Гісторыі аб уніі[4] ўпамінаецца аб прывілеі (1636), які кароль Уладзіслаў IV даў гэтаму манастыру і якім прадастаўлена было права епіскапу Беларускаму судзіць старыц самому, па яго епіскапскай пасадзе. Лістом караля Аўгуста II, дадзеным 28 лістапада 1720 г., абіцель гэтая, як і ўсе іншыя беларускія манастыры, пакінута пры свабодзе праваслаўнай веры і маёмасці[5] сваёй. Хаця ні пра якую маёмасць, ні пра час ліквідавання дастатковых звестак не знойдзена.

XV. **МАГІЛЁЎСКІ ПРААБРАЖЭНСКІ**, альбо Спаскі, манастыр[6], які называецца Архірэйскі кафедральны і проста Архірэйскі дом, з прычыны знаходжання ў ім архірэя. Стаіць усярэдзіне горада,

1 Аўтэнтычная грамата мітрапаліта была ў 1700 г. сакавіка 26 упісана ў кнігу Спраў мескіх Магілёўскіх права магдэбургскага; выпіс з яе, за подпісам войта, і зараз захоўваецца ў архіве Архірэйскага дома.

2 Гл. Истор. объ Уніи. Стар. 191. Гэты манастыр называецца Брацкі.

3 Пра гэты манастыр у Гіст. Росс. Іерархіи не ўпамінаецца.

4 Гл. стар. 248. Таксама заўвага, што гэты прывілей Уладзіслава ў 1724 г. адабраны падскарбіем (імя яго не названа) і, што, насуперак яму і насуперак канстытуцыі 1659 г., Беларускага епіскапа са старцамі (Мікалаеўскага манастыра) судзілі мірскія суддзі. Па часе гэта адносіцца да Сільвестра II, князя Чатвярцінскага. Гл. Кат. Беларус. архірэяў.

5 Гл. Истор. объ Уніи. С. 191.

6 Гэты манастыр у Истор. Росс. Іерархіи прапушчаны.

на ўсходнім канцы былой каралеўскай крэпасці, бліз вала. Ён быў драўляны, першапачаткова пабудаваны тутэйшымі праваслаўнымі грамадзянамі, і з часоў невядомых, пакрытых старажытнасцю, знаходзіўся пад кіраваннем полацкіх праваслаўных архірэяў[1] да часу зацвярджэння епіскапскай кафедры ў Магілёве. А з гэтага часу, паводле ліста караля Уладзіслава IV, дадзенага 1 лістапада 1632 г., названы кафедрай і прызначаны для пражывання епіскапа магілёўскага, якому тады ж і штогадова паложана жалаванне 2 тысячы польскіх злотых[2], што пазней пацвярджалі іншыя каралі; хаця, між іншым, замест грашовага акладу, паводле ліста таго ж Уладзіслава караля 6 верасня 1646 г., прадастаўлены епіскапу Сільвестру Касовічу і яго пераемнікам у даход гандлёвыя, памерныя і раговыя падаткі ў Магілёве[3].

Манастыр гэты перацярпеў моцны і доўгатэрміновы ўціск ад ворагаў дабрачэсця. Асабліва езуіты, каварная зброя папскага ўладалюбства, усялякімі спосабамі імкнуліся адабраць яго для свайго ордэна, каб такім чынам знішчыць і епіскапію Беларускую, якая адна толькі заставалася праваслаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. Яны схілялі да гэтага літоўскага гетмана Сапегу і каралеўскіх сенатараў. У пераліку маёмасці епіскапскай адабралі лепшыя сядзібы і без суда прылучылі іх да маёнткаў ксяндзоў кармелітаў[4]; потым праз некалькі гадоў і перавоз на рацэ Дняпро, які з часоў Казіміра і Жыгімонта I належаў да правоў гэтага манастыра, таксама прымусова адабралі[5]. А славалюбівы папа Бенедыкт XIV, падбухтораны полацкім уніяцкім мітрапалітам Фларыянам Грабніцкім, жадаючы хутчэй і зусім знішчыць праваслаўную веру на Беларусі, не пасаромеўся пераконваць нясціплай булай кароннага польскага канцлера Малахоўскага, каб

---

1 Гл. ніжэй ліст кар. Жыгімонта 1588, 14 чэрвеня. Пергаментны арыгінал яго захоўваецца ў архіве Магілёўскай Дух. кансісторыі.

2 Гл. Истор. объ Уніи. С. 98. У гэтым лісце з магілёўскіх цэркваў называюцца толькі 4 праваслаўныя: Успенская, Троіцкая, Уваскрэсенская і Узнясенская; яны існуюць і зараз. Дзве тысячы злотых складаюць 2700 цяперашніх рублёў.

3 Гл. ніжэй ліст Уладзіслава.

4 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 184, пад 1719 г., дзе сказана, што ў гэтым гвалце дапамагаў ксяндзам мсціслаўскі падкаморы Валовіч.

5 Гл. Истор. объ Уніи, стер. 248. Гэта здарылася ў 1724 г.

магілёўскую епархію далучыць да полацкай, дзе ўжо панавала унія. І з таго, што беларуская царква на той час была "ўдавой", без пастыра[1], то гэты папа раіў канцлеру і міністрам каралеўскім аказаць дапамогу і рэўнасць, каб новы схізматык-епіскап на магілёўскі прастол узведзены і пастаўлены не быў і каб усякага схізматычнага епіскапа як насільніка выгнаць[2]. Нягледзячы на такія зладушныя вышукі, кароль Аўгуст III лістом сваім, дадзеным 23 мая 1755 г. епіскапу Георгію Каніскаму, яшчэ да пасвячэння яго ў свяціцельскі сан, пацвердзіў не толькі ўсе ранейшыя правы, вольнасці ў веравызнанні і ўлады ў духоўным правакіраванні, але і недатыкальнасць маёмасці і даходаў, здаўна прадастаўленых Архірэйскай кафедры.

Уладанні, што прадастаўлены на карысць кафедры епіскапа Беларускага, былі і дасёння ёсць наступныя: 1) Перавозы на рацэ Дняпро ў Магілёве, Любужы і Барадзічах. Яны пажалаваны яшчэ пры дзяржаве Казіміра і Жыгімонта І. Кароль Стэфан Баторый лістом 23 сакавіка 1579 г. пацвердзіў права на іх, а потым і Уладзіслаў IV у 1645 г.[3] 2) Вёскі Барсукі, Цвырнаў, Тарасавічы і Пячорская Мыза першапачаткова, г. зн. да заснавання яшчэ ў Магілёве епіскапіі, належалі Кіева-Пячэрскай лаўры паводле адказнога ліста князя Аляксея Лахціновіча, яго маці і іншых укладчыкаў. Аднак у 1644 г. магілёўскі епіскап Іосіф Гарбацкі, са згоды кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы, набыў гэтыя вёскі для сваёй кафедры, уступіўшы ўзамен лаўры маёнтак у Старадубскай акрузе, які называўся Папова Гара[4]. Апрача гэтага яна валодае ў Мсціслаўскім павеце вёскамі Смолы, Леснікі, Калатовіна і Вяркеі; у Чавускім павеце — вёскай Заполле, Халмянскай Мызай бліз

---

1 Епіскап Іеранім Валчанскі памёр 14 кастрычніка 1754 г. Гл. вышэй каталог магілёўскіх архірэяў.

2 Гэтая була напісана 7 лютага 1755 г., змешчана ў перакладзе на рускую мову ў Истор. объ Уніи. Стар. 342—345.

3 У архірэйскім архіве ёсць ліст Льва Сапегі, якім ён у 1600 г. зацвердзіў Спаскаму манастыру права валодаць Барадчыцкім перавозам, нягледзячы на тое, што вёска гэткай назвы яму належала.

4 Спіс тэстаменту кн. Лахціновіча, што прысланы з Кіеўскай лаўры еп. Іосіфу, і акт мітрапаліта Пятра Магілы пра замену гэтых маёнткаў, захоўваюцца ў архірэйскім архіве.

Магілёва з некалькімі пляцамі ў самым горадзе. Ва ўсіх тых сяленнях лічыцца сялян каля 400 душ мужчынскага полу, а зямлі прыдатнай і непрыдатнай разам да 3484 дзесяцін.

Цяпер у манастыры Спаскім, альбо Архірэйскім, усе пабудовы мураваныя, добрага дойлідства: 1) Галоўны храм у імя Праабражэння Гасподня, ■ двума прыдзеламі. У ім па правым боку вялікага алтара, ніжэй кліраса, стаіць цудатворны абраз Боскай Маці, у рызе срэбрапазалочанай, які, як сведчыць паданне, з'явіўся некалі на сцяне каралеўскай крэпасці[1]. 2) Другая царква ў імя 40 Севасційскіх пакутнікаў, злучаная з келлямі, цёплая. 3) Архірэйскі дом з царквой у імя Узнясення Гасподня, пры ім пладовы сад. 4) Келлі ў адзін паверх, пабудаваныя ў выглядзе вугольніка; частка іх, што прылягае да цёплай царквы, занята памяшканнямі Кансісторыі і службамі. 5) Званіца з праязной брамай. Манастыр абкружаны з двух бакоў на вуліцы купецкімі лаўкамі, таксама мураванымі, якія, такім чынам, складаюць частку яго агароджы. За такі парадак абавязаны ён незабыўнаму архіепіскапу Георгію.

Са старажытных актаў, што датычаць гісторыі гэтага манастыра, тут змяшчаюцца два лісты, Жыгімонта і Уладзіслава, тыя самыя, на якія вышэй зроблены спасылкі.

### Ліст 1-ы

*Жикгимонт трети, Божою милостью Король Польски, велики Князь Литовски, Руски, Пруски, Жомо[й]тски, Мазовецки тою ж Божою милостью назначоный Король Швецки и Готски, Вандалски ■ великое Княжа Финъляндъское. Ознаймуем сим нашим Листом всим в обце ■ каждому засобно, кому бы то ведати належало. Били нам чолом Бурмистры, Райцы, Лавники и вси мещане места нашого Могилевъского, ■ поведали перед нами, иж монастырь заложеня Светого Спаса в том месте Могилевъском накладом их власным заложен и збудован есть, и в их моцы и подаваню з давных часов бывал, а теперь де тот монастырь их Владыка Полоцъки, Витебъски и Мстиславъски Феофан Богдан Рпински в*

---

1 Гэтая падзея адзначана і ў некаторых Святцах, пры Малітваслова х і Псалтырах, што выйшлі ў свет з магілёўскай друкарні.

держаю своем мает, который иж за нечастым быванем самого Владыки у Могилеве, и за неопатръностю и недъбалством намесников его велми опал, так же и ъбогие чернъцы и черницы, которые при той церкви мешкают, выживеня своего мети не могут: а перед тым завжды з доходов тоеж церкви выховане свое мели, якож и Продок наш, славъное памети Король Его милость Стефан, за чоломъбитем их, с тых причын вышепомененых Владыце Полоцъкому Листом своим тое церкви уступити им велел. Который лист они перед нами покладаючи, просили нас, Господара, абыхмо ижы оную церковь Светого Спаса со всими подаными монастырскими, при той церкви мешкаючими, водлуг давного обычаю, опять им вмоцъ и в держане привернули, и подати велели; и то им Листом нашим утвердили. А так мы з ласки нашое Господаръское чинечи то на чоломъбите их, а хотечи оный монастырь церковь заложеня Светого Спаса в добрый порадок привести, выймуючи то з владзу из моцы Владыки Полоцъкого, Бурмистром, Райцом, Лавником и всей Раде места нашого Могилевъского людем закону Греческого дали есмо, и сим Листом нашим даем им самым и потомъком их вечъными часы: который то монастыръ з людми на кгрунте монастыръскоммешкаючими, так же з двема волоками и зо всими иными пожитками, ку той церкви издавна належачими, мают они в моцы, владности и в подаванью своем мети, держати и им справовати, и всякие доходы, до того монастыра з людей из кгрунтов монастырских приходячие, до рук своих отбирати; и то на потребы церьковные монастыръские, и на выховане Попов, Чернъцов и убогих Черниц и слуг церковъных оборочати; ни якого зменъшеня в том не чинечи, и о вшем оприбавлени стараючисе. А што се дотычет Свещенников до тое церкви; ино самы мещане людей годных и в письме Божом учоных на духовеньство до тое церкви обирати; а Владыка Полоцъки, за поданем их, в станъ духовны на Поповство совершати их будет, вед же яко в тую церковь, так же и в доходы церъковные уступатисе мает; але они сами мещане, собравъши межи собою на то одного або двух людей добрых, веры годных, которые бы всих справ, порадков и доходов монастырских с пилностю догледали; а им, яко старшим своим,

*на кожды год зо всего справованя своего личъбу и рахунок чинили: и на то дали есмо Бурмистром, Райцом, Лавником и всей Раде места нашого Могилевского сесь наш Лист с подписом руки нашое Господаръское и за нашою печатю привесистою. Писан у Кракове, лет отъ нароженя Сына Божого ЛФ осмдесятъ осмого, месяца Юня Д дня.*

Падпісана: Лев Сапега, Подканцлериве Кн. Лит.

## Ліст 2-гі

Władyslaw IV, z Bożej łaski Król Polski, welkie Xiąze Litewskie, Ruskie, Pruskie, Zmudzkie, Mazowieckie, Inflianlskie, Smoleńskie, Czernihowskie, a Szwedski, Gotski, Wandalski dziedziczny Król. Oznajmujemy tym listem naszym, komu to wiedziec nalieży: pokladając my na szczuplość dochodow Episkopiy Msclsławskiej, naznaczylismy Wielebnemu Sylwestrowy Kossowowi, Mscisławskiemu, Orszańskiemu i Mohilowskiemu Władyce, i eszcze pod czas szczęśliwey electiey naszey, częscią dla pomienoney szczuplości dochodow, częscią też uspokoiaiąc ludzie w Religiy Greckiey rozroźnoine, annuam pensionem to iest po dwa tysiące zlotych z skarbu naszego W[ielkiego] Xięstwa Litewskiego, iakoż i Listy nasze do wielmożnych podskarbych W[ielkiego] X[ięstwa] Lit[ewskiego] w tym aby ta pensia guotannis z Skarbu naszego onemu oddawana byla wydalismy. Lecz że mu te summę z trudnością wielką z Skarbu naszego odyskiwać przychodzi, przeto wnosil do Nas, przez niekiorych PP[anow] Rad i Urzędnikow naszych dwornych, przy Nas na ten czas będących, tenze Wielebny Władyka Mscisławski prozbę swą, abyśmy na mieysce pomienioney pensyi, targowne, pomierne i rogowne miasta Mohilowskiego dali i conferowali. Do ktorey prozby iego My łaskawie się skloniwszy, a ponieważ

Уладзіслаў IV, з Божай ласкі Кароль Польскі, вялікі князь Літоўскі, Рускі, Прускі, Жмудскі, Мазавецкі, Інфлянцкі, Смаленскі, Чарнігаўскі, таксама спадчынны кароль Шведскі, Гоцкі, Вандальскі. Абвяшчаем гэтым нашым лістом, каму то належыць ведаць: з увагі малых прыбыткаў Мсціслаўскай епіскапіі, прызначылі мы вялебнаму Сільвестру Косаву, мсціслаўскаму ўладыку, яшчэ падчас шчаслівых выбараў нашых, часткова з прычыны памяненых малых прыбыткаў, часткова каб супакоіць людзей, якія адрозніваюцца вызнаннем грэчаскай веры, гадавы пенсіён, па дзве тысячы злотых са скарбу нашага Вялікага княства Літоўскага, таксама і лісты Нашы да вяльможных падскарбіяў Вялікага княства Літоўскага ў тым, каб той пенсіён яму штогод выдаваўся. Аднак паколькі яму тую суму з вялікай цяжкасцю прыходзіцца адшукваць з нашага скарбу, прасіў Нас, праз некаторых Паноў Рад і дворных нашыхураднікаў, што на той час былі пры Нас, гэты самы вялебны ўладыка Мсціслаўскі просьбу сваю, каб мы замест памянёнай пенсіі гандлёвы, памерны і раговы падаткі горада Магілёва далі. Да гэтай просьбы Мы ласкава схіляемся, а паколькі гадавы збор падаткаў гандлёвага, памернага і раговага ледзьве з тым пенсіёнам зраўняцца можа, а з другога боку, улічваючы малыя

targowe Mohilowskie z pomiernym i rogowym ledwie tey pensiy w pożytkach swych corocznych correspondere może, niemniey też na szczupłe dochody Wielebnego Władyki, które byśmy radzi opatrzyli, interesny respekt maiąc, pomienione targowe Mohilowskie z pomiernym i rogowym, tak iako się w sobie maią, Wielebnemu Kossowowi Władyce Mscisławskiemu, nieunitowi, i successorom iego, teyże Religiy, wiecznie nadaiemy, i to nadanie Nasze tymże przywileiem naszym aprobuiemy, które targowe z pomiernym i rogowym Wielebny Władyka Mscisławski na się obrawszy, ma i wolen będzie spokoynie, tak jako się w sobie ma trzymać i używać, takze i successorowie iego wiecznemi czasy, bez żadney przeszkody od Nas samych i successorow naszych, także administratorowi mieszczan Naszych Mohilowskich. Na co dla lepszey wiary ręką się Naszą podpisawszy, pieczęc W[ielkiego] X[iestwa] Lit[ewskiego] przycisnąć rozkazaliśmy. Dan w Warszawie, dnia VI miesiaca Wrzesnia roku Panskiego MDCXLVI, Panowania naszego Polskiego XIV a Szwedzkiego XV roku.

Падпісана: Wladislaus Rex. Stanisław Kamszeniec, Referend. y Pisarz.

прыбыткі і будучы рады іх павялічыць, надаём вечна гандлёвы, таксама памерны і раговы падаткі Магілёўскія вялебнаму Косаву, Мсціслаўскаму ўладыку, неуніяту і пераемнікам яго той самай рэлігіі, і тое Наша гэтым прывілеем зацвярджаем; гэтыя гандлёвы, з памерным і раговым падаткамі вялебны ўладыка мсціслаўскі вольны будзе спакойна сабе трымаць і ўжываць, як і нашчадкі яго вечнымі часамі, без усялякай перашкоды ад Нас самога і нашчадкаў нашых, таксама адміністратараў і мяшчан нашых магілёўскіх. Дзеля чаго для лепшае веры рукой Нашай падпісаўшы, пячатку Вялікага княства Літоўскага прыціснуць загадалі. Дадзены ў Варшаве, дня 6-га месяца верасня 1646 года, панавання нашага польскага 14, а шведскага 15 года.

Падпісана: Уладзіслаў кароль Станіслаў Камшенец, Рэферэнд. і Пісар.

**XVI. МСЦІСЛАЎСКІ МІКАЛАЕЎСКІ** на гары, альбо нагорны манастыр, упамінаецца ў самым пачатку XVI ст. Ён размяшчаўся ўсярэдзіне замка, дзе і цяпер яшчэ відаць высокія насыпы і глыбокія ямы. Пазней заставалася тут толькі прыходская царква, але і яна больш ужо не існуе. На карысць гэтай абіцелі, па прашэнні ігумена Ніфанта, князь Міхаіл Іванавіч Мсціслаўскі пажалаваў у 1506 г. чатыры сям'і з рознымі падаткамі, і зямлю, што называлася Ярыкоўшчына. Гэты цікавы сваёй старажытнасцю ліст тут змяшчаем.

*Божою милостію мы, Князь Михайло Иванович Мстиславски, з нашою Княгинею Василисою и з нашими детми, Князем Федором и Князем Василием, чиним знаменито сим нашим Листом кождому доброму нинешним и на потом будучим, хто на него посмотрит, або чтучи его послышит, кому потреба того будет ведати. Бил нам чолом богомолец наш Игумен Николски Нифонт, абыхмо подтвердили Листом нашим тыи люди церковныи, што был Алекно записал. И мы того опыташи, и порадив з бояры нашими, дали есмо люди Светому великому Николе, на гору, в Рясинском повете, на имя Хилиста а Лушка Хилковичов з их жонами и детми, Василя Агеева Ашитковича из их жонами и детми, Ходора ■ Мишуту Семеновичов, Дмитра а Федора з Нестора Яцковичов; земли под тыми людми Бриковщизна; а з тое земли и з тых людей вышей писаных Светому великому Николе, на гору, кадь меду пять пудов, а десять грошы грошми. А тым людем вышей писаным никоторое службы нашое и наместником нашим не служить; посощины ■ подымщины и тамщины тым людем не давати; нижли тым людем всим вышей писаным службу служити и дань давати, кадь меду пять пудов, а десять грошы Игумену николскому, который коли служити будет у Светого Николы нагоре. Нашим наместником и тивуном городовым ■ Рясенским и всим Урядником нашим тых людей церковных вышей писаных не судити, ни радити, и децких не посылати; вин и повинных и инных никоторых пошлин наших на тых людех им не брати: дали есмо ■ записали тыи люди вси вышей писаные з данми ■ з данинами ■ з всими приходы, и з винами и з повинным всим на все Светому великому Отцу Николе на гору; нижли судити ■ радити тыи люди церковные и во всем знати Игумену Никольскому, который служити у Светого Николы будет: дали есмо ■ записали тыи люди на веки вечные Светому Николе на гору; нижли тым людем церковным толоку нам служити, а в ловы их не посылати, як на то обычай есть. Писан во Мстиславли, в лет индикт, Сент. день.*

XVII. **МСЦІСЛАЎСКІ ТУПІЧЭЎСКІ** Святадухаў[1] манастыр, праваслаўны мужчынскі Магілёўскай епархіі, знаходзіцца бліз паятовага горада Мсціслава, на беразе рэчкі Верхвы. Ён заснаваны ў пачатку XVII ст. шляхцічам Канстанцінам Еўпатавічам Маскевічам, які вылучыў са сваіх маёнткаў прыгараднае ўрочышча Тупічэўшчыну і збіраўся заснаваць праваслаўную абіцель. Спачатку пабудаваў тут царкву ў імя Сашэсця Святога Духа і пры ёй трымаў святара. Пад канец жыцця ён даручыў гэта тром сваім сынам, якія згодна завяшчанню бацькі, пачалі будаваць манастыр і далі на яго ўтрыманне дзве валокі зямлі ворнай і сенакосаў і даручылі кіраваць усім гэтым ігумену Аршанскага манастыра Іаілю Труцэвічу, замацаваўшы гэта распараджэнне судовым парадкам. З акта, напісанага дзеля гэтай нагоды 24 ліпеня 1641 г., відаць, што дзеці Канстанціна Маскевіча прадаставілі ігумену Іаілю не толькі валодаць маёмасцю абіцелі, але і ставіць кіраўніка ў яе ад сябе, захоўваючы пры гэтым непарушна праваслаўную веру і паслушэнства патрыярху Канстанцінопальскаму. У іншым выпадку, калі б ігумен Аршанскі альбо ігумен Тупічэўскі захацелі далучыцца да Уніі альбо заходняй царквы, то ў такім выпадку абодва яны пазбаўлены былі б сваіх правоў.

Манастыр гэты перажываў моцныя ганенні ад ворагаў праваслаўя. Асабліва Мсціслаўскія езуіты спакушаліся адабраць яго для уніятаў. Шмат разоў з натоўпам адзінавернай шляхты і студэнтаў урываліся ў абіцель, кідалі на будынкі запаленыя факелы, рабавалі царкву і келлі. Староста Мсціслаўскага ваяводства Ліндорф налажыў на яго штогадовы падатак, якога на працягу двух гадоў узяў з тамашніх манастыроў тры тысячы злотых[2].

У гэтай абіцелі цяперашнія будынкі ўсе драўляныя. Царква ў імя Сашэсця Св. Духа і келлі пастаўлены на каменных падмурках. У ёй цудатворны абраз Боскай Маці знаходзіцца з часу заснавання манастыра і лічыцца каштоўным як па старажытнасці жывапісу, так і па багаццю срэбнапазалочанага адзення, упрыгожанага жэм-

---

1 Гл. Истор. Росс. Іерархіи, VI. С. 459 і 460.

2 Гл. Истор.объ Уніи. Стар. 423. Гэтая даніна, альбо, дакладней, святатацкае рабаванне, складае 4050 цяперашніх сярэбраных рублёў.

чугам (перламі і камянямі). З укладаў варты ўвагі наступныя: 1) Евангелле, у чвэрць аркуша, друкаванае ў Маскве 1668 г. з наступным запісам: "Лета 7204 (1696) маія в 25 день, по указу великого Господина, Святейшаго Кир Адріана, Архіепископа Московскага и всея Россіи, и всех северных стран Патріарха, дано сіе св. Евангеліе из Святейшего Патріарха домовыя казны во Мстиславской уезд в Богородицкой Тупичевской монастырь в церковь Божію безденежно"; 2) Евангелле напрастольнае, дадзенае 1753 г. з Свяцейшага Сінода; 3) Евангелле, ахвяраванае ў 1800 г. Чарнігаўскім архіепіскапам Віктарам Садкоўскім, на памяць аб тым, што ён быў тут ігуменам[1].

Манастыр карыстаецца толькі ворнай і сенакоснай зямлёй, якая, як вышэй адзначана, дадзена яму дзецьмі заснавальніка Канстанціна Маскевіча. Да яго належалі яшчэ дзве вёскі, Вялікая і Малая Лешчынкі, у якіх лічылася больш ста душ сялян; аднак пазней выкуплены ў манастыра панам Цэханавецкім.

Пры ім штогадовыя кірмашы не праводзяцца, аднак наплыў народу кожны год бывае ў 15-ы дзень жніўня, у які не толькі з наваколля, але і са Смаленскай губерні збіраюцца багамольцы, з якіх шмат хто тут і гавее. Да вартых памяці падзей, што адбыліся ў гэтай абіцелі, можна ўспомніць наступныя дзвавыпадкі: 1) Цар Пётр Вялікі, падчас вайны з шведскім каралём Карлам XII, наведаўшы яе, слухаў літургію, і падчас яе адпраўлення сам чытаў Апостальскае пасланне. На знак манаршага свайго добраваленння да гэтай абіцелі Гаспадар пажалаваў ёй тады (1708 г., 5 верасня) ахоўную грамату, якой загадвалася манахаў, што накіроўваліся на Смаленск альбо якія іншыя грады з абразамі і царкоўным рыштункам, прапускаць без затрымання, і дазволена было там пражываць[2]. 2) Адзін беларускі шляхціч Бучынскі, будучы ўжо ў глыбокай старасці, сам прызнаваўся тутэйшаму ігумену Міхалу Раеўскаму, што пры польскім яшчэ валоданні вучыўся ён у мсціслаўскіх езуітаў; па навучэнню настаўнікаў, аднойчы ноччу

---

1 З укладаў звяртае ўвагу яшчэ грабніца срэбнапазалочаная, з пазначэннем у надпісе, што яна ахвяравана баярынам Бутурліным.

2 Гэтая ахоўная грамата змешчана ніжэй.

прыходзіў ён разам з іншымі вучнямі ў манастыр для таго, каб украсці цудатворны абраз Боскай Маці (бо езуіты не пераносілі існаваўшай у народзе пагалоскі пра цудатворнае яго лекаванне; аднак ледзьве паспелі адчыніць падробным ключом царкоўныя дзверы і падступіцца ад абраза, як раптам зрабіўся страшэнны шум у храме і зладзеі ўсе выкінуты былі ■ яго нябачнай сілай. Хітрыя езуіты, бачачы нябесную кару і адчуваючы сорам, тое, што адбылося, загадалі сваім выхаванцам захаваць у таямніцы[1].

У гэтым манастыры, ад самага заснавання, настаяцельства ігуменскае. Паводле запісаў вядомы наступныя ігумены:

1. Іеранім Шпоўскі, упамін. ў судовых актах у 1687 г.
2. Міхал Пузына, беларусец, кіраваў да 1715 г.
3. Якаў Ілініцкі, паляк, да 1728 г.
4. Антоній Таміла-Дзенісовіч, з 1729 па 1734 г.
5. Віктар Садкоўскі, маларасіянін, да 1738 г. Ён потым быў чарнігаўскім архіепіскапам.
6. Інакенцій Людагоскі, беларускі шляхціч, да 1754 г.
7. Іосіф Блажэўскі, беларусец, да 1760 г.
8. Давід Ляташынскі, маларасіянін, да 1777 г.
9. Платон Каліноўскі, маларасіянін, да 1785 г.
10. Міхал Раеўскі, беларускі шляхціч, да 1794 г., памёр у 1811 г.
11. Геронцій Людагоскі, беларускі шляхціч, 1811 г.

Да гісторыі Тупічэўскага манастыра адносяцца наступныя тры акты, якія захаваліся ад парахнення і рабаванняў у яго архіве:

### Акт 1-ы

Божіею споспѣшествующею милостію, Мы пресвѣтлѣйшій и державнѣйшій великій Государь, Царь и великій Князь Петр Алексѣевич, всея Великія и Малыя и Бѣлыя Россіи Самодержец, многих Государств и земель восточных и Западных и Сѣверских Отчич и Дѣдич и Наслѣдник и Государь и Овладатель, наше царское Величѣство, Генералом нашим фелд-маршалком також де Генералом и Полковником, Маіором, и всякому имѣющему начальство

1 Пра гэтую падзею захоўваецца ў манастырскім архіве памятны запіс.

над войски нашего Царскаго величества, обрѣтающимися в нынѣшнее время вспоможеній посланных в великом Княжествѣ Литовском, обьявляем сею нашею Грамотою, что Мы великій Государь наше Царское величество послали войски наши Княжеству Литовскому по желанію Королевскаго величества и Рѣчи Посполитой, не ради иного случая, токмо для обороны и на изгнаніе общаго непріятеля, выдал указы жестокіе, дабы никому не чиня ни какого разоренія и убытку, войски наши були под послушаніем, имѣя под жестоким себе наказаніем воинским, так обидящему, как и начальствующему, и сим нашим Указом тож обьявляем и повелѣваем, не только для любви, которая есть между нами и Королевским величеством Польским, також де и ради истиннаго союзу, постановленнаго между обоими Монархами против общаго непріятеля, имѣюще призрѣніе на монастырь Греко-россійскій Мстиславскій со всем братством, с маетности ■ селы, ни каких обид и налога и податей ■ подвод дабы никто из войск наших, чрез повелѣніе чинити не емѣл ни с каким наступленіем, под жестоким судом и наказаніем артикулов воинских; а противно убо дѣлающих, разоряющих, чрез насильство емлющих спонеже то есть противно изображенной нашей волѣ ■ Указом нашим повелѣваем Генералом нашим, или кто имѣти будет команду, дабы жестоко по артикулом воинским судил ■ розыск чинил: а когда бы инако поступил, неправедно судил обидящему, награжденіе не присудил; тот сам начальствующій тѣми артикулами воинскими судим будет, и всякіе убытки и обиды награждати должен, что для лучшей вѣры и вѣдомости, сію нашу Грамоту из Канцеляріи нашей с печатью изобразити повелѣли. Писано в Москвѣ Генваря 31 дня 1706 году.

### Акт 2-і

Божіею милостію Мы пресвѣтлѣйшій и державнѣйшій великій Государь, Царь и великій Князь Петр Алексѣевич, Самодержец всеросійскій и проч. повелѣваем чрез сіе войск наших Генералу-фельтмаршалу и Генералом всѣм команду имѣющим, и в городах Воеводам и всяким Приказным людям и Бурмистром: когда из города Мстиславля нашея благочестивыя Греческія Вѣры монахи поѣдут в наши города, в Смоленск или в иныя которыя мѣста

за наш рубеж с Божественными Иконы и со всякою церковною утварью, оных вѣзде, как нашего Государства в рубежи ѣдущих, так и назад возвращающихся, пропускать без задержанія ■ остановки; а особливо если они похотят жить в Смоленскѣ или в ином котором нашем городѣ, и им дать в том повольность, и из города не высылать. Сіе повелѣніе утверждено нашею Царскаго величества печатью, в обозѣ при Меновичах, лѣта 1708 Сентября в 5 день.

Акт 3-і

Божіею милостію Мы Анна, Императрица ■ Самодержица всероссійская и проч. Обьявляется чрез сіе войск наших, обрѣтающихся в Польшѣ и Литвѣ, регулярных и нерегулярных Командиром и всѣм Офицером кому гдѣ какая команда поручена. Просил Нас обители сошествія Духа, которая в Мстиславлѣ, Игумен Антоній Денисович, чтоб обители их с братсвом ■ с маетностми и с селы от войск наших обид и налог чинено и податей требовано не было: того ради вышезначенных войск наших Командиром и всѣм прочим всемилостивѣйше повелѣваем, дабы помянутой обители монахов благочестивых, и в маетностях и селах их в Литвѣ обрѣтающихся обывателем никаких обид, налог и утѣсненій отнюдь не чинили, но паче охраняли и защищали, и никаких податей не вымогали, чего ради, во увѣреніе всѣм, дан сей наш Указ за нашею Императорскою печатью. Дан ■ Санкт Петербургѣ Марта 28 дня 1734 году.

Падпісана: "Анна".

XVIII. **НЕВЕЛЬСКІ ПРААБРАЖЭНСКІ** мужчынскі манастыр магілёўскай епархіі[1]. Да апісання, што змешчана пра яго ў Гісторыі Расійскай Іерархіі, варта дадаць наступныя абставіны: 1) Абіцель гэта пасля пажару, што быў тут у 1692 г., адноўлена мураваным будынкам, пры чым галоўны храм у імя Праабражэння Гасподня нанова асвячоны епіскапам беларускім Сільвестрам-Святаполкам князям Чэцвертынскім у 1708 г., як азначана, на Св. Антымінсе. 2) Замест манастырскай зямлі, якую ўзялі для рассялення не-

1 Гл. Истор. Росс. Іерархіи Ч.V. С. 138

вельскіх абывацеляў, прыпісана да гэтай абіцелі тагачаснай уласніцай горада княжной Радзівілаўнай вёска Сіпава, у якой цяпер, па апошняй рэвізіі, лічыцца сялянскіх душ мужчынскага полу 14 і жаночага 17. 3) Як пры гэтай вёсцы, так і пры манастыры зямлі ворнай і сенакоснай, разам з непрыдатнай пад сухадолам і балотамі, лічыцца ўсяго 194 дзесяціны з некалькімі сажнямі. Звыш гэтага прылічана да яго 216 прыходскіх двароў. 4) Пра настаяцеляў па манастырскіх запісах ніякіх звестак не знойдзена. Цяперашні ж ігумен Багалеп у 1815 г. паступіў настаяцелям з Чонскага Успенскага манастыра, што быў стараабрадны, узведзены ў чын настаяцеля архіепіскапам Даніілам 18 студзеня 1821 г.

XIX. НЕВЕЛЬСКІ ТРОІЦКІ мужчынскі манастыр, зачынены. Гл. апісанне яго ў Гісторыі Расійскай Іерархіі, ч.V, стар. 139.

XX. АНУФРЫЕЎСКІ мужчынскі манастыр[1] знаходзіцца за 15 вёрст ад горада Мсціслава. Ён ад самага пачатку заснавання быў праваслаўны і ад розных дабраверных укладчыкаў набыў зямлю, вёскі, сялян і іншыя знатныя ўгоддзі. Аднак у 1730 г., альбо каля таго часу, пры ганеннях на праваслаўе, што асабліва адчуваліся ў былым Мсціслаўскім ваяводстве, адышоў да Уніі ксяндзам базыльянскага ордэна[2], якія, выгнаўшы дабрачынных манахаў, самі тут пасяліліся і з тых часоў дасёння валодаюць усім тым, што ад даўніх часоў не належала да маёнтка і ўгоддзяў гэтае абіцелі.

XXI. АРШАНСКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ мужчынскі манастыр[3] магілёўскай епархіі знаходзіцца бліз павятовага горада Оршы, на вусці ракі Куцеінкі, якая ўпадае ў Дняпро, ад імя якой і называецца Куцеінскі. Абіцель гэта заснавана ў 1623 г. на сродкі мсціслаўскага падкаморага Багдана Вільгельмавіча Стэткевіча і жонкі яго Алены Багданаўны, народжанай князёўны Саламярэцкай, якія, шануючы дабрачэсце, не толькі далі на пабудову манастыра ўласную зямлю, але і прыпісалі яму для карыстання сваю вёску Паддубцы. Праз колькі гадоў арганізавана была пры ім друкарня, у якой з 1632г друкавалася шмат богаслужэбных і духоўнага зместу кніг[4]. Аднак у 1654 г. па загаду патрыярха Нікана першы ігумен гэтага ма-

---

1 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерархіи не ўпамінаецца.

2 Гл. Истор. объ Уніи, Стар. 280, 302, 435.

3 Гл. Истор. Росс. Іерар. IV, Стар. 883—885.

4 Першая кніга, што выйшла з Куцеенскай друкарні, гэта Новы Запавет з Псалтырам і кароткім яго тлумачэннем; надрукавана ў 1632 г. у 4 д. і цяпер лічыцца рэдкай. Гл. Оп. Росс. библиогр.. Сопик. 1, 154.

настыра Іаіль Труцэвіч з некалькімі манахамі і друкарняй пераведзены ў Наўгародскую епархію, у новаарганізаваны гэтым патрыярхам Валдайскі Іверскі манастыр[1]. Пра гэты выпадак у Жыцці патр. Нікана расказваецца так: "слышав Святейший Патриарх, яко близ славнаго града Орши, еже бысть, глава и начало общему житию, во всей Белой России и Литве созданная обитель, или рощи Лавра великая Св. Богоявления Господня, зовома Кутейно, юже воздвиже боголюбивый иеромонах Іоиль, иже бысть игумен лавры тоя, и не токмо сию едину, но ины многи своими труды и поты сооружи и иночествующих моножество собра [redacted] во своей пастве всех имели, и благочестие во всей Белой России утверждали и удерживали, во время гонения от развращенных Униатов: понеже в то время несть мощно бе от Киева никако Архиерею жительствовати тамо, гонения и насилия ради противных, якожерехом. О сих же Христоподражательных, о игумене с братиею слышав святейший Никон Патриарх, яко в великом гонении [redacted] утеснении пребывают, молих благочестиваго государя царя и великого князя Алесия Михайловича, всея Великия и Малыя и Белыя Росии Самодержца, да повелитъ привести оныя обители Кутеинскія предпомянутого игумена съ братіею въ лавру Иверскую. И великій Государь приказалъ первести ихъ во уреченное просимое место. Абіе Игуменъ Іоиль съ радостію повинуся оле ихъ; но недостиже желаемаго места скончася на пути въ Болдине. Но обаче же и о костяхъ своихъ заповеда братіи, да принесутъ ихъ во Иверскій монастырь: азъ рече, послушаніе мое ко Пастырю и по смерти сохраню. Оная же братія избраша себе, вместо того, бывшаго во игумены наместника Діонисія. И приспевше имъ въ царствующій градъ, и Святейшій Патріархъ посла ихъ во Ивескій монастырь".

Манастыр гэты, яшчэ пры польскім уладарніцтве, паводле граматы Феафана, патрыярха Іерусалімскага, быў стаўрапігіяльны і называўся Лаўрай, залежаў непасрэдна ад Канстанцінопальскага патрыяршага прастола. Таму ён не толькі меў прыпісныя абіцелі, якімі былі Лукомская і Міёрская[2], але ігумен, альбо архімандрыт

1 У Іверскай друкарні першая кніга надрукавана ў 1656 г. пад назвай Рай мысленный, якая лічыцца рэдкай. Гл. Оп. Росс. библіогр., Сопик. I, IXXXI. С. IV. Між іншым, у Аршанскім манастыры застаюцца дасёння некалькі скрыняў свінцовых літар. Можа быць пераемнікі Іаіля хацелі працягваць існаванне сваёй друкарні, і для гэтага пакінулі ў сябе некаторы запас; альбо пазней спрабавалі аднавіць яе, але ні ў тым, ні ў іншым не мелі поспеху.

2 Гл. апісанне гэтых манастыроў вышэй; таксама Истор. объ Уніи, С. 182 і 183.

Куцеінскі быў нават галоўным начальнікам і кіраўніком усіх беларускіх манастыроў, мужчынскіх і дзявочых. А паводле трактата аб вечным міры, заключаным паміж Расіяй і Польшчай 6 мая 1686 г., гэтая архімандрыя, роўна як і іншыя беларускія абіцелі, павінна была заставацца, згодна даўніх правоў, ва ўсялякіх свабодах і вольнасці царкоўнай, і, застаючыся праваслаўнай, залежаць ад мітраполіі Кіеўскай[1]. Нягледзячы на гэта, яна доўга была пад прыгнётам каталікаў і уніятаў, якія некалькі разоў ўрываліся сюды, білі інакаў, рабавалі маёмасць і, нарэшце, узброенай рукой абодва прыпісныя манастыры адабралі.

Цяпер у гэтым манастыры будынкі наступныя: 1) Галоўны храм у імя Богаяўлення Гасподня, драўляны, які пры першапачатковым заснаванні абіцелі пабудаваны ў 1623 г. У памяць пра гэта ў царкве стаяць партрэты Багдана Стэткевіча і яго жонкі Алены. Сярэдзіна храма распісана ўся кіеўскім старажытным жывапісам; унізе па сценах паказаны падзеі, узятыя з гісторыі Старога Запавету і Новага, а на версе, на хорах — подзвігі святых. 2) Другая царква цёплая, мураваная, адноўлена ў 1819 г. 3) Настаяцельскія келлі і некаторыя службы,таксама мураваныя, а брацкія драўляныя. 4) Манастыр абнесены каменнай агароджай і абсаджаны дрэвамі. У бібліятэцы манастырскай засталося ад рабаванняў яшчэ даволі старадрукаваных кніг, з якіх некаторыя лічацца бібліёграфамі як вельмі рэдкія[2].

---

1 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 142 і 143.

2 Для цікаўных прыкладаецца тут імянны іх спіс:

а) Апокалипсисъ з толкованьями Св. Андрэя Крыцкага, Кіеў, 1625 г., у арк.
б) Венец Хрістовъ, сач. ігум. Антонія Радзівілоўскага, Кіеў, 1688 г., у арк.
в) Евангелле вучыцельнае, тварэнне Св. Каліста, у Еўі, 1616 г., у арк.
г) Беседы на Деянія Св. Апостолъ, Кіеў, 1624 г., у арк.
д) Книги о Священстве, пер. Епіфанія Славенецкага, Масква, 1664 г., у арк.
е) Ключь разуменія, сач. Іоанікія Галятоўскага, Кіеў, 1660 г., у арк.
ж) Мессія Правдивый, сач. Галятоўскага, Кіеў, 1669 г., у 4-ю долю арк.
з) Гэтая ж кніга на польскай мове, Кіеў, 1672 г., у 4-ю долю арк.
и) Номоканонъ, выд. Захарый Капысценскі, Кіеў, 1624 г., у 4-ю [долю арк.].
і) Рай мысленный, друк. у Іверскім манастыры, 1656 г., у 4-ю [долю арк.].
к) Служебник, выданне выпраўленае Саборам, Масква, 1655 г., у 4-ю [долю арк.] Гл. Соп. I, 231.
л) Трубы словесъ, сач. архіеп. Лазара Барановіча, Кіеў, 1674 г., у арк.
м) Феатронъ, сач. архіепіскапа Іаана Максімовіча, Чарнігаў, 1708 г., у 4-ю долю арк.
н) Лексикон Славенорусский Памвы Бярынды, у Куцеінскім манастыры, 1653 г., у 4-ю [долю арк.].

Ёсць некалькі рукапісаў, але яны няпоўныя і малаважныя.

Да Куцеінскага манастыра належаць наступныя ўгоддзі: вёска Паддубцы, ахвяраваная, як ужо вышэй адзначана, заснавальнікам яго Стэткевічам; Слабада Пяшчанка, заселеная яшчэ пры польскім уладарніцтве рознымі выхадцамі, якія плацяць толькі пазямельнае. У гэтых двух пасяленнях лічыцца сялян мужчынскага полу каля 75 душ, а зямлі пры генеральным межаванні, якое было на Беларусі ў 1783 г., дадзена манастыру 435 дзесяцін і 3836 кв. сажняў. Звыш таго пры манастыры на рэчцы Куцеінцы пабудаваны млын, які меле толькі вясной, падчас паводкі, і маецца невялікі завод для выпальвання вапны.

Настаяцельства ў гэтым манастыры ад самага заснавання было ігуменскае, аднак ён, называючыся Лаўрай, кіраваў усімі беларускімі абіцелямі, меў правы архімандрыі і такім імем названы ў трактаце аб вечным міры Расіі з Польшчай. Хаця сапраўдная архімандрыя зацверджана на аснове высачайшага загада, па прадстаўленні прэасвяшчэннага Анастаса, Свяцейшым Сінодам 9 жніўня 1805 г. з дазваленнем тутэйшаму архімандрыту насіць на мантыі камлотавай зялёныя аксамітавыя скрыжалі.

Пра настаяцеляў, з прычыны знішчэння манастырскага архіва падчас нашэсця непрыяцеля, дастатковых звестак не знойдзена. З ігуменаў упамінаюцца: 1) **Гедэон Клімовіч**; ён упамінаецца ў 1649 г. пры асвячэнні храма ў Баркалаб. ман[1]. 2) **Іаіль Труцэвіч**, які ў 1656 г. паводле загада патрыярха Нікана пераведзены ў Валдайскі Іверскі манастыр; аднак, не дасягнуўшы яго, сканаў па дарозе, у Болдзіне[2]. 3) **Генадзі Гарэлька**, упамін. ў судовых актах 1687 г. 4) **Мелецій Чайкоўскі**; ён у 1718 падпісаўся, замест усіх начальнікаў Беларускіх і Літоўскіх манастыроў, на чалабітнай цару Пятру I аб прыцясненнях[3]. 5) **Міхаіл Кобержыц**, упамінаецца ў 1743 г. 6) **Генадзі II**, упамін. ў 1768 г. ў перапісцы Георгія Каніскага. Архімандрыты яго, па парадку, наступныя: 1) **Феафан Раманоўскі**, з Ігумена, у 1805 г. пасвечаны першым архімандрытам, кіраваў да 1807 г., у якім пераведзены ў Астрожскі першакласны

---

1 Гл. вышэй апіс. Баркалабаўскага манастыра.

2 Гл. Житіе Патр. Никона. С. 44.

3 Гл. Истор. объ Уніи. С. 168.

манастыр, а потым, 22 лютага 1812 г. — у чарнігаўскі Елецкі, дзе і памёр. 2) Юстын, з 1810 да 1812, у якім пераведзены ў Вяцкі другакласны манастыр са званнем рэктара тамашняй семінарыі. 3) Венедзікт Грыгаровіч, з 1814 да 1821 г., пераведзены ў Бароўскі Пафнуціеў першакласны манастыр са званнем рэктара і прафесара Калужскай семінарыі. 4) Мялеці Леантовіч, у 1823 пераведзены ў Елеазараў манастыр пскоўскай епархіі са званнем рэктара семінарыі. 5) Аркадзій, у 1823 г. пераведзены з Уладзімірскага Багалюбава трэцякласнага манастыра і знаходзіцца дасёння.

У 1654 г. Куцеінскі намеснік Дзіанісій атрымаў ад цара Аляксея Міхайлавіча як для сваёй абіцелі, так і для суседняй дзявочай ахоўную грамату, спіс з якой тут змешчаны:

**Грамата**

*Божіею милостію от великого Государя Царя и великаго Князя Алексѣя Михайловича, всея Великія и Малыя Россіи Самодержца и многих Государств Государя и Обладателя, нашего Царскаго величества Боярам и Воеводам и всяким Приказным людем. Били нам челом великому Государю нашего царскаго величества богомольцы, Кутеенскаго Богоявленскаго монастыря Наместник, Старец Деонисій с братьею, да Кутеенского ж дѣвича монастыря соборные старицы Митродора да Таифа с сестрами, чтоб Нам их пожаловати, велѣти им дати Нашу оберегальную грамоту, чтоб их монастырских деревень крестьян и жен и дѣтей Наши ратные люди не разоряли и не разгоняли и в полон не имали и чтоб им волно было жити на прежних своих мѣстех; да им же бы Намѣстнику с братьею в нынѣшнее воинское время позволити ѣздити из Кутеенского монастыря в Дорогобужской уѣзд в Бизюковской монастырь и в иные наши города и мѣста. И Мы великій Государь Царь и великій Князь Алексѣй Михайлович, всея Великія и Малыя Россіи Самодержец и многих Государств Государь и Обладатель, Кутеенских монастырей, Богоявленского монастыря Намѣстника Деонисія с братьею, да дѣвича монастыря соборных стариц Митродору да Таифу с сестрами пожаловали, велѣли им дати сю Царскаго величества оберегальную грамоту, и в Бизюковской монастырь Богоявленского монастыря.....тне*

*прі́ѣзжать позволили. И нашим Царского величества Бояром и воеводам и всяким нашим Приказным людем, в Оршѣ Богоявленского Кутеенского монастыря Наместника Деонисія с братьею, да Кутеенского ж дѣвича монастыря Стариц и их служебников и крестьян з женами и з дѣтьми, и которые всякіе люди учнут от войны прибегать к ним в монастыри, от наших ратных и ото всяких людей оберегать, и разоренья над ними никакова чинити не давати и в полон имати отнюдь никому не велѣти; и в Дорогобужскій уѣзд в Бизюковской монастырь и в иные наши городы им и служебником их пріѣзжати им позволили. А кто над тѣми монастыри, и над старцы и над старицы, или над их монсстырскими служебники, и из вотчин их над крестьяны учинит какое разоренье или грабеж, или крестьян их учнет разгоняти и в полон имати, или какое ни буди насиліе чинити; и тѣм людем от Нас великого Государя Царя и великаго Князя Алексѣя Михайловича, всея Великія и Малыя Россіи Самодержца быти в великом и жестоком наказаньѣ, и в казни безо всякія пощады: и Бояром Нашим и воеводам и всяким Приказным людем велѣти того остерегати, чтоб однолично разоренья никакого над ними никто не чинили ни которыми мѣры. А прочитая сію Нашу Царского величества грамоту отдавати Кутеенского Богоявленского монастыря намѣстнику Деонисію з братьею, или хто в том монастырѣ Игумен или иной намѣстник по нем будет. Дана ся наша Царского величества грамота в нашем Царскаго величества походѣ, на стану под Смоленском, лѣта от созданія міра ЗРѮВ мѣсяца Августа К дня.*

У гэтай грамаце, на верхнім перагібе аркуша, надпісана: "Божіею милостию великиі Государь Царь и великиі Князь Алексей Михайловичъ; всеа Великия и Малыя Росиі Самодержецъ". Да яе прыложана дзяржаўная пячатка пад кустодыяй, з адлюстраваннем дзяржаўнага Арла, вакол якога надпіс з царскім тытулам, у пяці кругавых радках. Захоўваецца ў архіве гэтага манастыра.

XXII. АРШАНСКІ УСПЕНСКІ агульнажыцельны дзявочы манастыр[1] магілёўскай епархіі, знаходзіцца бліз павятовага горада Оршы, на невялікай адлегласці ад тамашняй мужчынскай абіцелі,

---

1 Гл. Истор. Росс. Іерархіи. Ч.IV. С. 886 і 887.

на вусці рэчкі Куцеінкі, што ўпадае ў Дняпро, ад імя якой і называецца Куцеінскім. Ён заснаваны падкаморынай браслаўскай Ганнай Багданаўнай, народжанай Агінскай, жонкай Івана-Багдана Вільгельмавіча Стэткевіча, падкаморага мсціслаўскага, якія абодва, узяўшы за прыклад добрачасцівых сваіх продкаў, што арганізавалі куцеінскую мужчынскую абіцель, у 1631 г. таксама на пабудову дзявочага манастыра не толькі вылучылі ўласную зямлю, але і прыпісалі на яго ўтрыманне вёску Свісцёлкі[1] з сялянамі і ўгоддзямі. Даручыўшы кіраваць абіцеллю выбранай ігуменні Ефрасінні Кіркораўне, заснавальнікі пісьмова запаведалі, каб і начальніцы і інакіні прабывалі на вечныя часы ў саюзе агульнажыцця і чыстаце праваслаўнай усходняй царквы і залежалі ад улады кіеўскага мітрапаліта.

Спачатку тут быў пабудаваны драўляны храм у імя Успення Боскай Маці і драўляныя келлі. Праз некаторы час, пасля дабрачынных ахвяраванняў, пабудавана і другая царква ў імя Пакрава Багародзіцы, таксама драўляная. Некалі, падчас пажару галоўны Успенскі храм згарэў, пры гэтым загінула і маёмасць царкоўная. На тым самым месцы, дзе яна стаяла, пабудавана мураваная царква ў імя Сашэсця Св. Духа[2] і асвячона ў 1653 г., як сведчыць надпіс насценны наступнага зместу:

"Изволеніем и благодатію всесвятаго и животворящаго Духа, рукодѣйствіем же Преосвященнѣйшаго Господина Отца Петра Могилы, православнаго Архіепископа Митрополита Кіевскаго, Галицкаго и всея Россіи, Екзарха Св. великаго Апостольскаго трону Константинопольскаго, Архимандрита Печерскаго, освятися Божественный сей храм, во славу всесвятаго и животворящаго Утѣшителя Параклита, Духа Святаго, в честь и память преславнаго Его в день пятидесятый на Апостолы Сошествія, во св. общежи-

---

1 Ад назвы гэтага паселішча Куцеінская абіцель у некаторых актах называецца Свісцёльскай, таксама як Аршанскі мужчынскі манастыр называецца інакш Белькаўскі, ад наймення зямлі, ахвяраванай яму заснавальнікамі.

2 Сачыніцель Росс. Іерархіи (VI, 1018) упамінае пра Куцеінскі Духаўскі манастыр і лічыць яго за асобны, дадаючы, што ў 1698 г. дзве старыцы прыязджалі адтуль у Маскву па міласціну. Аднак з вышэйзначаных абставін відаць, што ў Оршы асобнай Духаўскай абіцелі не было, а Успенскі манастыр, які існуе і зараз, называўся таксама і Духаўскі па назве галоўнага храма.

тельной обители Кутеинской дѣвической, в великом Княжествѣ Литовском, в предѣлѣ Оршанском, державствующу великому Господарю Королю Владиславу четвертому, при всечестном Игуменѣ Іоилѣ, первоначальницѣ и основателѣ св. обители сея и спасительнаго в ней общежительства содѣтель, при перво-игуменіи Ефросиніи Кирковнѣ, при ктиторѣх благочестивых и благовѣрных, Аннѣ Статкевичевой, подкоморіѣю Бряславской, благовѣрном сынѣ ея Феодорѣ подкоморичѣ Мстиславском и подружіи его Еленѣ со чады их; и положены быша в божественном сем олтарѣ мощи св. великомученика Пантелеимона, и св. великомученика Артемія, и Св. Преподобному Анастасія Персянина, в лѣто от сотворенія міра, от воплощенія же Христа Бога 1635 іюня 26 дня."

Між іншым, пазней, на памяць аб згарэлай Успенскай царкве, яна зноў адбудавана і злучана з трапезнай.

Манастыр гэты, ад пачатку свайго заснавання, залежаў непасрэдна ад кіеўскай мітраполіі[1], як адзначана вышэй. Ён быў, так бы мовіць, калыскай некаторым беларускім дзявочым абіцелям, пры заснаванні якіх для захавання падабенства ў правілах інацкага агульнажыцця, пераводзіліся з яго не толькі манахіні, але і начальніцы. Нарэшце, пасля вяртання Смаленска пад Расійскую Дзяржаву, цар Аляксей Міхайлавіч у 1663 г. выгнаў з Ўваznесенскага дзявочага манастыра езуітаў і, зрабіўшы яго па-ранейшаму праваслаўным, загадаў перасяліць у яго з Куцеінскай абіцелі ігуменню княжну Іраіду Куракіну з 22 манахінямі[2]. Нягледзячы на гэта, манастыр не пазбаўлены быў добразычлівасці Расійскага царскага дому. Цар Аляксей Міхайлавіч сваёй граматай, дадзенай 21 чэрвеня 1670 г., загадаў адпускаць з казны на ўтрыманне яго штогадова грошай па 350 руб. і 330 чвэрцяў жыта і ячменю, ладану і воску па 3 пуды, царкоўнага віна па два вядры. Звыш таго, ён ахвяраваў да мясцовага абраза Спаса залатую грыўну. Царэўна Наталля Аляксееўна прыслала ў гэты манастыр вялікі звон, які праз [пэўны] час разбіўся, і зноў пералітызны. Сястра яе, царэўна Софія Аляксееўна,

---

1 Гл. ў Белорусск. Архиве древ. Грамот акт Экзарха Стэфана Яворскага, пісаны 3 сакавіка 1710 г.

2 Гл. Истор. Росс. Іерархіи. Ч. III. С. 596 и Слов. Щекатова V, 1029.

уступіўшы ў чыне схіманахіні ў маскоўскі Новадзявочы манастыр, вывезла адсюль некалькі абразоў і завяла ў сваёй абіцелі такую вопратку, якую насілі ў куцеінскай.

Яна трывала, як і іншыя беларускія абіцелі, прыцясненні ад ворагаў праваслаўя. У 1722 г., альбо каля таго часу, аршанскія езуіты на чале сваіх вучняў уварваліся ў манастыр з агністрэльнай зброяй, крычалі, стралялі, палохалі манахінь, запалілі некаторыя манастырскія будынкі і сярод агульнае трывогі паймкнуліся ўкрасці цудатворны абраз Боскай Маці; аднак дзёрэкім сілам нябесная да таго не дапусціла[1].

Пры гэтым манастыры каляндарныя кірмашы не праводзяцца, аднак 8 ліпеня, у дзень вялікапакутніка Пракопія, у які святкуецца і з'яўленне цудатворнага абраза Багародзіцы Казанскай, кожны год збіраецца ля абіцелі значная колькасць багамольцаў, таксама і 15 жніўня, як храмавае свята.

Да яго прыпісаны наступныя вёскі: Свісцёлкі, тая самая, якая ахвяравана заснавальнікамі абіцелі, Стаўры, Пуцянкіна і засценак Шугайлаў. Тры апошнія сяленні прыдбаны ва ўласнасць самім манастыром купляй і па закладных, якія, нарэшце, судовым парадкам пераўтвораны ў купчыя крэпасці. Ва ўсіх сяленнях лічыцца па апошняй рэвізіі 145 душ сялян мужчынскага полу, якія, праўда, не плацяць ніякага аброку, толькі абрабляюць манастырскую зямлю. Зямлі ворнай і сенакоснай, пад сялібамі, зараснікамі і ўвогуле прыдатнай і непрыдатнай, у акружной мяжы лічыцца 1359 дзесяцін. Другіх жа ўгоддзяў манастыр ніякіх не мае, акрамя таго, што на аснове жалаванай граматы цара Аляксея Міхайлавіча, пацверджанай імператрыцай Лізаветай Пятроўнай 10 мая 1748 г., даецца на яго ўтрыманне з казны штогод па 300 руб., і замест 330 чвэрцяў жыта грашыма па 1 руб. 50 кап. за кожную чвэрць.

З ігуменняў па манастырскіх запісах упамінаюцца нешматлікія: 1) Ефрасіння Кіркораўна з 1631 да 1635 г.; 2) Фаціння ў 1660 г.; 3) княжна Іраіда Куракіна, у 1663 г. пераведзена ў смаленскі Узнясенскі манастыр; 4) Трафімія ў 1668г.; 5) Іннакенція

---

1 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 216 і 217.

Пацёмкіна...; 6) Кацярына Лаціцкая з 1742 да 1760 г.; 7) Аляксандра з 1796 г. знаходзіцца дасёння.

Дзве граматы, дадзеныя царом Аляксеем Міхайлавічам гэтаму манастыру ў 1668 і 1670 г., тут змешчаны.

**Грамата 1-я**

*От Царя и великаго Князя Алексѣя Михайловича, всеа Великія и Малыя и Бѣлыя Россіи Самодержца, в нашу отчину в Смоленск Боярину нашему и воеводам, Князю Ивану Борисовичу Репнину с товарищи. Били челом нам великому Государю из Орши Кутеинского дѣвича монастыря Игуменія Трофимія да намесница старица Варсонофія с сестрами: в Кутеинском де монастыре у них соли над иными монастырскими потребами скудость, купить им не на что; и Нам бы великому Государю их пожаловать, велѣть о том наш великаго Государя Указ учинить. И как к вам наша великаго Государя грамота придет, и вы бы Оршанского Кутеинского монастыря Игуменіѣ Трофиміѣ, да наместнице старице Варсонофьѣ с сестрами велѣли дать нашего великаго Государя жалованья в Смоленску пятдесят пуд соли с роспискою, да о том к нам великому Государю велѣли отписать, и отписку велѣли подать в приказ Большаго дворца Боярину и Оружейничему нашему Богдану Матвѣеву, да Думному нашему Дворянину Ивану Богдановичу Хитрово, да дьяком нашим, Семену Титову, да Андрею Селену, да Денису Савлукову, да Ларіону Чванову. Писан на Москвъ, лета 3 РОS Августа в UI день.*

Падпісана: Диак Аврам Кощеев. Справил Федька Протопопов.

**Грамата 2-я**

*От Царя и великаго Князя Алексѣя Михайловича, всеа Великія и Малыя и Бѣлыя Россіи Самодержца, в нашу Смоленскую вотчину, Боярину нашему и воеводам, Князю Ивану Андреевичу Хованскому с товарищи. В прошлом во РЅИ году февраля в 31 день послана наша великаго Государя грамота из Приказу Княжества Литовскаго в Смоленск Боярину и Воеводам, Князю Борису Александровичу Репнину с товарищи, по челобитью Кутеинскаго дѣвича монастыря Игуменьи Фетиніи с сестрами, велѣно им в Смоленску давать годовыя руга в церковь по три пуда воску, по два ведра*

*вина церковнаго, Игуменьи с сестрами триста пятдесят рублей денег, триста*[1] *четвертей ржи. И нынѣ били челом Нам великому Государю из Смоленска вознесенскаго дѣвича монастыря Игуменія Ироида с сестрами: по Нашему великаго Государя указу, переведены онѣ из Кутеинскаго монастыря в Смоленск в вознесенской дѣвич монастырь, и велено им, для их монастырской скудости, хлѣбной руги давать в Смоленску, ржи и ячменю старицѣ по три четверти, да денег на монастырскую общую потребу, и к церкви на свѣчи по пуду воску, по два ведра вина церковнаго, по полупуду ладону, да пшеницы на просфоры по четверти; и в прошлых годех воеводы тое руги им давали, а нынѣ де вы тое руги дали им только ржи и ячменю пятдесят четвертей, и то все гнило, котораго служилые люди не взяли, а больше того ничего им не дано: да им же де давано дров по двадцати сажен, и нынѣ им не дано. И будучи де они без жалованья, во всякой нужи, в конец погибают. И Нам бы великому Государю пожаловать их, велеть им наше великаго Государя жалованье, хлѣбную и денежную ругу на нынешней на РОИ год выдать, и впредь давать сполна, против прошлых лѣт. И как к вам сія наша великаго Государя грамота придет; и вы бы Вознесенскаго дѣвича монастыря Игуменіи с сестрами сорокадевятью старицами учинили нашего великаго Государя денежнаго жалованья руги, старице по два рубли денег, по три четверти ржи: и то им наше великаго Государя жалованье, денежную и хлѣбную ругу на нынешній на РОИ год хлѣб к прежней дачѣ велели выдать, и впредь давать повсѣгодно; а на ладон и на воск и на вино церковное велели давать деньгами против прежняго, почему им преж сего в Смоленску давано и с тамошних доходов. Да что вы учинете, и вы бы к нам великому Государю отписали к Москвѣ подлинно вскорѣ, и отписку велели подать в Новгородском Приказѣ Стольнику нашему Ивану Севастьянову Большому Хитрому, да Дьяком нашим Ефиму Юрьеву да Авраму Кощѣеву. Писан на Москве, лѣта ЗРОИ іюня в КА день.*

---

1 У другім спіс е дабаўлена "тридцать".

Падпісана: Дьяк Ефим Юрьев. Справа подьячего Ларіона Васильева.

**XVIII. АХОРСКІ ПРААБРАЖЭНСКІ** мужчынскі заштатны манастыр[1] магілёўскай епархіі знаходзіцца ў Чэрыкаўскім павеце, на пустынным месцы, на беразе рэчкі Сож, бліз вёскі Ахора, ад якой і назву сваю мае. Пра першапачатковае заснаванне гэтай абіцелі, з прычыны знішчэння пажарам манастырскага архіва, ніякіх звестак не знойдзена. Вядома толькі па паданню, што яна заснавана ў 17 ст. па волі князя Радзівіла, канцлера Вялікага княства Літоўскага, старосты крычаўскага, пустэльнікам Аркадзем, які быў тут першы ігумен, альбо стваральнік. Аднак у 1708 г., у час пераправы ў гэтых месцах праз раку Сож шведскага войска, [яна] непрыяцелем разрабавана і ператворана ў попел. Гэтае няшчасце прымусіла манахаў разысціся па іншых манастырах. Хаця па сканчэнні вайны яны сабраліся зноў на ранейшым месцы і адбудавалі царкву і жытло.

Манастыр гэты перацярпеў уціск і ад ворагаў праваслаўя і пазбавіўся апошніх сваіх угоддзяў. Гасудар Пётр І, па прашэнню дабрачынных беларускіх абіцеляў аб абароне іх ад каталікаў і уніятаў, хадайнічаў за прыгнечаных адзінаверцаў і загадаў паслу свайму ў Варшаве князю Далгаруказму дамагацца ў караля Рэчы Паспалітай, каб па змесце дамовы аб вечным міры праваслаўным манастырам не рабілася ніякіх прымусаў у веры. З прычыны гэтага, паводле ліста караля Аўгуста ІІ, дадзенага 28 лістапада 1720 г., Ахорская абіцель засталася пры свабодзе праваслаўя і недатыкальнасці сваей маёмасці[2].

Невядома, якімі ўгоддзямі абіцель гэтая карысталася ў мінулыя часы. Хаця знаходзяцца і пісьмовыя доказы таго, што, згодна каралеўскім прывілеям, прадастаўлены быў ва ўладанне ёй кавалак зямлі за ракой Сож, у тры бакі, мерай на палавіне польскай мілі, і што сяляне Крычаўскага старостава абавязаны былі даваць на царкоўныя выдаткі і утрыманне манастыра хлеб (па 50 асьмін)

---

1 Гл. Истор. Росс. Іерархіи III, 622, і V, 421. Гэты манастыр у абодвух тамах апісаны двойчы і пры тым па-рознаму.

2 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 168–190 и наступн.

і воск (па 30 фунтаў)[1]. Цяпер карыстаецца ён ворнай і сенакоснай зямлёй, значная частка якой, між іншым, прысвоена гомельскімі памешчыкамі, аб чым дасёння вядзецца цяжба. Звыш таго, прылічана да манастыра некалькі прыходскіх двароў у навакольных вёсках.

Настаяцелямі ў ім былі і зараз ёсць ігумены. Падаём храналагічны іх спіс без абазначэння гадоў:

1. Страіцель Аркадзь;
2. Ігумен Феадор Круглік, 1669 г.;
3. Страіцель Іоасаф Жневіч;
4. Ігумен Варлаам Тамашэвіч;
5. Ігумен Нікадзім Святагорскі;
6. Ігумен Арсень Выгоўскі;
7. Ігумен Іаан Тударовіч;
8. Ігумен Давід Леташынскі, у 1761 г.;
9. Ігумен Леанід Красоўскі, у 1778—1791 г.;
10. Ігумен Іларыён Растоўскі, у 1799—1808 г.;
11. Ігумен Рафаіл Ярмолінскі, у 1809—1814 г.;
12. Архімандрыт Аляксандр Каржанеўскі, у 1815—1819 г.;
13. Ігумен Арэст Костка, у 1819—1826 г.;
14. Упраўляючы, іераманах Іларыён Карнавух, знаходзіцца зараз.

XXIV. **ПАХОМІЕЎ** стараабрадчы мужчынскі манастыр[2] папоўскага толку, знаходзіцца ў Магілёўскай губерні, Бялыніцкім павеце на рацэ Сож, за 5 вёрст ад мястэчка Гомель. Ён заснаваны, як сведчыць народнае паданне, падчас былых першай альбо другой выганкі[3] і напачатку называўся Ігнатава пустынь, ад імя якогасьці пустынніка, які першы тут пасяліўся. У ім цяпер дзве царквы: у імя Праабражэння Гасподня і ў імя рускіх князёў-пакутнікаў Барыса і Глеба. Для пражывання манахаў зроблены 24 келлі; у іх манашствуючых 25, для якіх ёсць агульная трапезная. Абіцель

1 Прамеморыя Беларускага Гасударава намесніка графа Чэрнышова, пісаная 23 лістапада 1777 г. да праасвяшчэннага Георгія Каніскага, у якой аб гэтых угоддзях упамінаецца, занесена ў кнігі Магілёўскага галоўнага суда ў тым самым годзе.

2 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерархіи не ўпамінаецца.

3 Гл. кн. I, степ. 5. Стар. 277. Параўн. Сцябельск. Zywot s. Eufrozyny Hegum. Potock. 1, 108.

гэтая ўтрымліваецца падаяннямі, таксама мае ворную зямлю і сенажаці.

XXV. **ПОЛАЦКІ Св. БАГАРОДЗІЦЫ** мужчынскі манастыр[1]. Існаваў недалёка Селіцкага, альбо Спаскага дзявочага манастыра, паблізу горада Полацка. Ён заснаваны прэпадобнай Ефрасінняй, дачкой князя Георгія Усеславіча, у 1160 г. ці крыху пазней. Пабудаваўшы тут мураваны храм у гонар Прасвятой Дзевы і пры ім некалькі келляў, княжна Ефрасіння аддала абіцель інакам. Аўтар Сцяпенных кніг апавядае, што манастыр гэты быў вялікі, аднак здаецца хутка быў разбураны татарамі ці літоўцамі. Цяпер ніякіх слядоў ад яго не засталося.

XXVI. **ПОЛАЦКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ** Брацкі манастыр. Да апісання, якое змешчана аб ім у Истор. Росс. Іерархіи, ч. III., стар. 441—456, патрэбна дадаць наступныя гістарычныя абставіны:

1) Кароль Стэфан Баторый, авалодаўшы Полацкам, атабраў ад усіх тутэйшых праваслаўных манастыроў вялікія вотчыны, землі і сядзібы, якія здаўна ім належалі, і перадаў усё гэта нанова ў той час створанай Полацкай Езуіцкай калегіі. Хаця, між іншым, актам, дадзеным 8 Мая 1582 г., ахвяраваў ён пад пабудову гэтага манастыра зямлі на два селішчы (пляцы) і вызваліў яго ад гарадскіх павіннасцей.

2) Цар і вялікі князь Аляксей Міхайлавіч, далучыўшы Полацк да Расійскай дзяржавы, дзвюма жалаванымі граматамі, 3 сакавіка 1655 г. і 16 чэрвеня 1656 г., прадаставіў усе ранейшыя ўгоддзі Богаяўленскаму манастыру, злучыўшы яго пад адно кіраўніцтва з Барысаглебскай архімандрыяй[2]. Аднак пасля заключэння з Польшчай міру ў 1667 г. і пасля пераходу Полацка да Польшчы, усе маёнткі зноў перададзены езуітам.

3) У 1658 г., паводле граматы цара Аляксея Міхайлавіча, загадана і апусцелы Запалоцкі Прэабражэнскі манастыр з яго вотчынай, вёскай Выжышча, належачымі яму вёскамі і двума млынамі

---

1 Гл. кн. І, степ. 5. Стар. 277. Параўн. Сцябельск. Zywot s. Eufrozyny Hegum. Potock. 1, 108.

2 Гл. Древ. Росс. Вивліоф., III. Стар. 363 і наступн.

на раця Палаце аддаць таксама абіцелі Богаяўленскай[1]. Аднак пазнейшым часам, па тых самых прычынах, пра якія сказана вышэй, усё гэта трапіла часткова ў рукі езуітаў, часткова іншым асобам.

4) Пасля знішчэння манастыра пажарам браслаўскі земскі суддзя Севасьцян Мірскі адказной граматай, дадзенай 4 чэрвеня 1633 г., аддаў для адбудовы царквы і манастырскага жытла ўласныя свае землі ў Полацку і гэты тэстамэнт замацаваў асобным актам, які зацверджаны каралём Уладзіславам IV у тым самым годзе і засведчаны ў віленскім трыбунале. У той самы час, па благаслаўленні кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы, пабудавана ў гэтым манастыры вялікая драўляная царква ў імя Богаяўлення Гасподня. Аднак і яна 4 чэрвеня 1663 г. пры вялікім пажары ў Полацку згарэла разам з усімі манастырскімі пабудовамі, і потым у 1754 г. — у другі раз[2]. З гэтае прычыны, пры дапамозе дабрачынных прынашэнняў, у 1761 г. пабудаваны на яе месцы мураваны храм, а для брацій — драўляныя келлі. Аднак калі Беларускі край прылучаны да Расійскай дзяржавы, то паводле іменнога загаду імператрыцы Кацярыны II, у 1781 г. адпушчана з дзяржаўнага скарбу на пабудову манастыра, акрамя патрэбнай колькасці ліставога жалеза, грашовая сума 35 221 руб. 18 кап., і на той час пабудавана другая мураваная царква ў імя Св. вялікапакутніцы Кацярыны; цёплая, таксама 6 настаяцельскіх келляў, 16 брацкіх і асобныя памяшканні для вучылішча. Усе гэтыя будынкі мураваныя, двухпавярховыя.

5) У 1622 г. нехта са слаўтага роду Гедройцаў ахвяраваў гэтаму манастыру вёску Ропна, якая знаходзіцца ад Полацка ў 5 вёрстах па Рыжскай дарозе. А 1 лютага 1640 г. шляхціч Іван Юрэвіч аддаў яму за некаторую суму грошай сваю вёску Трасовічы на вечнае ўладанне. Аднак гэта апошняя праз нядоўгі час польскім урадам адабрана. Цяпер манастыр валодае адной вёскай Ропна і некалькімі жылымі пляцамі ў самім горадзе. У гэтай вёсцы прыпісных сялянскіх душ па апошняй рэвізіі лічыцца 42, а мана-

---

1 Гл. тамсама. С. 298 і 299.

2 Гл. Белор. Архив древ. грамотъ. Ч. I, № 45.

стырскай зямлі, ворнай і сенакоснай, пад сялібамі, лесам і сухадолам, усёй 1289 дзесяцін 2275 сажняў.

6) Богаяўленскі манастыр ашчасліўлены быў і наведваннямі, і дабрачыннасцю расійскіх манархаў. Гасудар Аляксей Міхайлавіч пасля ўзяцця Полацка ў 1655 г. неаднаразова наведваў гэтую абіцель і, як сказана вышэй, вярнуў ёй адабраныя для езуітаў былыя ўладанні, а ў наступным годзе, будучы зноў у Полацку, слухаў тут бажэственную літургію і малебства, якое адслужана было з выпадку абрання яго каралём Польскім і вялікім князем Літоўскім[1]. Імператар Пётр I у 1704 г. наведаў абіцель, даўшы грамату аб вольным праездзе манахаў у Рыгу для адпраўлення хрысціянскіх трэб і збору міласціны. Імператрыца Кацярына II, праязджаючы праз Полацк у 1780 г. і ашчасліўшы манастыр высокай сваёй прысутнасцю, мела ласку адпісаць на яго пабудову значную суму. Манарх, які слаўна царствуе цяпер, — Аляксандр — двойчы наведаў гэтую абіцель, у 1802 і 1807 г.

7) Манастыр гэты, паводле граматы свяцейшага патрыярха Нікана, што дадзена 27 сакавіка 1658 г., быў стаўрапігіяльны і залежаў непасрэдна ад патрыяршага прастола[2]. Аднак у наступным годзе цар Аляксей Міхайлавіч даў сваю паслужную грамату, паводле якой загадана яму быць ва ўладанні і паслушэнстве Полацкага епіскапа Каліста[3]. Пасля ж адыходу Полацка да польскай дзяржавы, згодна трактата аб вечным міры, што заключаны 6 мая 1686 г., ён у якасці архімандрыі павінен быў аставацца пры даўніх правах і пры ўсіх царкоўных вольнасцях і, застаючыся праваслаўным, залежаць ад мітраполіі Кіеўскай[4], хаця на той час ім кіравалі ігумены. А сапраўдная архімандрыя засавана была ў ім на падставе імяннога высачайшага загаду ўжо ў 1798 г.

8) Аб настаяцелях гэтай абіцелі, з прычыны знішчэння пажарам манастырскага архіва, поўных звестак не знойдзена. У некаторых запісках і старадаўніх актах упамінаюцца наступныя

---

1 Гл. Древ. Росс. Вивліоф. Ч. III. Стар. 319.

2 Гл. Белор. архивъ древ. грамотъ. Ч. I, № 40.

3 Гл. Древ. Росс. Вивліоф., Ч. III. Стар. 352.

4 Гл. Истор. объ Уніи. Стар. 142.

ігумены: 1) Елісей, 1655 г. 2) Ігнацій І. Іоўлевіч, з 1656 г. Ён па загаду цара Аляксея Міхайлавіча ў 1660 г. пажалаваны архімандрытам Полацкага Барысаглебскага манастыра з захаваннем пры ім ігуменства Богаяўленскага. Гэты вучоны архімандрыт, які карыстаўся павагай цара і вяльможаў, у тым самым годзе прысутнічаў на маскоўскім саборы, што склікаўся, каб нізлажыць патрыярха Нікана, і падаў на ім свой пісьмовы, даволі прэ торны голас, альбо меркаванне, на карысць гэтага патрыярха[1]. 3) Гедэон І, у 1681 г. 4) Ігнацій II Жыгімонтаў, у 1686 г.[2] 5) Калікст Рытарыйскі, у 1697 г.; потым быў епіскапам Полацкім і Віцебскім[3]. 6) Стэфан Іванавіч, у 1699 г.[4] 7) Дзіанісій Марыевіч, у 1715 г.[5] 8) Гедэон II Марыевіч, у 1721 г. 9) Мітрафан. 10) Рафаіл. 11) Самуіл. 12) Іоасаф. Ён у 1798 г. першы пажалаваны архімандрытам. Пасля яго настаяцелямі былі наступныя архімандрыты: 1) Майсей, да 1801, у якім памёр. 2) Аляксандр Каржанеўскі, да 1817 г. 3) Макарый, са стараабрадцаў, да 1819 г. 4) Філадэльф, з іераманахаў Аляксандра-Неўскай лаўры, знаходзіцца дасёння.

XXVII. ПОЛАЦКІ БАРЫСАГЛЕБСКІ, альбо Бельчыцкі[6] мужчынскі манастыр. Знаходзіцца паблізу Полацка, на левым баку ракі Дзвіны, над рэчкай Бельчыцай, ад імя якой Бельчыцкім і называецца. Ён пабудаваны каля 1220 г. полацкім князем Барысам, сынам Гінвіла, названым у святым хрышчэнні Юрыем[7]. Адзін літоўскі пісьменнік[8] успамінае, што на пабудову гэтай абіцелі камень, цэглу і іншыя матэрыялы прывозілі з Лівоніі, па Дзвіне, на стругах і што яна абведзена была мураванай сцяной з высокімі

---

1 Гл. Древ. Росс. Вивлиоф. Ч. III. Стар. 374—382. Тут надрукаваны і прывітальныя яго прамовы да цара Аляксея Міхайлавіча і іншых славутых асоб.

2 Гл. Белор. арх. древ. грамотъ. Ч. 1, № 44.

3 У рукапісе гэты запіс закрэслены. — М.Н.

4 Гл. Белор. арх. древ. грамотъ. Ч. I, № 48.

5 Гл. тамсама, № 54.

6 Гл. Истор. Росс. Іерархіи V. С. 590—597; VI. С. 954 і 1058, ва ўсіх трох месцах апісанні яго няпоўныя і неадпаведныя паміж сабой.

7 Гл. Стрыйкоўскі, Літ. Хрон. кн. VI, Стар. 273 і Сцебельскі.

8 Стрыйкоўскі, гл. прывед. месцы. Стар. 233. Ён дадае, што будучы ў вайсковай службе караля Стэфана Баторыя ў 1576 г. сам бачыў за Дзісной, на адлегласці ад Полацка 7 міль, высунуты з Дзвіны камень, на якім выбіты крыж са славянскім надпісам: Помози Господи рабу своему Борису, сыну Гинвилову. Гл. аб гэтым меркаванне П.І. Кеппена ў яго Список. Русск. памятникамъ. Стар. 103 і 104.

вежамі па вуглах. Пасля ўзяцця царом Аляксеем Міхайлавічам Полацка ягонай граматай, дадзенай 10 снежня 1660 г., загадана злучыць гэты манастыр пад адным кіраваннем з Богаяўленскім, ігумену якога Ігнацію быць адначасова і архімандрытам Барысаглебскім[1]. Аднак у хуткім часе пасля пераходу Полацка да каралеўства Польскага, ён з усёй маёмасцю адабраны і перададзены ва ўладанне манахам базыльянскага ордэна, якія і цяпер жывуць у ім пад настаяцельствам архімандрыта, альбо апата (абата). Аднак цяпер абіцель гэтая зусім амаль пустая і ўяўляе адны сумныя развалiны. Са старажытных будынкаў ацалеў толькі храм Св. Барыса і Глеба, які з прычыны шматразовых перабудоў пазбавіўся велічы старажытнай сваёй архітэктуры, ад якой асталося адно толькі крыжападобнае размяшчэнне сцен.

Да старажытных актаў, што тычацца гісторыі гэтай абіцелі і змешчаны ў "Истории Российской Іерархіи" пры яе апісанні, трэба дадаць і наступную грамату полацкага князя Яраслава Ізяславіча: "Во имя Божіе станься. Я князь Полоцки Ярославъ Изяславовичь сознаваю симъ моимъ листомъ вечне и непорушно ижъ на чолобитье архимандрита нашого борисоглебского филарета и всеи брати его богомолцов нашихъ ку потребе выживеню и пожитку ихъ позволилъ есми и вечне надалъ на основание и сооруженіе млына берег вольны противо ихъ берега на реци Белчици унизъ монастира Борисоглебского межи дорогами которая одъ монастыра идеть и за Белчицою другая дорога до Двины ведёт. А кто сию волю нашу сеи грамоты душеполезнои нарушит, да будетъ часть его со Ариемъ и со Юдою. А на твердость вечную печать нашу велели есмо завесить. Писано бысть во граде нашомъ Полоцку лета от созданного міра SO сотни Д индикта AI."

Іэта грамата пісана на пергаменце скарапісам і да яе на зялёным шаўковым шнурку прывешана васковая пячатка з нейкім адлюстраваннем і неразборлівым круглым надпісам[2]. Зараз захоўваецца ў архіве полацкай уніяцкай кансісторыі.

---

1 Гл. Истор. Росс. Іерарх., V. С. 591. і Древн. Росс. Вивліоф. III. С. 363.

2 П. Кепен, які бачыў аўтэнтык гэтае граматы, лічыць яе сумніцельнай як па почырку, так і па некаторых выразах. Гл. яго Русск. памятн. Стар. 72. Не паглыбляючыся ў гэта пытанне заўважым, што ў ёй летазлічэнне сапраўды падлягае сумнению, бо ў грамаце паказана індыкт AI; аднак у 6904, альбо ад Р.Х. 1396 г., па выкладах Пасхаліі павінна быць індыкту чацвёртаму.

XXVIII. **ПОЛАЦКІ УВАСКРЭСЕНСКІ**[1] мужчынскі манастыр. Знаходзіцца ў горадзе Полацку, у Ніжнім замку. Каралі польскія Стэфан Баторый і Жыгімонт III у 1582 і потым, у 1597 г., старажытную маёмасць, што належала гэтай абіцелі, адабралі і аддалі езуіцкаму ордэну з усімі прыбыткамі. Па гэтай, мусіць, прычыне і сама абіцель з таго часу стала прыходзіць у заняпад. Доказам гэтаму з'яўляецца і тое, што ў 1650 г. тутэйшы ігумен Амфінаген Крыжаноўскі прыязджаў у Маскву да цара Аляксея Міхайлавіча са скаргаю на крыўды, што робяць польскія людзі праваслаўным цэрквам і манастырам і аб намеры караля і магнатаў знішчыць у Літве ўсіх жыхароў, якія вызнаюць грэчаскую веру[2]. Цяпер і развалін гэтага манастыра не відаць.

XXIX. **ПОЛАЦКІ ГАРАДЗЕЦКІ Св. МІХАІЛА** мужчынскі манастыр. Гл. апісанне яго ў Истор. Росс. Іерархіи, ч. VI, стар. 987.

[Без № дапісана алоўкам:] Полацкі Лучэнскі Святіцеля Мікалая. Гл. Бел. Арх., ч. II.

XXX. **ПОЛАЦКІ КАЗЬМА-ДЗЕМ'ЯНСКІ**[3] мужчынскі манастыр, быў за ракой Палатой. Польскія каралі Стэфан Баторый, Жыгімонт III, заснаваўшы ў Полацку калегію езуіцкага ордэна, аддалі ёй маёнткі, што належалі як гэтаму манастыру, так і іншым праваслаўным. Ад гэтага і сама абіцель, знаходзячыся доўгі час пад уціскам, прыйшла, нарэшце, да разбурэння. Цяпер і развалін яе непрыкметна. Сцябельскі[4], упамінаючы пра гэты манастыр, з ігуменаў называе аднаго толькі Варсанофія, аднак без пазначэння гадоў.

[Без №, дапісана пазней:] Полацкі Петрапаўлаўскі асобна, у грамаце езуітам.

XXXI. **ПОЛАЦКІ СВ. ПЯТРА АПОСТАЛА**[5] мужчынскі манастыр знаходзіўся ў горадзе Полацку, у яго замку. Час першапачатковага заснавання гэтай абіцелі, па прычыне сівой

---

1 Гл. Истор. Росс. Іерархіи, VI. С. 981.

2 Гл. Исторію объ Уніи. Стар. 117.

3 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерарх. не ўпамінаецца.

4 Гл. яго Chronol. dziejow na Bialey Rusi w Polocku II, 158 у заўваг.

5 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерарх. не ўпамінаецца.

старажытнасці, пакрыты невядомасцю. Пры ўзяцці Полацка Стэфанам Баторыем у 1579 г. яна ператворана ў попел, а маёмасць яе, паводле прывілея гэтага караля, перайшла езуітам. Сцябельскі, упамінаючы аб гэтым манастыры, з настаяцеляў упамінае архімандрыта Іону[1], але без пазначэння гадоў. У Полацку паказваюць месца, якое па-польску называецца Wojskowa wieza, г. зн. вайсковая вежа, байніца, бліз каторай стаяў манастыр і дзе цяпер знаходзіцца невялікі касцёл у імя Пятра і Паўла, які належыць каталіцкім ксяндзам.

XXXII. **ПОЛАЦКІ Св. ПРАДЦЕЧЫ**[2] мужчынскі манастыр. Існаваў на левым баку ракі Дзвіны, насупраць полацкага замка, на востраве Екіманскім. Аб ім упамінаецца ўжо ў сярэдзіне XII ст[3]. Падчас заняцця горада Стэфанам Баторыем у 1579 г. гэты манастыр ператвораны ў попел, а маёнткі, якімі ён карыстаўся паводле каралеўскага прывілея, тады ж перададзены езуіцкаму ордэну. Цяпер і развалiны яго непрыкметныя. Між іншым, варта ўвагі, што ў гэтай абіцелі настаяцельства было архімандрыцкае, як запэўнівае Сцябельскі[4].

XXXIII. **ПОЛАЦКІ ПРААБРАЖЭНСКІ**, альбо Запалоцкі гэтага імя, мужчынскі манастыр (гл. апісанне яго ў Истор. Росс. Іерархіи, IV, с. 135, V, с. 626 і 627).

XXXIV. **ПОЛАЦКІ СЕЛІЦКІ**, альбо **Спаскі**[5], дзявочы манастыр знаходзіцца паблізу Полацка, над рэчкай Палатой. Ён заснаваны каля 1160 г. прэпадобнай Ефрасінняй, альбо Прадславай, дачкой

---

1 Гл. яго Chronolog. dziejow w Polocku. II. 158 у заўв. У суднай грамаце Архіеп. Германа ўсп. 1553 г.

2 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерарх. не ўпамінаецца.

3 Пры харацейным Полацкім Евангеллі, пісаным 1164 г., якое захоўваецца ў бібліятэцы Дзяржаўнага канцлера графа Румянцава, знаходзіцца наступнае пасляслоўе: "Въ лето ■ ХОВ/ 6672, ад Р.Х. 1164/ написаны быша книгы сия. мца Авъгу. въ В день мною грешънымъ рабомъ и дьякомъ Стыхъ Аплъ. Констянътиномъ а мирскы Добрило. Симеону попови Стаго Иоана ПРДТЧА. братья и отци ажебы где криво а исправивше чтите а не кленете, яко же радуется" и пр.

4 Гл. яго Chronolog. dziejow w Polocku II, 158, заўвагі. Запэўніваюць таксама, што ў гэтым манастыры была і друкарня, аднак гэтыя звесткі, не падмацаваныя ніякімі сведчаннямі, застаюцца пад сумненнем.

5 Гл. Истор. Росс. Іерарх. VI, С. 1039 і 1045.

полацкага князя Грыгорыя-Святаслава Усяславіча, якая, як пішуць сачыніцелі Сцяпенных кніг і Чэцці-Мінеі[1], пастрыглася ў манастыр, дзе жыла цётка яе, супруга князя Рамана, у чыне іначскам. Княжна Ефрасіння спярша некаторы час была пры Сафійскім епіскапскім храме, у галубцы (каморы), і займалася спісваннем богаслужэбных кніг. Праз некалькі гадоў, перасяліўшыся за горад, на месца пад назвай Сяльцо, дзе знаходзілася падвор'е (метохія) епіскапскай кафедры і малая драўляная царква ў імя Св. Спаса, заснавала тут дзявочую абіцель і ў ёй мураваны храм. Будучы за ігуменню, яна пастрыгла родную сястру сваю Гарыславу, дваюрадную Звеніславу, дачку князя Барыса Усяславіча, і дзвюх пляменніц, дачок брата Вячаслава. Хуткім часам тамсама пабудавала яна бліз сваёй абіцелі і другую мураваную царкву ў імя Прэсв. Багародзіцы, і пры ёй заснавала асобную абіцель для інакаў. Выпрасіла ў грэчаскага імператара Мануіла Комніна і патрыярха Лукі Хрызавергія для свайго манастыра Эфескі абраз Багамацеры, што быў напісан Св. евангелістам Лукой. Потым, даручыўшы абіцель сваёй сястры Еўдакіі, сама пайшла разам з братам Давідам у Палесціну; наведала святыя мясціны і на гробе Ратавальніка паставіла залатую кадзільніцу з мноствам дабравоннага фіміяму. Памерла і пахавана ў Іерусалімскім Рускім манастыры Св. Феадосія, паблізу Віфлеема, альбо, як пішуць некаторыя[2], у Кіеве, дзе і цяпер у дальняй пячоры, у царкве Дабравешчання паказваюць Св. мошчы гэтай княжны.

Селіцкі манастыр, аддадзены калісьці езуітам, даўно разбураны. Цяпер засталася толькі мураваная царква Св. Спаса, усярэдзіне якой відны яшчэ рэшткі старажытнага карсунскага жывапісу і шматлікія надпісы. Найкаштоўнейшы помнік гэтай абіцелі — крыж Св. Ефрасінні з такім надпісам на абодвух баках: "въ лето 6669 г. (ад Р. Х. 1161) покладаеть Офросинья честныи крестъ в монастыри своем въ церкви стаго Спаса. Чѣстное древо безценно есть и кованье его злато и сребро и каменье и жемчюгъ в Р (100) гривнъ и др... М (40) гривнъ да не изнесется изъ монастыря

1 Гл. Ч. І., кн. 1., С. 270—282 і ў Мінеі жыцце Св. Ефрасінні, пад 23 чыслом Мая. Пар. Сцяб. Zyw. в. Hegum. Ewfrozyny Polock. 1. с. 108.

2 Гл. Описаніе Кіевопечерскія Лавры. Стар. 116. Тыя, хто згаджаецца з такім меркаваннем, думаюць, што княжна Ефрасіння, вяртаючыся з Палесціны, не даехала да Полацка і памерла ў Кіеве.

никогда же яко ни продати ни отдати аще се кто преслоушаеть и знесеть и от монастыря да не буди ему помощникъ честныи крст ни во сь векь ни в боудущии и да будеть проклят Стою животворящею Троицею и стыми отцы тиі семии съборъ стыхъ отць и боуди емоу часть съ Июдою, иже преда Хста. Кто же дрзнеть стъворити се....властелинъ или князь или пискуп или игуменья или которыи любо члвкъ, буди емоу клятва сія Офросинья же раба Хва створивши крстъ сии прииметь вечноую жизнь со всеми с тыми". На адвароце гэтага крыжа знаходзіцца яшчэ другі, самымі дробнымі літарамі выразаны надпіс мастака, наступны: "Ги помози рабоу своемоу Лазорю, нареченномоу Богьши, сделавъшемоу крстъ сии церкви Стаго Спаса и Ефросинъи"[1]. Гэты каштоўны крыж захоўваецца ў полацкай кафедральнай царкве Св. Сафіі, дзе цяпер уніяцкі базыльянскі манастыр, пры якім з прычыны запусцення дзявочай Спаскай абіцелі жывуць і базыльянкі.

XXXV. **ПОЛАЦКІ САФІЙСКІ**[2] мужчынскі манастыр знаходзіцца ў горадзе Полацку ў Верхнім замку: Заснаваны ён, найбольш верагодна, вялікім роўнаапостальным князем Уладзімірам альбо яго сынам, полацкім князем Ізяславам[3]. Пра гэта сведчыць тое, што тутэйшая епіскапская кафедра пры храме Св. Сафіі, зацверджана яшчэ ў XI ст., таксама і тое, што прэпадобная княжна Ефрасіння да пабудовы сваёй абіцелі ў Сяльцы, была пры кафедры епіскапа Ілλі, які, сярод вядомых іерархаў гэтай паствы, вядомы ўжо як трэці[4]. Полацкі князь Барыс Гінвілавіч, унук Мінгайлы, які заснаваў каля 1120 г. Барысаглебскі манастыр над ракой Бельчыцай, у той самы час пабудаваў у гэтай абіцелі мураваны Сафійскі храм, у каторым ён сам пахаваны, і які існаваў да канца XVI ст. ва ўсёй велічы старажытнае архітэктуры[5]. Аднак на працягу так многіх стагоддзяў ад шматлікіх пабудоў засталася адна толькі

---

1 Меркаванні пра гэтыя два надпісы гл. ў Кепена, у яго Списк. Русск. Памятникокамъ, стар. 41— 45, які выправіў памылкі Ассеманія і Папеброхія. Параўн. таксама Стебельск.

2 Гл. Истор. Росс. Іерарх. 4. С. 1039.

3 Гл. Несецк. Metropd. Ruska. Стар. 92 ■ Стебольск. I. С. 89.

4 Гл. вышэй каталог полацкіх архірэяў.

5 Стрыкоўскі ў Хронол. Литовск., гл. XII, піша, што каля 1590 г. ён сам бачыў гэты старажытны Сафійскі храм і [illegible] гай гаворыць пра яго веліч.

сцяна, з якой адметным спосабам злучана гэта царква. Да славутасцей гэтай абіцелі адносіцца і тое, што ў 1656 г. цар Аляксей Міхайлавіч, ідучы з Полацка ў горад Рыгу, браў з сабой цудатворны абраз Св. Багародзіцы Полацкай, а адтуль — у Маскву, і, упрыгожыўшы яго золатам і каштоўнымі каменнямі, вярнуў у Сафійскі храм з епіскапам Калістам[1]. Пра маёмасць гэтага кафедральнага манастыра дастатковых звестак не знойдзена[2]. Цяпер жывуць у ім уніяцкі ксёндз, базыльяне.

XXXVI. ПОЛАЦКІ ТРОІЦКІ[3] мужчынскі манастыр знаходзіўся за ракой Палатой. Ён падчас узяцця горада Полацка ў 1579 г. каралём Стэфанам Баторыем ператвораны ў попел, а маёмасць, якая захавалася, паводле прывілея гэтага ж караля тады ж прадастаўлена для валодання езуіцкаму ордэну. Цяпер ніякіх слядоў абіцелі не засталося, акрамя назвы Духаўскай вуліцы, што праходзіць за Палатой, на якой стаяў манастыр. Варта заўвагі тое, што ў ім настаяцельства было архімандрыцкае. Сцябельскі ўпамінае архімандрыта Алексія, аднак без пазначэння часу, калі той жыў[4]. Між іншым, пра старажытнасць гэтага манастыра бясспрэчным сведчаннем з'яўляюцца наступныя ўкладныя, якія знаходзяцца пры полацкім харацейным Евангеллі XII ст., што захоўваецца ў бібліятэцы дзяржаўнага канцлера графа М.П.Румянцава:

І "Во имя о[т]ца и с[ы]на и с[ве]того Духа се аз, раб Божий Иван Никонович Демъньтеяв с[ы]н, отходя сего свъта, дал есми с-той Тр[оіуе]ви три мъста ролейные на великом поли, да поженька, да лоуг на Полоте да огород оу старом городе да польгумна о[т]цю своему на память и особъ и дитяти а хто иметь о[т]нимати

1 Гл. Древн. Росс. Вивліоф. Ч. III. Стар. 353.

2 На харацейным евангеллі XV ст., што знаходзіцца ў бібліятэцы графа Ф.А.Талстога, у Маскве, змешчана адказная грамата князя Івана Юр'евіча і жонкі яго, княгіні Юльяны, полацкаму архіепіскапу Калісту аб прадастаўленні імі храму Св. Сафіі земляў, маёмасці і інш. Гл. Катал. гэтай бібліят., сач. Калайдовічам і Строевым. Адд3. II. Стар. 212.

3 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерарх. не ўпамінаецца.

4 Гл. яго Chronol. dziejow w Polsku, II. 158. Варта зазначыць, што гэтая архімандрыя, акрамя епіскапскай кафедры, ёсць чацвёртая ў Полацку.

о[т] с-тое Тр[оя]ци или велможа или поп иметь продавати да боудет проклят в сиё век и в боудоущий."

II "А се: яз великии Князь Андреи Полацкии дали есми с-тои Троици реку Званоую з гоны з [бо]бровыми о[т] Звана о[т] Запада до Дрисы а к тои реце ни комоу прихода нет а по моем животе которыи Кизь имет о[т]нимати соудить емоу с-тая Тр[ои]ца да боудет проклят".

III "Се аз Андреи Данильевич аже ми ся оучинит не быть оу Полотьске даю сельце на Просплоужьци свою очиноу и дединоу с-тои Троици Отцю своемоу и матери и своемоу племени на память и собе на память ажо оуступиться которыи Князь или вельможа да соудить емоу с-тая Троица на страшном соудѣ да боудет проклять."

XXXVII. **ПУСТЫНСКІ**[1] **ПРЭСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ** мужчынскі манастыр знаходзіцца за 6 вёрст ад горада Мсціслаўля. Пра пачатак яго нічога невядома. Аднак са старажытных пісьмовых помнікаў відаць, што абіцель гэтая была праваслаўнай ужо ў самым пачатку XVI ст., і што, паводле лістоў польскіх каралёў Жыгімонта I і Жыгімонта Аўгуста, таксама мсціслаўскага князя Міхаіла Іванавіча, прадастаўлены быў ёй для карыстання кавалак зямлі пры сяле Любніцкім і з яго штогадовая даніна, якая складалася з трох рублёў грошай шырокай лічбы, таксама і іншыя прыбыткі[2]. У 1631 г. ўжо знаходзім манастыр гэты ў руках уніятаў, якія, карыстаючыся падтрымкай свайго мітрапаліта Іосіфа Вельяміна Руцкага, атрымалі тады пацвярджальны на гэтыя землі прывілей[3]. Здаецца, з таго часу праваслаўныя былі не ў стане вярнуць яго, пры ўсіх сваіх намаганнях[4] ад уніяцкіх базыльянскіх ксяндзоў, якія дасёння знаходзяцца ў гэтай абіцелі і валодаюць усёй належачай яму маёмасцю.

XXXVIII. **СЕБЕЖСКІ Св. МІКАЛАЯ**[5] манастыр знаходзіцца паблізу горада Себежа, і, паводле старажытнага падзелу, належаў да вобласці Пскоўскай. Таму ён даўней не лічыўся ў ліку беларускіх абіцеляў. У 1558 г. спалены лівонскімі рыцарамі[6].

---

1 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерах. не ўпамінаецца.
2 Гл. Белор. архив древ. грамотъ. Ч. 1, № 2, 10 і 32.
3 Гл. тамсама. Стар. 81—84.
4 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 280 і 302.
5 Пра гэты манастыр ў Истор. Росс. Іерарх. не ўпамінаецца.
6 Гл. Истор. Росс. Госуд. Карамзина. Т. VIII. Стар. 286 (па першаму выд.).

XXXIX. СЕЛІЦКІ[1] праваслаўны дзявочы манастыр існаваў у Мсціслаўскім ваяводстве і ў 1747 г. адабраны уніятамі[2].

XL. САЛАМЕРЫЦКІ[3] мужчынскі манастыр у Магілёўскім ваяводстве. Упамінаецца ў ліку праваслаўных беларускіх абіцеляў у чэлабітнай, пададзенай цару Пятру І 20 студзеня 1718 г. аб прыцясненнях праваслаўных ад каталікаў і уніятаў. І хаця па хадайніцтву расійскага гаспадара лістом караля польскага Аўгуста II, дадзеным 28 лістапада 1720 г., пакінуты разам з іншымі ў сваіх правах і праваслаўнай веры[4], але пры ўзмацненні ганенняў на падданых Вялікага княства Літоўскага, якія вызнавалі праваслаўе, перададзены да уніі.

XLI. СТРЭКАЛАЎСКІ[5] праваслаўны манастыр. Знаходзіўся ў Мсціслаўскім ваяводстве і ў 1722 альбо 1730 г., праз памешчыкаў шляхцічаў Грыневых перададзены да уніі і аддадзены базыльянам[6].

XLII. ЦЕРАШКОЎСКІ[7] мужчынскі манастыр. Заснаваны ў 1685 г. шляхцічам праваслаўнае веры Клімовічам, які ў манастве названы Варсанофіем. Размешчаны непадалёку ад Церашковічаў, у пустынным месцы, бліз ракі Сож, каля сяла Скіткі. Заснавальнік пабудаваў тут драўляную царкву ў імя Раства Багародзіцы, забяспечыўшы свяшчэннымі прыналежнасцямі і кнігамі, і для ўтрымання абіцелі ахвяраваў значныя землі і сенажаці. У фундушовым лісце абазначаны граніцы зямлі ў наступным палажэнні: пачаўшы з ракі Сож, востравам Куннім, на пераналок з сялом Бабовіцкім граніца ля возера Глушэц угору, а Глушцом да дзятлавіцкай граніцы, ад дзятлавіцкай граніцы возерам Глушцом у Калотаў востраў. А сенажаці манастыру належаць, пачаўшы ад дубоў да дарогі Гомельскай, ад дарогі ж у лес, што называецца Малкоў; лесам у верх ракі Сож да забочы Асняжоўскай, тут у балота, да Северскай граніцы; ад двух дубоў у раку Сож, а Сожам уніз да тых самых двух дубоў[8]. Хаця гэты манастыр, паводле

---

1 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерарх. не ўпамінаецца.
2 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 441.
3 Гл. Истор. Росс. Іерарх., VI. С. 169.
4 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 166 і 190.
5 Гл. Истор. Росс. Іерарх. VI, с. 332.
6 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 280 і 436. Тут ён названы інакай — Стрэквілоўскі.
7 Гл. Истор. Росс. Іерарх. VI. С. 366.
8 Гэты акт упісаны фундатарам у гродскія кнігі Рэчыцкія (Мінскай губерні) і таксама ў 1742 г. засведчаны на Мсціслаўскім урадзе. Копія яго захоўваецца ў архіве Магілёўскай дух. кансісторыі.

ліста караля Аўгуста II 28 лістапада 1720 г., як і ўсе іншыя беларускія і літоўскія абіцелі праваслаўныя, пакінуты пры сваіх ранейшых правах і праваслаўнай веры[1], але нягледзячы на гэта, 6 лістапада 1743 г. адобраны быў уніятамі. Ксяндзы базыльяне жылі ў ім і карысталіся ўсёй маёмасцю да 1765 г. Нарэшце, у гэтым годзе ён вернуты да праваслаўя. Цяпер тут прыходская царква і пры ёй адзін свяшчэннік з прычтам. Сяляне вёскі Скітка, якія здаўна належалі манастыру, цяпер лічацца прыпіснымі да гэтай царквы; паводле апошняй рэвізіі лічыцца іх мужчынскага полу 26 душ.

XLIII. ЦЭРКАВІЦКІ[2] дзявочы праваслаўны манастыр знаходзіўся ў Мсціслаўскім ваяводстве. У 1730 г. альбо крыху пазней тамашні памешчык Юры Івановскі, мінскі староста, выгнаўшы манахінь, прымусова павярнуў гэтую абіцель на унію[3].

XLIV. ЧОНСКІ УСПЕНСКІ[4] мужчынскі манастыр магілёўскай епархіі. Знаходзіцца ў Беліцкім павеце на левым беразе ракі Сож, у акружаным лесам месцы, якое называецца Чонка, ад якога і абіцель атрымала найменне. Заснавана ў 1775 г. інакам Феафілактам на зямлі, што належала панам Кельчэўскім і Усціновічавай, якім па кантракту манастыр абавязаны быў плаціць 10 гадоў па 20 руб., а па сканчэнні гэтага часу — удвая. Аднак калі ў 1786 г. памянёныя гаспадары прадалі ў казну ўрочышча Шчокат з належачымі да яго землямі (для пабудовы на тым месцы павятовага горада), то ў ліку гэтых земляў як манастырскі абруб перайшоў ва ўласнасць казны, так і памянёныя плацяжы аброчнай сумы. У выніку, у 1800 г. зямля, якой манастыр да гэтага часу карыстаўся, паводле высачайшага загаду, выключана з казённых аброкаў і дадзена яму на вечнае карыстанне, хаця яшчэ канчаткова не аддзелена.

Манастыр гэты, як стараабрадчы, у ліку іншых такіх знаходзіўся напачатку пад кіраваннем архірэя Наварасійскай епархіі,

1 Гл. Истор. объ Унін, стар. 101.

2 Пра гэты манастыр у Истор. Росс. Іерарх. не ўпамінаецца.

3 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 280 і 439.

4 Гл. Истор. Росс. Іерарх. VI. С. 710.

аднак у 1799 г. пераведзены ў Магілёўскую, з правам заставацца пры захаванні старых абрадаў. Нарэшце, у 1822г., пакінуўшы як гэтыя, так і старадрукаваныя кнігі, зусім далучыўся да праваслаўя і цяпер у адзенні, чытанні і спевах паўтарае Сараўскую і Валаамаўскую дабрачынныя пустыні. У ім усе будынкі драўляныя. Галоўны храм у імя Успення Багародзіцы, пры якім ёсць яшчэ адна царква ў імя свяціцеля Мікалая, цёплая. У іх абразы грэчаскага пісання, у ліку якіх асабліва варты ўвагі адзін вялікі Ціхвінскай Боскай Маці, а другі меншы Знаменне яе. Абодва гэтыя абразы ў рызе срэбнапазалачоных, а паверх іх хітоны шчодрай рукой унізаны перламі, дыяментамі і іншымі каштоўнымі камянямі. Гэтыя ўпрыгожанні ацэньваюцца каля 00 тысяч руб. Яны з'яўляюцца ўкладам ад С.-Пецярбургскай купецкай жонкі Пазняковай. З настаяцеляў гэтага манастыра па запісах вядомы наступныя:

1. Страіцель, манах Феафілакт, з 1775 г. да 1795 г.

2. Аўрамій, з 1797 г. па 1798 г., выбыў у Нікадзімаву стараабрадчую абіцель.

3. Іераманах Сергі, у 1799 г. Тут і памёр. Ён сачыніў кнігу "Зерцало Старообрядцев."

4. Ісаія, манах, 1799—1801 г.

5. Іоасаф, іераманах, да 1805 г., у якім тут памёр.

6. Арсені, стаіцель-іераманах, да 1807 г.

7. Іаіль, іераманах, да 1809 г.

8. Вагалей Юршэў, іерадзякан, у 1810 г. Цяпер ігумен у Невельскім Прэабражэнскім манастыры.

9. Аўгусцін Старыкаў, ігумен, з 1810 г. знаходзіцца дасёння.

XLV. ШКЛОЎСКІ УВАСКРЭСЕНСКІ[1] мужчынскі манастыр магілёўскай епархіі. Знаходзіцца на беразе ракі Дняпро, каля мястэчка Шклова, ад каторага і мае сваю назву. Ён пабудаваны ў 1702 г. па благаслаўленні магілёўскага епіскапа Серапіёна Палхоўскага і з дазволу бельскага ваяводы Сеняўскага. Як і іншыя беларускія праваслаўныя абіцелі, цярпеў ён прыцясненні ад уніятаў і каталікаў[2], нягледзячы на тое, што лістом караля Аўгуста

---

1 Гл. Истор. Росс. Іерарх., 14, 730.
2 Гл. Истор. объ Уніи, стар. 254.

II, дадзеным 28 лістапада 1720 г., пакінуты пры праваслаўнай веры і непарушанай сваёй маёмасці[1].

Цяпер у ім будынкі мураваныя. Галоўны храм у імя Уваскрэсення Хрыстова, з чатырма прастоламі. Абіцель гэтая, акрамя невялікіх агародаў, ні сялян, ні іншай маёмасці не мае.

Настаяцельства ў гэтым манастыры ад самай пабудовы зацверджана ігуменскае. Па манастырскіх запісках, ацалелых ад пажараў і часу, вядомыя наступныя ігумены і страіцелі:

1. Ігумен Іаан Тударовіч, у 1717 г.
2. Іг. Гаўрыіл, 1782 г.
3. Іг. Іосіф Блажэўскі, 1786 г.
4. Страіцель, іераманах Самуіл 1790 г.
5. Іг. Іларыён, 1793 г.
6. Стр., іераманах Ігнацї, у 1794 г.
7. Стр., іераманах Пётр I, з 1799 г.
8. Іг. Дасіфей Сілініч, 1803—1815 г.
9. Блюсціцель, іераманах Герман, 1816 г.
10. Блюсціцель, іераманах Ароній, 1817 г.
11. Стр., іераманах Пётр II, 1820 г.
12. Іг. Феакціст, з 1821 дасёння.

XIVI. ШКЛОЎСКІ УСПЕНСКІ[2] дзявочы манастыр. Знаходзіцца ў мястэчку Шклоў, бліз цяперашняй Магілёўскай заставы. Час яго першапачатковага заснавання невядомы, аднак аб ім упамінаецца ў лісце караля Аўгуста II ад 28 лістапада 1720 г. пра ахоўванне беларускіх праваслаўных абіцеляў ад прыцясненняў іншаверцаў[3]. У 1795 г. ліквідаваны і ператвораны ў прыходскі храм.

---

1 Гл. тамсама, стар. 190.

2 Пра гэты манастыр у Иистор. Росс. Іерарх. не ўпамінаецца.

3 Гл. Истор. объ Уніи. Стар. 191.

Навукова-папулярнае выданне

Грыгаровіч Іван Іванавіч

БЕЛАРУСКАЯ ІЕРАРХІЯ

Рэдактар І.П.Хаўратовіч
Мастацкі рэдактар А.М.Кількевіч
Тэхнічны рэдактар М.І. Грыневіч
Карэктары В.І. Багдановіч, Т.Я. Радзевіч, Л.У. Сідарава
Аператары НДТ І.У. Грыцэль, Н.М. Зубкевіч

Н/К

Падпісана да руку 27.10.92. Фармат 60x84 1/16. Заказ 51. Ум. друк. акр. 5,92. Ул.-выд. арк. 5,34. Тыраж 5 000 экз.

Надрукавана на ратапрынце выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. 220600, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 15а.